№ 31 (3874)

22 красавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС





# Сёння Аляксандр Лукашэнка звернецца з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага Сходу

Яно будзе транслявацца ў прамым эфіры па тэлеканале "Беларусь 1" і Першым нацыянальным канале Беларускага радыё. Трансляцыя з Авальнай залы Дома ўрада пачнецца а 11.00. Тэлеверсія (скарочаная версія) гэтага выступлення традыцыйна будзе паказана ў вячэрнім эфіры беларускіх тэлеканалаў.

Але падобна на тое, што галоўную заяву Аляксандр Лукашэнка ўжо зрабіў.

**"Наша дзяржаўнасць непахісная, і розныя размовы пра тое, што заўтра мы ўвойдзем у нейкія дзяржавы і аб'яднанні, для Беларусі непрымальныя",** — заявіў ён днямі.

Цяпер многія чакаюць, што ў Пасланні беларускаму народу Аляксандр Лукашэнка больш падрабязна спыніцца менавіта на гэтай тэме.

Як вядома, фармальна Беларусь даўно ўвайшла *"ў розныя дзяржавы і аб'яднанні".* Так, на паперы з 1999 года існуе Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі. Згодна з дамовай, на якой стаіць подпіс Аляксандра Лукашэнкі, гэта дзяржава будзе мець герб, сцяг, гімн і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці. А таксама — парламент, урад, адзіную грашовую адзінку. Вызначана, што грамадзяне Беларусі і Расіі аўтаматычна робяцца грамадзянамі Саюзнай дзяржавы, што будзе пацверджана дакументамі адзінага ўзору для Беларусі і Расіі...

Адным словам, Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі першапачаткова была задумана як паўнавартасная канфедэратыўная дзяржава. Усё гэта дае магчымасць аналітыкам сцвярджаць, што фармальна Беларусь у асобе Аляксандра Лукашэнкі яшчэ ў 1999 годзе пагадзілася на страту суверэнітэту (калі не разумець суверэнітэт і незалежнасць у тым сэнсе, у якім яны разумеліся падчас існавання БССР у складзе Савецкага Саюза).

Такім чынам, атрымліваецца, што лёс Беларусі быў вызначаны яшчэ ў 1999 годзе, хаця да ажыццяўлення новага імперскага праекта Расія прыступіла толькі ў 2008-м, узяўшы пад кантроль Абхазію і Паўднёвую Асецію. Цяпер далучылі Крым, нацэліліся на ўсход і паўднёвы ўсход Украіны. Прыднястроўе ў склад "новай Расіі" ўжо само просіцца...

У свеце ўсіх гэтых падзей вельмі верагодным падаецца, што і для Беларусі набліжаецца час выконваць узятыя ў 1999 годзе абавязацельствы.

Ці азначаюць апошнія выказванні Аляксандра Лукашэнкі, што ён гатовы разарваць дамову аб Саюзнай дзяржаве? У крайнім выпадку — змяніць яе змест з улікам падзей, якія адбыліся ў апошнія гады на постсавецкай прасторы.

Пасланне беларускаму народу — гэта сур'ёзнае, галоўнае выступленне кіраўніка дзяржавы. Так што будзем чакаць ясных і зразумелых адказаў на галоўныя, лёсавызначальныя пытанні.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Мікалаю Аўтуховічу не дазволілі прайсці медыцынскае абследаванне ў Вільнюсе

*Былы палітзняволены распавёў "Народнай Волі", як прайшлі два тыдні на волі і чаму яго не адпускаюць на дыягностыку ў літоўскую клініку.*

Нагадаем, што ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, які правёў за кратамі больш за пяць гадоў, вызваліўся 8 красавіка.

— Два тыдні праляцелі, як адзін дзень, — распавядае Мікалай. — Госці, госці, госці... Адны з'язджаюць, другія прызджаюць.

**— Вы збіраліся пасля вызвалення заняцца сваім здароўем...**

— Зараз спрабуем атрымаць дазвол у раённай інспекцыі па наглядзе за тымі, хто адбыў пакаранне, каб можна было легчы на стацыянарнае абследаванне ў Мінску. У Ваўкавыску ж нават МРТ няма, уяўляеце?! Дарэчы, хацеў прайсці дыягностыку ў аднай вільнюскай клініцы (там магчымасці куды шырэйшыя, чым нават у беларускай сталіцы), але інспекцыйная камісія мне адмовіла. Пакуль на словах, але я хацеў бы атрымаць ад іх пісьмовы варыянт. Калі са мной што здарыцца, няхай адказваюць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АКТУАЛИИ

*Светлана КАЛИНКИНА*

## Докатились...

**Когда новости в одно ухо влетели — в другое вылетели, то вроде как все у нас совсем не плохо. Заводы работают, крестьяне пашут, солнце всходит и заходит, все под контролем... Однако если вдуматься в суть отдельных новостей, то не одну неделю беспробудно пить будешь, размышляя над вопросом: как же мы докатились до жизни такой?!**

**На минувшей неделе правительство отчиталось хорошей новостью: в первом квартале этого года белорусская экономика продемонстрировала оживление. Мало кто эти улучшения заметил, но все порадовались. Вот только глава правительства тоже оживился, посетив сразу несколько крупных предприятий. Например, гордость белорусского станкостроения — ОАО "Минский завод автоматических линий имени П.М.Машерова".**

**Как выяснилось, и там у завода крупный проект, и тут не маленький; и один тендер станкостроители выиграли, и другой. Но, как сообщает пресс-служба Совмина, Михаил Мясникович не только *"ознакомился с ходом технического перевооружения предприятия",* но и *"поручил администрации Партизанского района Минска оказать предприятию помощь в ремонте кровли".* Согласитесь, последнее уточнение о ситуации на заводе говорит больше, чем любой многословный доклад.**

**Петр Миронович Машеров, именем которого назван завод, наверное, в гробу перевернулся! В его времена с ускорением пинком под зад летели бы со своих должностей и глава правительства, и директор за такие *"успехи"* и *"показатели".* Это ж до ручки надо было довести завод, чтобы он самостоятельно собственную крышу починить не мог! Если раньше завод работал, то это означало, что он и себя обеспечивает, и городу помогает, садики, школы, подшефные колхозы поддерживает. А сегодня, наоборот, надо забирать деньги у школ и детсадов, чтобы на *"промышленном гиганте"* крышу залатать. Докатились!**

**Еще один адрес поездок премьера — ОАО "Промсвязь", единственное промышленное предприятие, входящее в состав Министерства связи и информатизации Беларуси. Казалось бы, сегодня оно должно просто процветать, ведь наступил век развития сферы коммуникаций, и в этой отрасли, как ни в одной другой, наблюдается настоящий бум.**

**Во всем мире, только не у нас!**

**Как выяснилось, на белорусском заводе борются за выживание — ведут безуспешные переговоры с китайской компанией Huawei, пытаясь уйти от простой сборки и перейти к производству собственной продукции. Китайцам даже предложили выкупить 99,8% акций "Промсвязи" — весь пакет, принадлежащий государству. Однако, как доложил премьеру директор завода Александр Гелясин, партнеры из Поднебесной не горят желанием покупать белорусский завод. Оказывается, *"стратегия развития Китая не приветствует приобретение технологического предприятия".***

**Кто бы сомневался! Зачем кому-то покупать завод, если ничего уникального он предложить не может? Предоставить дешевую рабочую силу для простейшей сборки — вот все, на что мы можем рассчитывать во *"взаимовыгодном сотрудничестве".* Впрочем, как и другие страны третьего мира.**

**Узнай про такое Машеров, он бы ужаснулся, тем более что это в его бытность предприятие было создано на базе мелких мастерских. Если бы тогда первому секретарю ЦК кто-то сказал, что Китай догонит, перегонит и даже будет воротить нос от "Промсвязи", он бы просто не поверил. Потому что и в те времена, и аж до 90-х годов прошлого века подобных производств в Китае даже близко не было. Зато были голод, феодального уровня промышленность, отсталое сельское хозяйство, да по улицам бегали оголтелые, преданные линии партии, хунвэйбины...**

**Сегодня хунвэйбины бегают у нас, объявляя всех, кто критикует действующую власть, "пятой колонной". Зато из Китая мы уже импортируем и простейшие трусы, и сложнейшие технологии.**

**Докатились!**

**Примеров деградации, настоящего вырождения белорусских производств и даже целых отраслей можно приводить много. Но из "свежего" не могу не вспомнить вопиющие итоги проверки Комитетом государственного контроля реализации Республиканской программы по племенному животноводству. Как выяснилось, государственные деньги, выделенные под эту программу, были просто выброшены на ветер, племенное стадо уходило на... мясокомбинаты. Выплыли просто шокирующие цифры. КСУП "Племенной завод "Дружба" направил в хозяйства всего чуть больше 4% от выращенных бычков, а все остальные пошли на мясо. Аналогичная ситуация и на ГП "Племзавод "Ленино", где участи стать колбасой и шкваркой избежали всего только 7% свиней...**

**Что можно сказать о стране, которая из государственного бюджета выделяет средства на "выведение новых пород", но это означает — на уничтожение, на убой, на ликвидацию? Только то, что страна живет в каком-то театре абсурда.**

**Но мы ведь живем. И даже ничего вопиющего в такой жизни не видим. Наоборот, если бы проверка Госконтроля выявила, что деньги пошли на дело, потрачены разумно, эффективно, с отдачей — вот это в белорусских реалиях было бы по-настоящему удивительно.**

**Одним словом, докатились...**

УЧОРА

## Амністыя не за гарамі

*Учора А.Лукашэнка ўнёс на разгляд у Палату прадстаўнікоў праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў".*

*"Прадугледжана вызваленне ад крымінальнай адказнасці і пакарання катэгорый асоб, якія ў найбольшай ступені заслугоўваюць літасці,* — паведамляе прэзідэнцкая прэс-служба. — *Гэта непаўналетнія, цяжарныя жанчыны, асобы пенсіённага ўзросту, інваліды, ветэраны баявых дзеянняў, грамадзяне, пацярпелыя ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Амністыі будуць падлягаць тыя з названых асоб, якія здзейснілі злачынствы, якія не адносяцца да катэгорыі цяжкіх і асабліва цяжкіх. Асобныя катэгорыі асуджаных, якія не падлягаюць вызваленню ад адбыцця пакарання цалкам, згодна з праектам Закона вызваляюцца ад пакарання часткова тэрмінам на адзін год".*

Амністыя не будзе распаўсюджвацца на асоб, якія ўчынілі найбольш цяжкія злачынныя дзеянні, такія як наўмыснае забойства, згвалтаванне, гандаль людзьмі, стварэнне злачыннай арганізацыі, бандытызм, тэрарызм, а таксама якія не выканалі прадугледжаныя праектам закона ўмовы для вызвалення ад крымінальнай адказнасці і пакарання.

Паводле папярэдніх разлікаў Міністэрства ўнутраных спраў, пры рэалізацыі Закона мяркуецца цалкам вызваліць ад пакарання каля 2730 чалавек і скараціць тэрмін адбыцця пакарання на адзін год у дачыненні да прыкладна 5500 чалавек.

## Аб'язджаючы сабак, трапіў у ДТЗ і загінуў

*Мужчына за рулём BMW вяртаўся ўчора раніцай у Мінск на працу і па шляху заехаў да бацькоў.*

"Па аўтадарозе Парачаны—Наваградак—Нясвіж аўтамабіль рухаўся ў бок Міра, — распавялі onliner.by ў ДАІ Гродзенскай вобласці. — На 86-м кіламетры трасы з левага боку кіроўца ўбачыў зграю сабак. Аўтамабіліст паспрабаваў пазбегнуць сутыкнення з жывёламі, што ў выніку прывяло да трагедыі. Каб не наехаць на жывёл, кіроўца зрушыў на абочыну. Машыну стала разварочваць, і на паласе сустрэчнага руху яе па чарзе ўдарылі два аўтамабілі Ford".

Кіроўца BMW памёр на месцы, яшчэ тры чалавекі шпіталізаваны.

**Вера ВІР.**

ПАЛІТЫКА

## АГП будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах




*Аб'яднаная грамадзянскай партыя будзе вылучаць на прэзідэнцкія выбары 2015 года свайго кандыдата.*

Пра гэта паведаміў лідар партыі **Анатоль Лябедзька**: "*У маі ў нас адбудзецца партыйны з'езд, на якім мы і абвесцім імя прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду. Гэта не абавязкова будзе старшыня партыі. Мы маем зараз трох патэнцыяльных партыйных кандыдатаў. Дэлегаты з'езда вызначаць, на каго з іх рабіць стаўку*".

Пра свае прэзідэнцкія амбіцыі ўжо публічна абвясцілі лідар грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" **Уладзімір Някляеў**, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргей Гайдукевіч**, бібліятэкар з Бабруйска **Святлана Грыцэнка** — як вылучэнец ад кааліцыі дэмакратычных сіл гэтага горада.

ДАТА

## 80 мільёнаў для Быкава

*Мінкульт плануе мерапрыемствы да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава*

Міністэрства культуры абвясціла тэндар. Як паведамляе сайт дзяржзакупак, шукаюцца жадаючыя арганізаваць і правесці культурныя мерапрыемствы, прысвечаныя 90-м угодкам з дня народзінаў народнага пісьменніка Беларусі **Васіля Быкава** (1924—2003). На гэтыя мэты выдаткавана 80 мільёнаў рублёў, паведамляе *euroradio.fm*.

Прыблізным тэрмінам здзяйснення дзяржаўных закупак пазначаны красавік—чэрвень.




НУ І НУ!

## Патрабуецца генеральны дырэктар...

Ці даўно вы бачылі аб'яву "Патрабуецца генеральны дырэктар"? Нават не думалі, што такое можа быць? Аказваецца, можа.

Менавіта такую аб'яву ў раздзеле "Вакансіі" зараз размясціў на сваім сайце канцэрн "Белдзяржхарчпрам". Канцэрн шукае кіраўніка на Віцебскі плодаагароднінны камбінат.

Цікава, што гэта адносна новае прадпрыемства — камбінат створаны ў 1993 годзе. Прычым на яго было закуплена абсталяванне італьянскай фірмы "Бертуцці". Прадпрыемства выпрабляе сокі, джэмы, кансервы для дзіцячага харчавання. Цікава, што шматгадовы кіраўнік прадпрыемства Расціслаў Гашко лічыўся адным з лепшых кіраўнікоў перапрацоўчай галіны. Але ў сакавіку гэтага года ён перайшоў на пасаду кіраўніка спажывецкага таварыства Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці, пакінуўшы былую пасаду. Вось так і здарылася, што гендырэктара цяпер шукаюць праз аб'явы.

Дарэчы, не выключана, што пасля апошніх прэцэдэнтаў, калі менавіта кіраўнікі прадпрыемстваў аказваюцца вінаватымі ва ўсіх праблемах, кандыдатаў на пасаду гендырэктара трэба будзе на ланцугу цягнуць.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

КРЫМІНАЛ

## Мінскі чыноўнік падпісаў фіктыўных дакументаў на 1,5 мільярда рублёў

*Крымінальная справа распачата ў адносінах да галоўнага інжынера ЖРЭА Цэнтральнага раёна сталіцы за злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі.*

Паводле звестак праваахоўнікаў, падчас рэалізацыі інавацыйнай праграмы па рэканструкцыі арэнднага жылля галоўны інжынер аформіў і арганізаваў падпісанне актаў здачы-прыёмкі будаўнічых і іншых работ ад імя адной з фірмаў. Аднак фактычна работы не выконваліся.

Як паведамляе belta.by, дзейнасцю чыноўніка былі нанесеныя страты на суму 1,5 млрд рублёў. Яму пагражае ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі.

ПАД ГРАДУСАМ

## Чакаюцца халады

*У другой палове тыдня ненадоўга пахаладае.*

*"У першай палове гэтага тыдня ў краіне захаваецца цёплае, але вільготнае надвор'е,* — цытуе belta.by начальніка службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрыя Рабава.** — *Умовы надвор'я будзе вызначаць цёплая вільготная паветраная маса. А ў другой палове ненадоўга пахаладае".*

***Сёння, 22 красавіка,*** ноччу месцамі, а днём на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, у дзённыя гадзіны ў асобных раёнах прагрымяць навальніцы. Ноччу і раніцай месцамі чакаецца слабы туман. Тэмпература паветра ўначы будзе 6—12 градусаў цяпла, днём — плюс 16—22, па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да 24 градусаў.

***У сераду*** ноччу ў асобных раёнах, днём пераважна па паўднёвай палове краіны таксама прагназуюцца кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. У начныя гадзіны чакаецца 7—12 градусаў са знакам плюс. Днём тэмпература будзе вагацца ад плюс 12 градусаў па поўначы да 24 градусаў цяпла па поўдні.

***З чацвярга*** пачнецца пахаладанне. Вецер зменіцца на паўночны, вернуцца начныя замаразкі, зноў спатрэбяцца плашчы і курткі.

***24 красавіка*** будзе пераважна без ападкаў, толькі ноччу месцамі па поўдні краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. Уначы чакаецца 1—6 градусаў цяпла, у паўднёвых раёнах — плюс 7—9, па Віцебскай вобласці месцамі чакаюцца замаразкі да 0 — мінус 2 градусаў. Днём будзе 8—14 градусаў са знакам плюс, па паўднёвым захадзе краіны — плюс 15—17.

***У пятніцу і суботу*** — без ападкаў. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 1—7 градусаў, на глебе і месцамі ў паветры прагназуюцца замаразкі да 0 — мінус 4 градусаў. Днём паветра прагрэецца да плюс 11—17 градусаў, месцамі па паўднёвым захадзе — да 19 градусаў цяпла.

***У нядзелю, 27 красавіка,*** прагназуецца надвор'е без ападкаў. У начныя гадзіны тэмпература паветра складзе 1—7 градусаў са знакам плюс, па паўночным усходзе — замаразкі да 0 — мінус 3 градусаў. Дзённая тэмпература будзе на ўзроўні 13—19 градусаў цяпла.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Ігрок хакейнай зборнай Беларусі афармляе від на жыхарства ў Фінляндыі

*Хакейная зборная Беларусі 24 і 26 красавіка правядзе таварыскія матчы з датчанамі.*

Нападаючы **Джэф Плат** не паляціць са зборнай Беларусі ў Данію. Цяпер канадскі беларус афармляе від на жыхарства ў Фінляндыі. Плат далучыцца да зборнай пазней і згуляе ў хатнім матчы з датчанамі 3 мая, інфармуе "Прессбол".

Нагадаем, былы мінскі дынамавец Джэф Плат выступае за "Лакаматыў" з Яраслаўля. Нядаўна ён закінуў фантастычную шайбу, адну з лепшых у гісторыі Кантынентальнай хакейнай лігі. У Фінляндыі жыве нявеста хакеіста.

Народная Воля http://www.nv-online.info
22 КРАСАВІКА 2014 г.

ДИСКУССИЯ

*Между белорусскими и европейскими правозащитниками, политиками, общественными активистами развернулась горячая дискуссия по поводу того, кого считать политзаключенным, а кого — обычным хулиганом и нарушителем закона. “Народная Воля” попросила высказаться на эту тему одного из самых известных белорусских правозащитников, бывшего руководителя “Белорусского Хельсинкского комитета, кандидата философских наук* ***Татьяну ПРОТЬКО.***

# Кого считать политзаключенным....

Мировое сообщество после Второй мировой войны провозгласило принципиально новый механизм взаимоотношений человека и государства. В частности, чтобы предотвратить третью мировую войну, обеспечить в мире стабильность и процветание, человеку были определены права, выполнение которых государство гарантировало. Определили, какие права главные, базовые, и зафиксировали их в международных документах. Было принято принципиально новое положение во взаимоотношениях государств: проблема соблюдения прав человека отдельным государством является не внутренним делом государства, а предметом рассмотрения всего международного сообщества.

Сначала документы были декларативными, т.е. призывающими государства к соблюдению прав, говорящими о намерениях (Всеобщая декларация прав человека), а затем и обязательными к выполнению (различного рода Конвенции). За последние полвека были разработаны различные механизмы контроля за выполнением государством взятых на себя обязательств. Как правило, он осуществляется различными международными (Комитет по правам человека ООН и др.) или внутригосударственными (омбудсмены, уполномоченные по правам человека) организациями исходя из требований самих организаций, направленности их деятельности. Гражданское сообщество также установило свой контроль — в виде различных правозащитных организаций.

Европейское сообщество традиционно считает, что приоритетным является выполнение политических прав человека. СССР в свое время пытался это оспорить, выдвинув идею приоритетности экономических прав человека перед политическими. Однако современные мировые и европейские межгосударственные союзы в целом эту идею не приняли, хотя она периодически и дискутируется на различных международных форумах.

Развитие контроля за выполнением государством обязательств в области политических прав человека привело к созданию новой терминологии для обозначения нарушений. Многие из этих терминов стали общеизвестными, как, например, понятие “политический заключенный”. Этим термином обозначается крайняя форма нарушения государством своих обязательств в области соблюдения прав человека. Как правило, под этим нарушением имеется в виду наличие в государстве людей, находящихся под стражей или отбывающих наказание в виде лишения свободы, а также направленных на принудительное лечение в психиатрический стационар за оппозиционные власти действия. Менее распространенным, но также важным является понятие “узник совести”, которое обозначает человека, находящегося под стражей или в заключении исключительно за то, что он мирно выражал свои политические, религиозные или научные взгляды. Различные межгосударственные образования и правозащитные организации одной из главных первостепенных задач ставят борьбу за освобождение политических заключенных, добиваясь тем самым от конкретных государств выполнения своих обязательств в области соблюдения политических прав человека. По существующей международной практике политзаключенные должны быть немедленно освобождены. В межгосударственных отношениях установление наличия политзаключенных является серьезным, иногда главным аргументом для сдерживания развития сотрудничества, а иногда и для применения санкций.

Следует отметить, что в расшифровку термина “политзаключенный” разные организации вкладывают разный смысл. Парламентская ассамблея Совета Европы (ПАСЕ) с 2001 года политзаключенными признает всех, кто лишен свободы в нарушение Европейской конвенции о правах человека и протоколов к ней. Международная общественная организация “Международная амнистия” к политзаключенным причисляет любого заключенного, дело которого содержит значительный политический, понимаемый в широком смысле слова, подтекст: “либо мотивы действий заключенного, либо сами эти действия, либо мотивацию властей”. ПАСЕ требует немедленного освобождения политических заключенных, “Международная амнистия” в зависимости от обстоятельств требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки в соответствии с признанным правом заключенных на скорый и справедливый суд, либо немедленно были освобождены.

Применения разных определений понятия “политзаключенный” к анализу поступков конкретных людей приводит иногда к противоположным результатам. Так, по определению ПАСЕ бывший российский олигарх Михаил Ходорковский являлся политическим узником, по определению Международной амнистии — нет.

В общественном сознании оппозиционной Беларуси под политзаключенными чаще всего подразумеваются незаконно или несправедливо осужденные люди, которые или вообще невиновны, или, если даже и преступили закон, то сделали это исходя из благородных политических целей. Исходя из этих критериев общественные и политические организации Беларуси определяют список людей, требуя от властей Беларуси их незамедлительного освобождения. Такие действия вполне правомерны и с точки зрения Конституции Республики Беларусь и с точки зрения ее международных обязательств. Но подготовленный в Беларуси гражданским обществом список конкретных узников может не соответствовать критериям организаций, за помощью к которым обращаются защитники тех или иных белорусских заключенных. Как правило, такие недоразумения возникают в случаях, когда обращающиеся с белорусской стороны невнимательно относятся к требованиям конкретных международных организаций и структур, используют аргументы, не всегда понятные или принятые в Европе или США.

Безусловно, существующие в международных организациях определения политзаключенных не являются верхом совершенства. Они уточняются, видоизменяются в зависимости от новых вызовов жизни. Сегодня в Беларуси достаточно интеллектуальных сил, чтобы поучаствовать и в этом процессе. Однако использование международных механизмов для защиты нарушенных прав конкретного человека предполагает прежде всего знание уже существующих критериев, а не знание того, как их улучшить.

Вместе с тем не является достаточно прозрачным и открытым сам европейский механизм, по которому на межгосударственном уровне происходит определение наличия политзаключенных и их персонализация. Это вызывает справедливые претензии как со стороны белорусских властей, так и со стороны белорусских правозащитников. Это в определенной мере дает возможность руководству Беларуси заявлять, что в Беларуси политзаключенных нет вообще, хотя в начале года Европейский Союз утверждал, что в нашей стране насчитывалось 11 политзаключенных.

Не является прозрачным и открытым для широких слоев населения механизм установления того, кто является политическим узником, и в Беларуси. На сайте Белорусского Хельсинкского комитета информации о механизме признания и количестве политзаключенных нет вообще, на сайте правозащитной организации “Вясна” указано, что организация признает наличие в республике 9 политзаключенных. Здесь же помещено Руководство по определению понятия “политический заключенный”, к которому предложено присоединяться правозащитным организациям Беларуси и других стран.

В заключение хочу напомнить основные критерии, по которым сегодня международное сообщество определяет, является ли человек политзаключенным. Этих критериев пять:

1) если задержание было осуществлено напрямую с нарушением одной из основных гарантий, изложенных в Европейской конвенции по правам человека и протоколов к ней, в частности свободы мысли, совести и религии, свободы выражения мнений и информации, свободы собраний и объединений;

2) если решение о содержании под стражей было вынесено по чисто политическим причинам без связи с любым уголовным преступлением;

3) если по политическим мотивам продолжительность содержания под стражей или его условия явно не пропорциональны преступлению;

4) если по политическим мотивам человек задержан на дискриминационной основе по сравнению с другими лицами;

5) если задержание является результатом разбирательств, которые были явно несправедливыми, и это, как представляется, связано с политическими мотивами властей.

Читатели сами могут представить, исходя из этих критериев, есть ли в стране политзаключенные и сколько их.

**Татьяна ПРОТЬКО,
кандидат
философских наук.**

ЧУЛІ?

## *Ці паедзе Віктар Пілiпец у калонію?*

*Прысуд былому старшыні Гомельскага гарвыканкама* ***Віктару Пiліпцу*** *абвесцяць сёння, 22 красавіка.*

Нагадаем, што яго абвінавачваюць у злоўжыванні службовым становішчам пры размеркаванні кватэр. Абвінавачанымі па крымінальнай справе праходзяць чацвёра службоўцаў з гомельскага ўпраўлення капітальнага будаўніцтва.

З абвінавачання вынікае, што Віктар Пiліпец ды яшчэ трое дзяржаўных службоўцаў дзеля карыслівых інтарэсаў арганізавалі злачынны механізм: пазбягаючы нарматыўных перашкод, размяркоўвалі кватэры між сваякамі і знаёмымі па заніжаных коштах. Дзяржабвінаваўца папрасіў прызначыць для Піліпца пакаранне ў выглядзе пяці гадоў зняволення ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У матэрыялах справы фігуруюць 27 кватэр. Іх прадавалі па цэнах, якія былі на момант прыёму ў эксплуатацыю, а не па рынкавых. Розніца між цаной продажу і рынкавай, як гаворыцца ў абвінавачанні, склала больш за 3 мільярды 652 мільёны рублёў. Кватэры павінны былі выдзяляцца людзям, якія жывуць у дамах пад знос ці непрыдатных для пражывання.

У абвінавачанні гаворыцца, што сам Віктар Піліпец збіраўся набыць па заніжаных коштах чатыры кватэры — дзве сабе і дзве дачцэ.

## *«Белавіа» канчаткова адмовілася ад палётаў у Крым гэтым летам*

Пра гэта заявіў генеральны дырэктар кампаніі **Анатоль Гусараў**.

*“Мы маем магчымасць выконваць палёты ў тым ліку і ў Сімферопаль. Але попыт на гэты кірунак на працягу лютага, сакавіка і пачатку красавіка ніжэй за папярэднія гады”,* — перадае БелаПАН словы Гусарава. Паводле яго слоў, за апошнія месяцы былі выпадкі, калі пасажыры здавалі ўжо купленыя квіткі на рэйс у Сімферопаль.

Рашэнне аб адмене летніх рэйсаў у Сімферопаль нацыянальная авіякампанія “Белавія” прыняла ў сувязі з іх “малой камерцыйнай загрузкай”.

У той жа час адміністрацыя Нікалаеўскай вобласці Украіны лічыць мэтазгодным адкрыццё чартарных авіярэйсаў з Мінска ў Нікалаеў. Прадстаўнік адміністрацыі рэгіёна кажа, што вядуцца перамовы з беларускімі ўладамі, аднак прынцыповай згоды пакуль няма.

ГУЧНАЯ СПРАВА



*Любоў ВІНАГРАДАВА, расійскі псіхіятр:*

# «Пастноў не меў патрэбы ў псіхіятрычнай дапамозе, тым больш у тым выглядзе, у якім яна была яму аказана»

*Віцебскі ўрач-псіхіятр Ігар Пастноў, якога ў мінулым годзе прымусова лячылі ў закрытым аддзяленні Віцебскай абласной псіхлячэбніцы, прайшоў экспертызу ў Маскве, у Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі (НПАР).*




У сакавіку гэтага года Ігар Пастноў так распавядаў на старонках “Народнай Волі” аб сваім “лячэнні”:

*— Абвясцілі мяне псіхапатам, упяклі ў клініку. Цынізм гэтай гісторыі ўражваў. Гэта горш, чым у савецкія часы. За 45 гадоў свайго жыцця я ні разу не прыцягваўся да адказнасці за якія-небудзь правапарушэнні або неадэкватныя паводзіны ў грамадстве. А ў жніўні мінулага года забралі ў “псіхушку” з фармулёўкай “стан можа пагоршыцца” толькі за тое, што падняў у клініцы пытанне аб нізкіх заробках і засумняваўся ў выніках працы камісіі Міністэрства аховы здароўя, якая з праверкай знаходзілася ў нашай клініцы і ніякіх парушэнняў не выявіла. (Але зараз усё, пра што я казаў, пацвердзіла праверка Упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС.) Змясцілі ў VIP-палату з тэлевізарам. 5 дзён да суда ніякага лячэння не давалі. Гэта сведчыць аб тым, што ніякай сімптаматыкі не было... На суд мяне не выклікалі, прадстаўнікі клінікі цынічна растлумачылі ў судзе, што я не магу там прысутнічаць. І ні адзін суд, дзе слухалася так званая мая справа — раённы, гарадскі, абласны, не дамагаўся маёй прысутнасці. Суддзі, выходзіць, завочна вызначылі, што я маю патрэбу ў прымусовым псіхіятрычным лячэнні.*

*А як лячылі? Спрабавалі сілком уліваць у рот прэпарат — карэктар паводзін. Выплёўваў. Тады пачалі калоць французскі прэпарат, адна ампула якога каштуе больш за мільён рублёў. Такая ў нас багатая дзяржава, каб транжырыць грошы на “лячэнне” здаровага чалавека?!*

Вырвацца з псіхлячэбніцы, паводле слоў Пастнова, яму дапамаглі праваабаронцы і журналісты, стараннямі якіх пра дзікі выпадак прымусовага лячэння даведалася ўся краіна. Зараз незалежную псіхіятрычную экспертызу ў Маскве таксама ініцыявалі праваабаронцы.

*— Цэлы дзень я правёў у Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі,* — распавядае Ігар Пастноў. — *Больш за 8 гадзін са мной працавалі пяцёра экспертаў: вядомыя расійскія псіхіятры, псіхолагі і юрысты. Вывучалі мае дакументы, абследавалі. Афіцыйнае заключэнне будзе гатова пазней, але папярэдне было сказана, што я ў Беларусі падвергся катаванням.*

Дарэчы, у інтэрнэце ўжо з’явіўся каментарый выканаўчага дырэктара Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі, вядомага псіхіятра **Любові Вінаградавай.**

*“Несумненна, правы Пастнова былі парушаны,* — заявіла спецыяліст. — *У тым, што ён быў прымусова змешчаны ў псіхіятрычную бальніцу і праходзіў там лячэнне, — у гэтым мы бачым безумоўнае парушэнне яго правоў. Нават калі меркаваць, што ў яго ёсць нейкія псіхічныя адхіленні, то ўсё роўна для таго, каб яго лячыць супраць волі, трэба, каб быў выкананы цэлы шэраг крытэрыяў. Гэтых крытэрыяў у яго справе няма. Ён не ўяўляе небяспекі ні для сяб0е, ні для навакольных, ён не з’яўляецца бездапаможным, і, нарэшце, яго стан не такі, каб, як яны там пішуць, калі яго пакінуць без псіхіятрычнай дапамогі, гэта прывядзе да сур’ёзнага пагаршэння яго здароўя. Ён не меў патрэбы ў псіхіятрычнай дапамозе, тым больш у тым выглядзе, у якім яна была яму аказана.*

*Ёсць яшчэ і шмат этычных парушэнняў. Напрыклад, яго змясцілі ў тую ж бальніцу і нават у тое ж аддзяленне, дзе ён працаваў, — гэта зусім абуральна і недапушчальна. Гэта нельга асудзіць ў судовым парадку, але гэта патрабуе асуджэння з боку псіхіятрычнай супольнасці...*

*Ігару Постнову не далі ніякіх магчымасцяў сябе абараніць — ні яму, ні якім-небудзь яго прадстаўнікам. Гэта значыць, суды аўтаматычна штампуюць, пацвярджаюць рашэнні ўрачэбных камісій, што няправільна.*

*Гэтая логіка — маўляў, мы не псіхіятры і павінны давяраць іх высновам — цалкам няправільная, таму што суд — гэта два бакі, і суд абавязаны заслухаць абедзве пазіцыі, а потым прыняць рашэнне. Суд павінен ацаніць, наколькі заключэнне ўрачэбнай камісіі з’яўляецца пераканаўчым, і для гэтага не трэба мець прафесійныя веды. Бо суд не вырашае, хворы чалавек ці не, ён вырашае, ці можна дадзенага чалавека лячыць прымусова”.*

Пасля таго як будзе гатова афіцыйнае заключэнне расійскіх спецыялістаў, Пастноў плануе звярнуцца ў суд.

*— Расія і Беларусь аб’яднаны ў Саюзную дзяржаву,* — кажа Ігар Пастноў. — *А заключэнне расійскай камісіі прыраўноўваецца да заключэння судова-медыцынскай экспертызы, значыць, высновы Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі беларускі суд павінен прызнаваць.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРАВАКАЦЫЯ

# Каму спатрэбілася выступаць «ад імя беларускіх партызан»?

*Па факце з’яўлення на YouTube відэа ад нібыта “беларускіх партызан з Гродна” ні пракуратура, ні КДБ не даюць ніякіх каментарыяў.*

У нядзелю інтэрнэт-прастору ўскалыхнула відэа, на якім двое ўзброеных хлопцаў у камуфляжы і масках на тварах звяртаюцца *“да войскаў паўднёвага ўсходу і самога паўднёвага ўсходу”* (маецца на ўвазе Украіна. — **Рэд.**): *“Запомніце: мы, Беларусь, з вамі, Расія таксама з вамі. Не верце хлуслівым СМІ і ўсяму, што там гавораць. Мы будзем змагацца супраць бандэраўцаў разам з вамі, плячом да пляча. А вы трымайцеся там*”.



З відавочным пермскім акцэнтам хлопцы заявілі: *“Гэта наша зямля, ворагу тут месца няма*”. У той жа час наваяўленыя *“беларускія партызаны”* прамаўлялі на фоне дзяржаўнага сцяга Беларусі, які замацаваны на дрэве. Ды і ў апісанні відэа сказана, што зварот запісалі “партызаны атрада “Вихрь” з Гродна”.

Магчыма, заўральскі акцэнт можна патлумачыць тым, што відэа з’явілася на акаўнце расійскага інфармацыйнага агенцтва “**Сибинтеринфо**”. Да таго ж у загалоўку “**Обращение партизанив Белоруссии к ополчению юго-востока Украины**” слова *“партизанив”* напісана па-ўкраінску.

І ўсё ж калі дапусціць, што ролік сапраўды здымаўся на тэрыторыі Беларусі, то на з’яўленне незаконных узброеных фарміраванняў павінны былі адрэагаваць адпаведныя органы. Але ў Гродзенскай пракуратуры “**Народную Волю**” запэўнілі, што пра відэа ўвогуле нічога не ведаюць. Памочнік пракурора па сувязях з грамадскасцю **Віктар Казак** так і сказаў: “*Першы раз чую ад вас. Абсалютна не ў курсе. Ніхто нічога не ведае на гэты конт*”.

Супрацоўнік пракуратуры таксама не пацвердзіў факт звароту КДБ з даручэннем даць прававую ацэнку правакацыйнаму відэасюжэту. КДБ ж па традыцыі не дае ніякіх каментарыяў на гэты конт.

Незразумела, каму спатрэбілася выступаць “ад імя беларускіх партызан” з падтрымкай сепаратыстаў на паўднёвым усходзе Украіны. Відавочна, што маладыя хлопцы хутчэй нагадваюць школьнікаў, чым сапраўдных партызан. Не выключана, што ролік мог стаць выхадкай не зусім адэкватных падлеткаў. Вось толькі як ім у рукі трапіла зброя?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПРАГНОЗ

## *Да якой мяжы будзе працягвацца плаўная дэвальвацыя?*

Амерыканская валюта пераадолела псіхалагічны рубеж у 10 тысяч рублёў, і некаторыя банкі прадавалі ўчора долар нават за 10.050 рублёў. Да якога часу будзе працягвацца абясцэньванне беларускага рубля? І які курс можа скласціся да канца гэтага года?

Аб гэтым “Народнай Волі” распявёў фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра “Альпары” ў Мінску **Вадзім ІОСУБ.**

*“Прагноз на тэму, якім будзе курс напрыканцы года, можна зрабіць пры выкананні некалькіх умоў,* — кажа наш суразмоўца. — *Галоўная з гэтых умоў — магчымасць прыцягнення нейкіх сродкаў на папаўненне золатавалютных рэзерваў. Гутарка ў першую чаргу ідзе пра крэдыты з боку Расіі. Калі такія грошы з’явяцца, то можна меркаваць, што плаўная дэвальвацыя працягнецца абсалютна тымі ж тэмпамі, што бачым сёння. І ў канцы года мы ўбачым курс у межах 11 тысяч рублёў за долар”.*

Калі ж Расія не дасць крэдыт, то, на думку фінансавага аналітыка, наступствы могуць быць самымі непрадказальнымі.

*“У такім выпадку не выключаецца і разавая дэвальвацыя”,* — рэзюмаваў эксперт.

**Алесь СІВЫ.**

НУ І НУ!

## *Беларус амаль год здымаў з карткі грошы, а яны ўсё не заканчваліся!*

*У дачыненні да жыхара Наваполацка распачата крымінальная справа за “махлярства ў асабліва буйным памеры”.*

Выкарыстоўваючы збой у банкаўскай сістэме, 32-гадовы рабочы аднаго з прадпрыемстваў зняў са сваёй карткі больш за 1 млрд 700 млн рублёў — “памылкова налічаныя грашовыя сродкі”. Адбывалася гэта з красавіка 2013-га да студзеня 2014 года.

Мужчына здымаў з карткі грошы, але з-за збою спісанне грошай не фіксавалася. Атрымлівалася, што на “залатой” картцы заставалася адна і тая ж сума, якую мужчына здымаў сотні разоў! Праваахоўнікі падкрэсліваюць, што “шчаслівчык” не мог не разумець, што грошы не яго — такімі сродкамі ён не валодаў.

Факт збою ў працы сістэмы быў выяўлены банкаўскімі супрацоўнікамі, якія звярнуліся ў праваахоўныя органы.

На што траціў “свае” мільярды рабочы, не паведамляецца. Цяпер яму пагражае ад 3 да 10 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

З ЮБІЛЕЕМ!

# Шэсць гісторый кахання ад Валянціны Еранськовай

Юбілей рэжысёра Валянціны Ераньковай яе родны Рускі тэатр будзе адзначаць шэсць вечароў запар. З сённяшняга дня Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага адкрывае праект “Шэсць гісторый кахання ад Валянціны Ераньковай”, які ўключае ў сябе шэсць пастановак рэжысёра: “Леў зімой”, “Інтымная камедыя”, “Утаймаванне свавольнай”, “Злоўлены сеткай”, “Эсфір”, “Жаніхі”.



Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Валянціна Еранькова больш за дзесяць гадоў выходзіла на сцэну як актрыса, а з пачатку 1980-х занялася рэжысурай. Яе работы адзначаны шматлікімі ўзнагародамі. Нядаўна рэжысёру была прысуджана вышэйшая ўзнагарода Беларускага саюза тэатральных дзеячаў “Хрустальная зорка”.

— Спектаклі ў рэпертуары не вечныя, надыходзіць час, калі работа знікае з афіш. А я да кожнага спектакля стаўлюся, як да дзіцяці. Я чалавек, які цяжка расстаецца з мінулым, — разважала аднойчы ў інтэрв’ю Валянціна Рыгораўна. — Я стажыравалася ў Германіі, у Швейцарыі, у маскоўскім “Ленкоме” ў Захарава. Усе нацыянальныя адрозненні ў творчасці можна змясціць у тры словы — школа, чалавек, вопыт. Адрозненне па менталітэце бывае, толькі калі выпускаеш пэўны спектакль. Тут трэба ўлічваць краіну, аўтара, час дзеяння, герояў. А так адрозніваюцца толькі школы, метады. А наогул, нас, гарадскіх вар’ятаў, як я называю людзей тэатра, вельмі шмат. І гэта добра. У гэтай прафесіі без апантанасці, без служэння Яго Вялікасці Тэатру нічога не атрымаецца.

**Кірыл БУБНОЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 КРАСАВІКА 2014 г.

# Час Пазьняка

## Нататкі да 70-годдзя лідара Адраджэння

Лічыцца, што для палітыка вельмі важна патрапіць у свой час. Тады яму ў поўнай ступені ўдаецца рэалізаваць кар'ерныя памкненні.

Але гэта ў дэмакратычных, сфарміраваных грамадствах. А ёсць краіны, дзе палітык павінен апярэджваць час, паказваць нацыі перспектыву, інакш нацыя рызыкуе безнадзейна адстаць. І тут ужо не да ўласнай кар'еры.

Вось хоць бы прыклад з вядомым артыкулам "О русском империализме и его опасности", які ў свой час Пазьняку ставілі ў віну за радыкалізм і ігнараванне настрояў электарату, — сёння выкладзеныя ў ім тэзісы пераканаўча пацвярджаюцца драматычнымі падзеямі ў суседняй Украіне. А ў Кіеве не было ў апошнія гады палітыка, які мог бы гучна сказаць пра небяспеку — у пошуку электаральнай падтрымкі палітыкі казалі, што ў выпадку чаго іх абароніць войска братэрскай Расіі. Што зрабілася з украінскім войскам і што робіць войска "братняе" — мы бачым.

З юнацтва Пазьняк можа быць прыкладам чалавека, які апярэджваў час. У 23 гады ён выдаў альбом сваіх фотаздымкаў. Першая кніжка ў такім узросце і цяпер — поспех, а ў 1960-я гэта было нешта неверагоднае. Потым былі іншыя выданні, адно з іх — "Рэха даўняга часу" — доўгія гады для падарожнікаў у часе было ці адзіным даведнікам па архітэктурных стылях старога Мінска.

Напрыканцы 1960-х Пазьняк ўратаваў Купалаўскі тэатр — ўратаваў у літаральным сэнсе гэтага слова. Паводле праекта рэканструкцыі сталіцы, будынак павінен быў быць знесены. Пазьняку ўдалося (з дапамогай тагачаснага карэспандэнта "Правды" Генадзя Бураўкіна) надрукаваць артыкул у галоўнай газеце, публікацыі якой для мясцовых чыноўнікаў успрымаліся дырэктывай. Будынак захавалі.

У 1988-м археолаг Пазьняк адкрыў Курапаты. Цяжка прыгадаць іншы прыклад, калі б археалагічнае адкрыццё гэткім чынам паўплывала на лёс нацыі, можна сказаць, змяніла яго. Публікацыя ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" пра месца масавых расстрэлаў мела такое ўздзеянне на грамадскую свядомасць, як ніводная іншая публікацыя ў Беларусі ні да гэтага, ні пасля. Яна ўзняла моцную хвалю грамадскай актыўнасці, і менавіта з гэтага дня —3 чэрвеня 1988 года — ідзе адлік новага часу, часу Беларускага Адраджэння.

Калі ў здабыцці незалежнасці і стварэнні суверэннай дзяржавы можна вызначыць адну асобу (а гэта, канешне, працэс, у якім задзейнічаны лепшыя прадстаўнікі нацыі, прычым ягоны фінал — толькі вяршыня таго, што рабілася пакаленнямі папярэднікаў) — дык гэта, безумоўна, Пазьняк.

Дзеля ўсведамлення ўсёй складанасці сітуацыі варта прыгадаць грамадскія настроі канца 1980-х гадоў і пазіцыю тых, хто ў тагачаснай БССР ажыццяўляў уладу.

Улада гэтая знаходзілася ў ЦК КПБ, кіраўнікі якой сваёй галоўнай мэтай бачылі дакладнае выкананне загадаў Масквы. Кіраўнікоў савецкіх рэспублік ЦК КПСС ацэньваў не толькі па колькасці выробленай прамысловай прадукцыі, намалотаў ды надояў, але і па барацьбе з "праявамі нацыяналізму", і тут кіраўніцтва Беларусі было ў Крамля на самым лепшым рахунку.

У Літве, Латвіі і Эстоніі кіраўнікі "мясцовых" ЦК адразу пайшлі на дыялог з лідарамі новаўтвораных народных рухаў, а ў хуткім часе ўзначалілі працэс здабыцця суверэнітэту. У Прыбалтыцы гэта быў менавіта працэс — там міністры, кіраўнікі дзяржпланаў вылічвалі алгарытм усталявання суверэнітэту, па тэлебачанні ішлі шматгадзінныя дыскусіі, спрачаліся, як будаваць самастойную міжнародную, эканамічную, вайсковую, сацыяльную палітыку — але сама ідэя незалежнасці сумненням не падлягала.

На Беларускім тэлебачанні не было ніякіх падобных дыскусій. У дзяржаўных СМІ (а іншых яшчэ не існавала) ішло мэтанакіраванае, з дня ў дзень, цкаванне Беларускага Народнага Фронту. Камуністычнае кіраўніцтва Беларусі было нагэтулькі прамаскоўскім, што нават не абмяркоўвала магчымасць незалежнасці — сама тэма была крамольнай, само паняцце незалежнасці было пад забаронай, каб ні пад якім выглядам не ўвайшло яно ў свядомасць нацыі. А з вясны 1990-га, калі пра дасягненне незалежнасці як галоўную ўмову годнага жыцця пачалі казаць у новаабраным Вярхоўным Савеце 12-га склікання дэпутаты ад БНФ, камуністычная прапаганда абрынулася на ідэю ўсёй сваёй моцай.

Я памятаю твары дэпутатаў, калі Пазьняк з трыбуны сесіі Вярхоўнага Савета ўпершыню абвясціў пра неабходнасць увасаблення ідэі незалежнасці. Далібог, калі б ён сказаў: "Праз месяц на плошчу перад Домам урада высадзіцца іншапланетны карабель, іншапланецяне ўступяць з намі ў кантакт, і таму нам трэба падрыхтавацца да іх сустрэчы", — эфект быў бы куды меншым. Ва ўсялякім разе, такое паведамленне не выклікала б нянавісці — а менавіта гэтае пачуццё пераважвала ў немалой часткі дэпутатаў.

Усё, што прапаноўвала дэпутацкая Апазіцыя БНФ у справе дасягнення рэальнага суверэнітэту (а ўжо ўвосень 1990-га, да другой сесіі, мы прадставілі дзясятак законапраектаў, у тым ліку і эканамічнага характару), — усё гэта блакіравалася парламенцкай большасцю шляхам націскання кнопак для галасавання.

Але нашы аргументы, якія штодня гучалі ці то ў выглядзе абгрунтавання законапраектаў, ці то ў палітычных заявах, у пэўным сэнсе адукоўвалі калег-камуністаў. Нешта ўсё ж асядала ў іх галовах.

Калі ў жніўні 1991-га ў першы дзень маскоўскага праімперскага путчу Народны Фронт вывеў на вуліцы людзей, Пазьняк сказаў, што, па ягоных адчуваннях, путчысты пратрымаюцца зусім нядоўга. Прызнацца, я не паверыў (гучала занадта аптымістычна). Наш пакой у Доме ўрада мы ператварылі ў штаб супраціву хунце. Але прагноз спраўдзіўся. Потым было наша патрабаванне да Прэзідыума Вярхоўнага Савета неадкладна склікаць сесію, каб прысвяціць некалькі сутак працы над неадкладнымі праектамі.

"У нас ёсць некалькі дзён, і калі мы не скарыстаем час і ўпусцім шанец — потым самі сабе не даруем, бо можа здарыцца, што іншай магчымасці ў нас не будзе", — сказаў тады Пазьняк. Таму працавалі днём і ноччу.

Раніцай 24 жніўня 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета прапанаваў дэпутатам парадак дня аж з двух пунктаў: аб бягучым моманце і аб саюзным дагаворы. Мы вынеслі на сесію пакет законапраектаў, галоўным з якіх было наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце статусу канстытуцыйнага закона. Гэта значыць — абвяшчэнне незалежнасці Беларусі.

Кульмінацыйным момантам было выступленне Пазьняка ўвечары 25 жніўня — калі пасля бурных, эмацыйных дэбатаў у атмасферы жорсткага супрацьстаяння паміж фронтаўцамі і камуністамі ён падышоў да мікрафона. І дэпутаты, якія чакалі ад лідара БНФ чарговага, яшчэ больш моцнага наступлення на камуністаў, — раптам пачулі спакойны голас Пазьняка, які адкрыта звярнуўся да іх з просьбай падтрымаць Незалежнасць і аргументаваў, чаму гэта неабходна зрабіць.

Я і цяпер памятаю тую цішыню ў Авальнай зале — нагэтулькі замерлую, што нават пачуў шчаўчок, калі адзін з аператараў нешта пераключыў на сваёй тэлекамеры.

Пазьняк гаварыў пра Расію — але не дыфірамбы пераможцу путчыстаў Ельцыну (якіх чакалі камуністы ды, прызнацца, і мы), а пра фарміраванне новай імперыі з палітыкай нафтавага шантажу.

"Калі мы не будзем мець дзяржаўнай незалежнасці, не зможам свае рэсурсы, усе свае сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы не зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы", — казаў лідар БНФ.

І — неверагодна! — адразу пасля гэтага адзін за другім узняліся сакратары абкамаў і райкамаў з прапановай падтрымаць Пазьняка і прагаласаваць за Незалежнасць.

Такога ўжо ніколі больш не было ў Авальнай зале — але тады, 25 жніўня, Пазьняку ўдалося выключна эфектыўна скарыстаць момант ды павярнуць ход беларускай гісторыі.

"Я вельмі хачу, каб першым прэзідэнтам Беларусі быў Зянон Станіслававіч Пазьняк", — сказаў Васіль Быкаў у чэрвені 1994-га ў адказ на пытанне, што ён хацеў бы пажадаць сабе на сваё 70-годдзе.

На першых прэзідэнцкіх выбарах БНФ адзіны меў праграму адбудовы беларускай дзяржавы і людзей, якія былі здольныя гэтую праграму рэалізаваць. "У нас не было нічога — ні людзей, ні праграмы", — прызнаецца потым адзін з членаў каманды Лукашэнкі. "Маладыя ваўкі" бачылі, што з сябе ўяўляе іх фаварыт... Але ўласныя амбіцыі гэтых палітыкаў былі вышэй за лёс нацыі. Чым і скарысталіся праімперскія сілы.

Пра "пераможцаў" тады казалі, што яны надзвычай удала адчулі час, ухапілі яго найбольш балючы нерв. А выявілася — адкінулі краіну на дзесяцігоддзі назад. Беларусь была развернутая ад цывілізаванай Еўропы ў супрацьлеглым накірунку. Перамаглі "ваўкі" не Пазьняка — перамаглі Беларусь, знішчылі нацыянальнае Адраджэнне.

Праца на карысць нацыянальнага Адраджэння патрабавала ад лідара БНФ вялікіх арганізацыйных высілкаў. Удзел дэпутатаў у працы апазіцыі быў добраахвотным, ён не даваў ніякіх прывілеяў ці заробку, больш за тое — ствараў праблемы (камуністы спрабавалі арганізаваць у выбарчых акругах нашае адкліканне з Вярхоўнага Савета). Гэта была праца цяжкая, па-за межамі "працоўнага часу", бо ніхто не вызваляў дэпутатаў ад іх афіцыйных працоўных абавязкаў, а паняцця прафесійнай парламенцкай працы яшчэ не існавала. Уласна, менавіта дэпутаты ад БНФ увялі ў практыку паняцце прафесійнай палітычнай дзейнасці.



Зянон Пазьняк на мітынгу, 25 жніўня 1991 года.

У Вярхоўны Савет было абрана толькі некалькі дэпутатаў з чыста "фронтаўскай" арыентацыяй — не больш за палову складу будучай парламенцкай Апазіцыі БНФ. І некаторыя прыходзілі на пасяджэнне фракцыі проста "паслухаць Пазьняка", якім іх пужала на выбарах мясцовае начальства. Менавіта з такой мэтай прыйшла Галіна Сямдзянава — і ўжо праз некалькі дзён засталася працаваць у апазіцыі (а ў гістарыі Беларусі засталася дэпутатам, які ўнёс у Авальную залу бел-чырвона-белы сцяг).

Для мяне і цяпер застаецца цудам, як людзі розных прафесій і розных заняткаў (рабочы, інжынер, журналіст, урач, гісторык, педагог, філосаф, палкоўнік міліцыі, архітэктар, фінансіст — спіс можна працягваць), рознага жыццёвага досведу амаль шэсць гадоў у няпростых умовах, без усялякай фінансавай падтрымкі працавалі побач — і ніводнай сваркі! Штодзённыя абмеркаванні, дыскусіі, частыя спрэчкі адносна таго ці іншага рашэння, той ці іншай фармулёўкі, але сварак не было ніколі.

Пазьняку неяк удавалася аб'яднаць нас, такіх розных, дзеля адзінай мэты. Пасля Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая 25 сакавіка 1918 года абвясціла незалежнасць БНР, дэпутацкая Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання была першай супольнасцю палітыкаў, якая ставіла мэтай стварэнне беларускай дзяржавы і якой удалося гэтай мэты дасягнуць.

Падкрэслю: гэта былі менавіта палітыкі, і па сённяшні застаюцца адзінымі палітыкамі нацыянальнай арыентацыі, якія маюць вопыт заканадаўчай працы, прычым паспяховай.

Вынік гэтай працы — некалькі дзясяткаў законапраектаў, сотні заканадаўчых прапаноў, вялікая колькасць якіх, нягледзячы на першапачатковы супраціў, былі прыняты і заклалі аснову дзяржаўнасці.

Фактычна пад кіраўніцтвам Пазьняка была створана канцэпцыя будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. І тое, што некаторыя яе палажэнні пакуль не рэалізаваны, ні ў якой ступені іх не дэвальвуюць: проста дзеля гэтага не саспелі ўмовы.



На святкаванні ўгодкаў БНР у Празе. Івонка Сурвілла, Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Сяргей Навумчык.

Але яны спеюць. Можна прыгадаць, як на пачатку 1990-х шклоўскі дэпутат Лукашэнка іранізаваў над ідэяй Пазьняка і Чарнавіла пра стварэнне Балта-Чарнаморскай садружнасці, у якую маглі б увайсці Украіна, Беларусь, Літва, Латвія і Эстонія, як смяяўся з праекта балта-чарнаморскага нафтавага калектара — і вось ужо цяпер яму даводзіцца абмяркоўваць гэтую ідэю з кіраўніцтвам Украіны. А можна ўявіць, наколькі змянілася б становішча Беларусі, калі б час (20 гадоў!) не быў упушчаны і мы сёння мелі б гэтую транзітную сістэму. Нафтавая залежнасць ад Расіі была б нулявой.

У свой час Лявон Баршчэўскі слушна заўважыў, што калі б у лістападзе 1996 года на начных перамовах з так званым "крамлёўскім дэсантам" быў Пазьняк, ён бы не дапусціў падпісання кіраўнікамі Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда ганебнай дамовы, вынікам якой былі зрыў імпічменту і роспуск парламента. Ведаючы Зянона Станіслававіча, магу канкрэтызаваць словы Лявона. Пазьняк — чалавек стрыманы ў паводзінах; гэта ў спрэчцы з блізкімі людзьмі ён можа выказаць нейкі намёк на эмоцыі, з апанентамі ж ён максімальна карэктны. Але ў той сітуацыі Пазьняк проста выцягнуў бы за каўнер (літаральна) спачатку Шарэцкага, а потым Ціхіню. Ён, безумоўна, сарваў бы падпісанне, але пры адной умове: дзеля гэтага Пазьняк павінен быў быць у зале перамоў, што было магчыма толькі пры наяўнасці ў яго дэпутацкага мандата.

На выбарах Вярхоўнага Савета 13-га склікання ў 1995 годзе лукашэнкаўцы сканцэнтравалі ўвагу на акрузе ў Смаргоні, дзе балатаваўся Пазьняк. Дапамаглі ім у гэтым камуністы-калякінцы. Сціплы ўрач, які выступаў "апанентам" Пазьняка, пазней быў адзначаны за выкананне сваёй ролі высокай пасадай.

Цяпер, праз гады, бачна: тое, што ў 1995 годзе ніводны з дэпутатаў Апазіцыі БНФ не быў прапушчаны ў Вярхоўны Савет 13-га склікання, было не нейкай недапрацоўкай "фронтаўцаў", а галоўнай на той момант мэтай антынацыянальнай прэзідэнцкай адміністрацыі. Адсутнасць у парламенце палітыкаў з выразнай нацыянальнай арыентацыяй прывяла да ратыфікацыі беларуска-расійскіх пагадненняў і зрыву імпічменту.

Але тое ўжо адбывалася без фізічнай прысутнасці Пазьняка ў Мінску.

У мяне часта пытаюцца пра абставіны нашай з Пазьняком эміграцыі.

Рашэнне пра выезд з Беларусі ў Кіеў Пазьняк прыняў імгненна, а вось заяву пра палітычны прытулак мы з ім удвух абмяркоўвалі не адзін тыдзень.

У чэрвені 1996-га мы з Пазьняком скарыстоўвалі ўсе магчымасці, каб праз польскую прэсу і акрэдытаваных у Варшаве заходніх журналістаў давесці, што ў Беларусі фарміруецца дыктатура. У Мінску спецназаўцы дубінкамі разганялі мітынгі, з'явіліся першыя палітвязні, а ў гэты час Лукашэнку прымалі ў Парыжы і ўспрымалі яго як падлетка, праблемы "пераходнага ўзросту" якога ўсяго толькі трэба было пераажыць. Альбо перадаверыць іх бацькам, у ролі якіх Захад бачыў крамлёўскіх палітыкаў.

"Расія — дэмакратычная краіна, і Ельцын навучыць Лукашэнку дэмакратыі", — сказаў нам у Празе кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Вацлава Гавела.

Аргументам, які знішчыў апошнія ваганні, была сустрэча ў Сенаце ЗША, дакладней у офісе сенатара — члена камітэта па міжнародных справах. Выслухаўшы нашы аргументы на карысць таго, што Вашынгтон павінен ціснуць на Маскву, што Расія ніколі не выступіць у адносінах да Беларусі "лакаматывам дэмакратыі" і, нарэшце, што за незалежнасцю Беларусі — намаганні пакаленняў, і дэмакратычныя сілы ніколі не пагодзяцца на яе ліквідацыю, мы пачулі словы, якія нас шакіравалі:

"Калі мы не пагодзімся аддаць Ельцыну Беларусь — Ельцын не дазволіць нам прасоўваць НАТА на Усход, уключыць у блок Прыбалтыку і некаторыя краіны былой Варшаўскай дамовы".

Прыгадалася Коласава: "Нас падзялілі — хто? Чужаніцы" пра 1921 год, калі Расія і Польшча разарвалі Беларусь на кавалкі.

Але асацыяцыя з Коласам прыйшла пазней, а ў той момант мы зразумелі, што ў гульні паміж "вялікімі" краінамі — ЗША і Расіяй — Беларусі зноў адводзіцца роля разменнай манеты. Прычым манеты дробнага гатунку.

Патрэбны быў нейкі крок, які прымусіў бы Амерыку (ды і ўвесь Захад) змяніць сваё стаўленне да Беларусі.

Усведамленне гэтай неабходнасці супала з нашым асабістым становішчам. У той момант, знаходзячыся ў Вашынгтоне, мы ўжо мелі пэўную інфармацыю адносна таго, якія варыянты распрацаваны для нас у самай блізкай перспектыве спецслужбамі. Пра адзін з іх прагаварыўся кіраўнік Камітэта ў справах бяспекі Дзярждумы Расіі Віктар Ілюхін: маўляў, ЦРУ плануе забіць у Варшаве лідараў БНФ і спісаць гэта на спецслужбы Лукашэнкі; вось толькі пакуль яшчэ не вырашылі, аднаго забіваць ці адразу абодвух.

"Я лічу, што Пазьняк і Навумчык свае магчымасці ў гэтым сэнсе амаль што вычарпалі — для іх ужо не засталося легальнай магчымасці барацьбы, і сапраўды паўстала пагроза менавіта фізічнага знішчэння, — пракаментаваў тады сітуацыю Васіль Быкаў. — Калі ў Маскве Ілюхін агучыў пэўныя планы, дык можна меркаваць з пэўнасцю, што гэта не планы ЦРУ, гэта планы беларускага кіраўніцтва... І ў дадзеным выпадку патрабаваць ад іх вярнуцца — гэта ўсё роўна, што патрабаваць здзейсніць учынак камікадзэ".

Тыя, хто пазней будзе пісаць, што паміж турмой і эміграцыяй Пазьняк выбраў апошняе, — наўмысна альбо несвядома будуць ігнараваць той факт, што выбар быў якраз іншы. Выбар быў паміж смерцю і жыццём, і мы выбралі жыццё.

Мы разумелі, што просьба пра палітычны прытулак — рызыка: калі б нам адмовілі (а на гэта працавала маскоўская і мінская дыпламатыя), было б прызнана, што ў Беларусі ўсё добра, а палітычны аўтарытэт Пазьняка быў бы знішчаны. З другога боку, калі б Міністэрства юстыцыі ЗША (якое дзейнічае незалежна ад Дзярждэпартамента) прыняла станоўчае рашэнне, гэта прымусіла б амерыканскую дыпламатыю прызнаць наяўнасць у Беларусі дыктатуры і карэнным чынам змяніць стаўленне да афіцыйнага Мінска.

Адбылося тое, на што мы спадзяваліся: адразу пасля прадастаўлення нам палітычнага прытулку і прэс-канферэнцыі ў Кангрэсе ЗША амерыканская прэса звярнулася да падзей у Беларусі; New York Times змясціў рэдакцыйны артыкул, у загалоўку якога кіраўнік Беларусі быў названы тыранам. "Краіна мяняе статус", — канстатавала ў тыя дні "Наша Ніва". І падзеі восені 1996-га адбываліся пры пільнай увазе сусветнай супольнасці.

"Калі Пазьняка пасадзілі б у турму, а тым больш забілі б — абураны народ выйшаў бы на вуліцы", — такое я чуў у 1996-м, падобнае часам гучыць і зараз.

Той, хто так кажа, пераносіць вопыт іншых краін і іншых народаў на Беларусь. Ды вось толькі не спрацоўвае ў Беларусі тое, што было ў Чэхіі, Польшчы ці Венгрыі, дзе палітычныя вязні альбо забітыя ахвяры сапраўды рабіліся, як ні цынічна гэта прагучыць, каталізатарам хвалі народнага супраціву.

"Я радаваўся б, калі б мяне збілі ў зале парламента, — гэта аўтаматычна гарантавала б мне пераабранне", — напаўжартам-напаўсур'ёзна сказаў польскі дэпутат пасля нашага збіцця ў Авальнай зале ў 1995 годзе.

"Мала вам далі", — гэтак казаў шмат хто з нашых выбаршчыкаў.

У камуністычнай Чэхаславакіі штогод у дзень самаспалення Яна Палаха адбываліся масавыя акцыі — хто ў Беларусі прыгадае імёны людзей, якія сябе палілі ў знак пратэсту (а такія людзі былі)?

У Польшчы генералы нічога не маглі зрабіць з папулярнасцю Леха Валенсы ды інтэрніраваных лідараў "Салідарнасці" — дзе цяпер тыя беларускія палітвязні, якія не месяц і не год адсядзелі ў турмах? Не хачу называць прозвішчы, але гэтыя некалькі мужных асоб (я называю іх мужнымі, хаця і не ўсе іх погляды падзяляю) выціснуты з "першых роляў" апазіцыі.

У чым жа галоўная розніца паміж намі і еўрапейскімі суседзямі? У больш як двухстах гадах расійскай акупацыі. Гэта час, калі развіццё нацыі спынілася.

Пазьняк аднойчы заўважыў, што па шмат якіх параметрах (навукаёмістасць прамысловасці, наяўнасць высокаадукаваных спецыялістаў, развіты аграрны сектар, выключна выгаднае геапалітычнае становішча, ідэальныя суадносіны памераў тэрыторыі і насельніцтва і гэтак далей) Беларусь на старце "вясны народаў" пачатку 1990-х апярэджвала сваіх суседзяў. Адставала толькі па адным — па ўзроўні нацыянальнай свядомасці. Прайшоў час — і зрабілася зразумелым, што менавіта гэты фактар і быў вызначальным.

Што ж, значыць, менавіта гэта павінна зрабіцца галоўнай мэтай і палітыкаў, і звычайных грамадзян, усіх, хто не жадае знікнення беларускай дзяржавы з мапы свету.

"Час Пазьняка яшчэ не настаў, хоць можа падацца, што ён мінуў", — сказаў Васіль Быкаў перад тым, як сышоў у Вечнасць.

"Рабі сёння!" — часта кажа мне (і іншым) Пазьняк, маючы на ўвазе, што мы не ведаем свайго лёсу і не зробленае сёння можа застацца ніколі не здзейсненым. Сам Пазьняк у гэтым — найлепшы прыклад выкарыстання часу. Палітычная яго дзейнасць у якасці старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ навідавоку, але акрамя яе ёсць яшчэ і выдавецкая — у заснаваных ім "Беларускіх ведамасцях" ён выпусціў два дзясяткі кніг, сярод якіх вызначу "Канцэпцыю новага Беларускага Адраджэння" (пакуль у трох тамах) — гэта тэксты не толькі пра мінулае, але і на будучыню.

Пазьняк дзеліць час паміж Варшавай і Нью-Ёркам, часта з-за пільных спраў спіць па тры гадзіны на суткі, а падтрымкай яму — любімая жонка Галіна, дачка Надзя, а цяпер яшчэ і ўнукі. І, канешне, сябры.

Не хапае толькі аднаго — Беларусі.

...Неяк у Нью-Ёрку Пазьняк сказаў: "Вось будзе вольная Беларусь, паедзем у Суботнікі, я там ведаю месца (ды там усё навокал прыгожае), адкаркуем пляшку самагонкі, вып'ем па сто грамаў — і заспяваем песню..."

Я даўно ўжо не ўжываю моцных напояў, невысока цаню свае вакальныя здольнасці, але калі вернемся — абавязкова наведаем ягоныя родныя Суботнікі. З мясцовым напоем, думаю, праблем не будзе, і з песняй — таксама.

**Сяргей НАВУМЧЫК.**

*Прага.*



Разам з дачкой Надзяй і жонкай Галінай у Варшаве.

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Трагикомедия с элементами фарса до конца еще не сыграна...

Честно говоря, не было большого желания проявлять рефлексию на скандальный визит президента Лукашенко в Слуцк. Поскольку все уже было ясно во время нашумевшего прошлогоднего визита главы государства в Борисов. И непонятно, зачем было ставить повторно этот пошлый спектакль под названием "*Как строгий царь заставляет работать нерадивых бояр".* Поскольку думающим людям, а их, к счастью, не так уж и мало в нашей стране, увиденное способно было показать только одно — власть расписалась в своей полной беспомощности. Ровно 20 лет понадобилось ей, чтобы убедить нас в окончательном и бесповоротном банкротстве своего экономического, да и политического курса.

Итак, к запущенной в стране деревообработке, легкой промышленности добавились льнопереработка, мясопереработка и весь агропромышленный комплекс. Не сомневаюсь, что список отраслей экономики остается открытым, и у верховной власти будет еще не одна возможность ошарашить нас новыми вопиющими фактами бесхозяйственности, преступной халатности. Трагикомедия с элементами фарса до конца еще не сыграна...

Над всем этим можно было бы вволю посмеяться, если бы не изломанные судьбы людей, руководителей предприятий, ставших заложниками этой архаичной системы управления. Я хорошо знаю руководство Слуцкого мясокомбината — и нынешнее, и предыдущее. Усилиями **Анатолия Забелло** и **Константина Петровича** предприятие стало в свое время одним из ведущих в стране. Заменивший их **Виктор Томашевский**, пройдя хорошую школу руководителя цеха мясопереработки в знаменитом агрокомбинате "Снов", кашу не испортил. Покойный ныне **Михаил Карчмит** знал, кому доверить, как он выражался, "монетный двор" предприятия. Качество мясных продуктов, благодаря усилиям **Виктора Томашевского**, было в Снове столь отменным, что на Комаровском рынке у ларька агрокомбината неизменно выстраивались очереди.

Не имеет смысла выяснять, какой криминал обнаружил на мясокомбинате Лукашенко. Для нас куда важнее понимание того, что Слуцкий мясокомбинат — не из ряда вон выходящий случай, что нет в стране никаких образцовых мясоперерабатывающих предприятий, что все они одинаковы в своей обреченности. Точно так же, как и обречены льнозаводы, предприятия деревообработки, автосельхозмаша, всех остальных отраслей экономики страны. Их поднимают уже два десятка лет, а они проседают все ниже и ниже.

При нынешней власти и ее политике ни одному из них не суждено выйти на современный уровень развития, стать конкурентоспособным. Не потому что ими управляют, как нас уверяет власть, безответственные руководители, лентяи и бездари, патологически склонные к саботажу ее мудрых установок. Причина в другом — **командно-административные методы управления экономикой делают невозможной всякую перспективу прихода инвестиций и модернизации предприятий, как и сколь-нибудь значимой мотивацию хозяйствовать эффективно. Не может феодальный строй и крепостная зависимость, кнут и палка в XXI веке привести страну и ее экономику к процветанию.**

...Осенью 1998 года я, первый заместитель председателя Минского облисполкома, вместе с тогдашним министром сельского хозяйства и продовольствия **Иваном Шаколо** посещали выставку "Польагро". Все мои попытки во время долгого путешествия из Минска в Познань посеять зерно сомнения у министра в правильности аграрной политики страны — тот был апологетом колхозной системы и свято верил в ее непорочность — оказались безуспешными.

Программа нашего пребывания включала в себя встречу с министром сельского хозяйства Польши. Перед ее началом я настойчиво просил Ивана Шаколо не задавать своему польскому коллеге вопросы типа "Сколько вам осталось посеять озимых?". Шаколо вопрошал: "Почему?" На что я отвечал: "Чтобы не было стыдно". Надо отметить, что мои доводы возымели действие, но только частично — Иван Шаколо поинтересовался другим: сколько картофеля осталось еще неубранным у соседей?

Мой добрый старый знакомый — министр **Анджей Сметанко** с улыбкой посмотрел на коллегу и сказал, что не знает и знать не хочет, поскольку это не его дело, а дело хозяев — тех, кому принадлежит земля. Сконфуженный Иван Шаколо попробовал было порассуждать о продовольственной безопасности Польши, на что Анджей Сметанко ответил: *"Пан министр, продовольственная безопасность достигается не контролем со стороны министра за тем, как крестьяне сеют и убирают, а выработкой и лоббированием такой аграрной политики страны, чтобы им было выгодно этим заниматься. И чтобы при этом цены на продовольствие были доступны для покупателя".*

Кто из двух министров оказался прав, рассудило время — поездки в Польшу за продовольственными и иными товарами у белорусов стали столь массовыми, что прибрели характер паломничества. Они в соседней стране значительно дешевле и лучшего качества. В прошлом году белорусы, выезжая на закупы, оставили в соседних Польше и Литве несколько миллиардов долларов. Дело дошло до того, что власть хотела заставить платить нас за каждый выезд за границу по 100 долларов. Чтобы не было повадно "купляць небеларускае". Пока обошлось, но надолго ли?

Кто-то возразит: дескать, аграрники в Польше и Литве получают серьезную поддержку от Евросоюза. Аргумент не принимается — Беларусь в не меньших объемах имеет субсидии от России. Эти субсидии позволили в предыдущую пятилетку (2006—2010 гг.) вложить в село 42 млрд долларов. Кто виноват в том, что в Польше и Литве поддержка сельского хозяйства приносит ощутимую отдачу, а в Беларуси уходит, как вода в песок? Верховная белорусская власть настаивает на том, что в критическом состоянии агропромышленного комплекса, тотальной его неэффективности повинны руководители, и за это их, подобно Виктору Томашевскому, надо сажать в тюрьму.

Думаю, у очень многих граждан страны по этому поводу сформировалось совсем иное мнение, и для них уже давно не секрет имя истинного виновника наших бед и проблем как в сельском хозяйстве, так и в экономике в целом...

**Александр ЯРОШУК.**

## Об авторе



Александр Ярошук родился 16 ноября 1951 года в деревне Внучки Каменецкого района Брестской области.

Имеет высшее образование: в 1974 г. окончил Курский сельскохозяйственный институт по специальности "ученый агроном"; в 1990 г. — Минскую Высшую партийную школу по специальностям политолог, социолог.

Трудовую деятельность начал в 1974—1975 гг. в качестве агронома в совхозе имени Димитрова Каменецкого района. В 1975—1976 гг. служил в армии. В 1976—1980 гг. работал главным агрономом совхоза "Жабинковский" Жабинковского района; в 1980—1982 гг. — заместитель председателя колхоза "Луч" Жабинковского района; 1982—1984 гг. — заведующий сельхозотделом Жабинковского райкома КПБ; 1984—1985 гг. — инструктор Брестского обкома КПБ; 1985—1986 гг. — инструктор ЦК КПБ; 1986—1991 гг. — первый секретарь Каменецкого райкома КПБ; в 1991 г. работал заведующим отделом аграрной политики ЦК КПБ; 1991—1996 гг. — заместитель начальника главка Министерства сельского хозяйства и продовольствия; 1996—1998 гг. — первый заместитель председателя Минского облисполкома; 1998—1999 гг. — председатель Минского областного комитета природных ресурсов.

С 1999 года возглавляет Республиканский комитет Белорусского профсоюза работников агропромышленного комплекса.

В настоящее время — глава Белорусского конгресса демократических профсоюзов (БКДП).

Принимал участие в президентской кампании 2001 года. Не был зарегистрирован кандидатом в президенты, т.к. не набрал достаточного количества подписей избирателей.

Женат, имеет трех сыновей.

ТАК ДУМАЮ!



# Могилев должен быть городом-героем

О мужестве города Могилева говорят история и факты. Здесь, на героической земле Могилева, был сломлен хребет головорезам фашизма. Здесь были остановлены танки Гудериана. Город защищался почти месяц. Отдали свои жизни многие солдаты, офицеры, милиционеры и мирные жители. Каждый метр земли Могилева полит кровью. Здесь защищали столицу СССР — Москву — белорусы, русские, украинцы, татары, евреи, таджики, узбеки, туркмены и другие.

В 1944 году война снова прошла через Могилев. И снова, идя к Победе, умирали наши солдаты.

Буйничское поле — символ героизма! Здесь должен быть сооружен мемориал, как на Мамаевом кургане, и гореть Вечный огонь!

Могилев — это один из символов Победы, ему давно пора присвоить звание Города-героя!

**С уважением —**
**Валерий БЫСОВ, ветеран труда, фотожурналист.**
*г.Кричев.*

ТАК ДУМАЮ!

## Не будем «зайцами»

Недолго пришлось белорусам ждать очередного подорожания проезда — два месяца. И при этом мы получили очередное предупреждение, что оплачиваем всего лишь третью часть от стоимости проезда, остальное компенсирует государство. В этой связи мне вспомнился ответ одного из читателей "Народной Воли" (до чего же умные читатели нашей газеты!). Он пишет: "А где это государство берет деньги, чтобы доплачивать за нас? Это наши деньги, и оно их берет у нас". Тем не менее нам постоянно напоминают, что мы едва ли не бесплатно ездим в автобусах, троллейбусах, трамваях...

Недавно читаю, что, согласно международному рейтингу, самой упорядоченной, самой счастливой страной в мире оказалась Дания. Так вот, датчане такого порядка добились благодаря значительным налоговым отчислениям.

А почему бы у нас не сделать налоговые отчисления на "бесплатный" городской транспорт в размере, например, 2% от заработной платы. Практически все трудоспособное население городов будет участвовать в оплате проезда, кроме неработающих пенсионеров. Нетрудно подсчитать, какую кругленькую сумму получит государство для осуществления работы транспортной отрасли. Плюс не надо будет тратиться на печатание одноразовых билетов и проездных, не нужна будет многочисленная армия кондукторов, контролеров, киоскеров вместе с их киосками "Минсктранс". А население наконец-то перестанут упрекать в том, что оно почти ничего не платит за проезд в общественном транспорте. Не будем мы "зайцами".

**Виктор Захарович ЛАТУШКО.**
*Минск.*

З НАГОДЫ

# Навошта заплюшчваць вочы?

Пасля публікацыі артыкула Леаніда Дранько-Майсюка "Калі палітык сам аддае ўладу..." мінула больш за тры месяцы, але я ўсё ж хачу адгукнуцца. Падтрымліваць ці не падтрымліваць Уладзіміра Някляева — гэта права аўтара. У той жа час нельга заплюшчваць вочы на рэальныя факты. Ва ўнісон Някляеву сцвярджаецца: *"Ён* (Барыс Ельцын. — **Я.Г.**) *зрабіў дзве рэчы: даў свабоду і аддаў уладу".* Па-першае, у Расіі як не было пры Ельцыне сапраўднай свабоды, так яе няма і сёння. Болей таго, яе несвабода праецыруецца і на Беларусь. Б.Ельцын сам не быў свабодным чалавекам, скажам, як Вацлаў Гавел. І даказаў ён гэта расстрэлам "Белага дома" і руйнаваннем Чачні. І хіба ён, застаючыся ўсё ж імперцам, добраахвотна аддаў тую ўладу? Яе праз здзелку з ім, хворым і знясіленым, і яго атачэннем забрала ФСБ (КДБ) узамен на іх недатыкальнасць.

А Ф.Кастра і У.Чавес — кожны ў сувязі са станам свайго здароўя не аддалі, а перадалі ўладу: першы — роднаму брату, другі — свайму партыйнаму сябруку. Тут спрацаваў прынцып alter ego (другое я). І такая пераемнасць улады не дала іх краінам ніякіх пазітыўных зрухаў.

Спадар Дранько-Майсюк прыходзіць у замілаванне ад навіны аб тым, што Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр пад дзяржзаказ рыхтуе да пастаноўкі на ліпень 2014 года мюзікл пра былога прэзідэнта Венесуэлы Уга Чавеса, і прызнаецца ў тым, што гэты прэзідэнт яму падабаўся, што ён быў з тых, хто не хаваецца за спіны іншых, што было ў ім нешта ад Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага. Падаецца гэта ў кантэксце з адрачэннем Мікалая II ад улады, у выніку чаго лютаўская рэвалюцыя перайшла ў кастрычніцкую і мы, беларусы, займелі спачатку БНР, а там ужо і БССР. Усе гэтыя пасылы, мякка кажучы, нагадваюць мне нейкую кашу. Агульнавядома, што ў БССР ніколі (як і сёння) не было паўнакроўнага беларускага жыцця: яно сплыло крывёй свядомых беларусаў у Курапатах, Лошыцы і многіх іншых падобных да іх месцах на прасторах савецкай імперыі.

Што ж тычыцца Т.Касцюшкі, то ён, як вядома, пад ціскам варшаўскіх кансерватараў вызваліў з пасады камандуючага паўстанцкімі сіламі на Беларусі Якуба Ясінскага, які ставіў за мэту адмену прыгону, надзяленне сялян зямлёй, аднаўленне ВКЛ і стварэнне новай арміі з сялян, гараджан і дробнай шляхты, а таксама ўзбраенне ўсяго народа на падуладнай яму тэрыторыі. Я прытрымліваюся такой версіі: калі б на чале паўстанцаў застаўся Ясінскі, то ўжо тады наша Айчына магла б адрадзіцца паўнавартасна. Што ж да К.Каліноўскага — "маладога ліцвінскага Марата", то ён наследаваў не Т.Касцюшку, а Я.Ясінскаму, але зноў жа "белыя" былі супраць. І гэта была адна з галоўных прычын паразы паўстання.

А цяпер вернемся да будучага музычнага сцэнічнага твора пра дзеяча не з нашай гісторыі, але для нашага часу, нашай тэрыторыі і нашага насельніцтва. Ён — гэты твор — і замыслены на тутэйшую перспектыву. І дарэмна некаторыя паэты тутэйшыя праецыруюць-спадзяюцца, намякаюць (калі яны сапраўды так настроены) на нейкі аптымістычна-вясёлкавы варыянт пераходу улады ў Беларусі. А адбудзецца тут тое так, як гэта адбылося на Кубе і ў Венесуэле: яблык упадзе недалёка ад яблыні. А можа, некаторыя тутэйшыя паэты гэтага і жадаюць? А ўвогуле, не варта з недасканалым унутраным укладам імкнуцца займацца палітыкай, а тым больш спрабаваць ісці ва ўладу. А то дрэнная нагода зменіцца яшчэ больш дрэннай і для такіх хадакоў, і для грамадства.

**Яўген ГУЧОК.**

ЗАДУМАЙТЕСЬ...

## Как есть и как надо

Уважаемая редакция!

Полагаю, что, пока наш народ не изменит свой менталитет и наконец не уяснит, кто есть кто, что и как устроено, как есть и как надо, никакая борьба за действительно социально ориентированное государство не будет эффективной.

Предлагаю опубликовать придуманные мной схемки и думаю, что все поймут, что к чему.

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ, житель Витебска.**




КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы

***У сувязі з апошнімі падзеямі ва Украіне ўдзельнікі тэлевізійнага "Клуба рэдактараў" задаліся пытаннем: "А ў чым нацыянальная ідэя для беларусаў?" Пасля працяглай паўзы адзін з прысутных выказаўся, што "сіла ў праўдзе", рэдактар "СБ" Павел Якубовіч прапанаваў ідэю "жыві сам і дай жыць іншым", а старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька няўпэўнена мовіў, што, можа, ідэі ўвогуле не трэба...***

*Што для людзей заўжды газеты?*
*Яны — нібы акенца ў свет.*
*Пра ўсе падзеі і сакрэты*
*Даведваемся мы з газет.*
*Ад іх чакаем мы спагады,*
*Калі нас гнобяць дзе-нідзе.*
*Яшчэ ж яны ідэі ўлады*
*Заўжды даносяць грамадзе.*
*Для нас нібыта далай-ламы*
*Карэспандэнты ўсе, але*
*Мы лічым, што разумны самы*
*Той, хто газеты на чале.*
*Яны, разумнікі, з экрана,*
*Як прапаведнікі ў царкве,*
*Тлумачаць нам цяпер старанна,*
*Якім жыццём народ жыве.*
*Усе падзеі, лібчы, даты*
*Для нас "разжоўваюць" яны,*
*Нібыта ўсе мы — дашкаляты,*
*Нібыта сам народ — дурны.*
*І вось аднойчы ў тым кагале*
*(Давыдзькам там вядзецца рэй)*
*Размову завялі ў запале*
*Наконт памкненняў і ідэй.*
*На Украіну, дзе Бандэры*
*Прыхільнікаў задужа шмат*
*(Распераזаліся без меры!),*
*Не трэба кідаць нам пагляд.*
*Маўляў, "нацдэмы-патрыёты"*
*Для люду нашага не ўзор.*
*Ад іх ідэй адны турботы —*
*Такі нацдэмам прыгавор.*
*І сталі думаць у "кагале":*
*Што за ідэю трэба ўзяць,*
*Каб у бязвоблачныя далі*
*Пракласці беларусам гаць?*
*Гурма зусім не пахваліла,*
*А нехта дык і тварам скіс,*
*Як хтось сказаў:*
*— "У праўдзе сіла!" —*
*Патрэбны нам такі дэвіз.*
*Ідэя хціва прагучала,*
*Ён выказаў яе дарма:*
*Пры існым ладзе праўды мала,*
*А можа, і зусім няма.*
*Другі прамоўца гэта знае.*
*Разгладзіў ён свае вусы:*
*— Ідэя простая, зямная,*
*Яна для ўсіх на ўсе часы:*
*"Ты сам жыві і дай другому".*
*Не трэба нам ідэй другіх!*
*Яны нагналі ўсім аскому*
*І толькі рэжуць людзям слых.*
*Аднак любы ў яго спытае:*
*"Што ты, браток, сказаць хацеў?*
*Не ў галаве ідэя тая,*
*А, мовіць так, у жываце?.."*
*І ўрэшце выступіў "да кучы",*
*Падвёўшы рысачку нібы,*
*Праграмы гэтае вядучы.*
*Але сказаў — сказаць абы.*
*Маўляў, а можа, і не трэба*
*Ідэй у нашыя часы.*
*Ёсць у цябе кавалак хлеба,*
*І ёсць кавалак каўбасы,*
*Дык і жыві з сабою ў згодзе*
*У горадзе або сяле.*
*Цяпер няма вайны — і годзе!*
*Здаволься тым, што Бог пашле...*
*На гэтай дзіўнай прапанове*
*І скончыўся ідэй запас.*
*Чаму ж рэдактары-панове*
*З экрана навучылі нас?*
*Ідэй банальных, як заўсёды,*
*Нам нарадзілі "мудрацы".*
*Не дзіўна, што з такой нагоды —*
*Мая мараль напрыканцы:*
*Шкада, што ім ніхто не смее*
*Сказаць, паляпаць па плячы:*
*— Калі ў цябе няма ідэі,*
*Дык лепей проста памаўчы..*

ПАМЯТЬ

# Там, в горах Югославии...

Уважаемая редакция!

К 70-летию освобождения Минска посылаю вам свои воспоминания о тех днях.

Мне, коренному минчанину, не довелось участвовать в освобождении Беларуси от немецко-фашистских захватчиков.

В те дни я, старший сержант, комсорг 1-го стрелкового батальона 187-го гвардейского стрелкового полка, воевал на Кицканском плацдарме, в Молдавии.

И вот 3 июля вечером прибегает в мою землянку писарь батальона старшина Пивоваров и кричит:

— Лева, твой Минск освобожден! Командир батальона вызывает тебя к себе!

Я страшно обрадовался, побежал в землянку к комбату. У него в землянке находилось несколько офицеров нашего батальона. Все они меня поздравили с освобождением родного города, желали быстрее увидеть освобожденный Минск.

Мечта эта сбылась только в 1951 году, когда меня из Забайкалья перевели на службу в Беларусь. С тех пор я живу в Минске.

Хочу вспомнить и еще один эпизод из 1945 года.

Наша 61-я гвардейская Славянская Краснознаменная дивизия завершила войну 11 мая в Австрии.

В августе 1945 года мы совершили "Марш Победы", возвращаясь на Родину. Шли мы по тем странам и городам, которые освободили осенью 1944 года, — по Австрии, Венгрии, Югославии, Румынии. Шли с развернутыми боевыми знаменами, у границ города нас встречали дивизионный оркестр и толпы местных жителей.

В один из дней похода я шел в строю нашей санроты рядом с ее командиром гвардии капитаном Я.Полантом.

Среди воинов полка уже ходили слухи, что скоро, на месте новой дислокации, начнется увольнение старослужащих, а офицерам будут предоставлять отпуска.

Я спрашиваю у гвардии капитана Я.Поланта: "Яша, а куда ты поедешь в отпуск?"

— Я поеду в город Стародуб!

— А почему в Стародуб, ведь родители у тебя на Урале!

— В Стародубе у меня невеста!

И здесь я заявил: когда я учился в Минске в 5-й средней школе, у нас была одна девушка, которая на все каникулы ездила в Стародуб.

— А как звали эту девушку?

Я ответил:

— Нина Каган!

И Яков сказал: "Так это она!"

Мы оба были страшно удивлены такому совпадению. Вдали от родных мест, где-то в горах Югославии, мы узнаем, что у нас общая знакомая — его невеста, она же моя одноклассница, с которой я даже сидел за одной партой.

Завязалась переписка с Ниной, от нее узнали о моей судьбе многие оставшиеся в живых соученики, узнали, что и я скоро поеду в отпуск в Москву, где в то время жили мои родители.

В результате той встречи и разговора с Яковом мой адрес в Москве узнала еще одна наша соученица — Аня, которая впоследствии в 1947 году стала моей женой.

Вот таков был результат того разговора с капитаном Я.С.Полантом в дни похода летом 1945 года по освобожденным странам Европы!

**Лев Самсонович АНЦЕЛИОВИЧ, инвалид войны, награжден семью орденами и 34 медалями, почетный гражданин городов Кременная (Луганская область), Каушаны (Молдавия), Березнеговатского района Украины.**

РАКУРС

## Покупайте мед, а не водку

В марте текущего года проходила ярмарка меда в столичном Дворце искусства (ул.Козлова, 3). О ней услышал из рекламы по сетевому радио: "Купите литр меда и получите литр растительного масла в подарок".

Съездил. Все подтвердилось. Многие посетители, купив килограмм меда, получали бесплатно в пластиковой бутылке растительное масло под названием "Щедрое лето". Мед на ярмарке во Дворце искусства продавали по цене от 60.000 рублей и выше за килограмм.

В апреле по тому же сетевому радио ежедневно крутится реклама, которую я лично уже запомнил наизусть: "Увага! У цэнтры Мінска на Кастрычніцкай плошчы ў будынку Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны праходзіць акцыя для пенсіянераў і шматдзетных сем'яў — мёд па цане 39 тысяч рублёў за кілаграм..." Побывал в музее. Действительно, мед здесь продают по 39.000 рублей за килограмм.



После этого я заинтересовался: а какие же цены на сладкий продукт в главном профильном магазине столицы? Зашел в торговый дом "Мир пчел", что по адресу переулок Калинина, 3. Увидел и сразу ухватился за ручку, чтобы записать. Мед "Разнотравье" — 49.900 рублей за килограмм, "Луговой" — 54.350, "Майский" — 55.750, "Клевер" — 57.200, "Донник" — 59.900, "Одуванчик" — 64.350.

Любопытство не давало покоя: а что же с ценами на "горячительные" напитки? Заглянул в универсам, что по Логойскому тракту, 33. Самая дешевая водка производства РУП "Минск-Кристалл" (крепость 40% объем 0,5 литра): "Белорусская", "Водолей", "Экстра", "Офицер", "Стольградная", "Люкс", "Хлебное вино", "Два бусла" — по 65.150 рублей.

Получается, что литр самой дешевой водки дороже литра меда, что продавался в музее, примерно в три раза, а если иметь в виду тот, что продавался во Дворце искусства и в торговом доме "Мир пчел", где-то в два раза.

Алкоголь считается ядом для центральной нервной системы. И ничего неестественного нет в том, что за этот яд нужно платить в два-три раза больше, чем за мед, который используется при лечении многих болезней.

Если люди хотят быть здоровыми, то пусть покупают мед, а не водку.

**Иван КАЧУР, ветеран с 45-летним трудовым стажем.**
*Минск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 КРАСАВІКА 2014 г.

КОРОТКО

## Осталось двое

Единственным соперником бывшего главнокомандующего национальной армии и нынешнего министра обороны **Абдель Фаттаха ас-Сиси** в борьбе за пост президента Египта станет социалист **Хамдин Сабахи**. Об этом сообщила избирательная комиссия в Каире. Голосование назначено на 26 и 27 мая, а предвыборная кампания начнется 3 мая, передает агентство AFP.

## Европейский авторынок продолжает восстанавливать позиции, подорванные худшим за 20 лет кризисом в отрасли

В марте продажи новых машин в странах Евросоюза выросли на 10,6 процента по сравнению с мартом прошлого года. При этом продано было 1,3 млн машин — в марте 2007-го, до начала кризиса, продажи достигали 1,8 миллиона.

Впрочем, показатель повышается уже седьмой месяц подряд. В Западной Европе на 20 с лишним процентов растет спрос в Ирландии, Португалии, Греции — странах, которые постепенно выходят из-под опеки международных кредиторов.

## В Афганистане на выборах президента лидирует экс-глава МИД

Экс-министр иностранных дел Афганистана **Абдулла Абдулла** почти на 11 процентов опережает своего соперника на президентских выборах в этой стране.

Как сообщила избирательная комиссия Афганистана, по результатам подсчета около 50 процентов бюллетеней, Абдулла набрал 44,4 процента голосов избирателей, на втором месте — бывший министр финансов Ашраф Гани, у которого 33,2 процента.

Окончательные результаты голосования будут обнародованы 14 мая. Если ни один из кандидатов в первом туре не наберет более 50 процентов голосов, в конце мая состоится второй тур.

## В учениях НАТО на Черном море летом 2014 года примут участие американские боевые дельфины

Учения НАТО на Черном море с участием 20 дельфинов и десяти морских львов продлятся около двух недель.

Американские дельфины могут встретиться в море с российскими "коллегами". Российский центр подготовки боевых дельфинов работает на базе Севастопольского государственного океанариума, который находится в Казачьей бухте в Крыму. В конце марта этого года сообщалось, что океанариум планировал возобновить тренировки по новым программам для дельфинов афалин и морских котиков в интересах российского флота.

## В Индии хирурги извлекли из желудка пациента 12 слитков золота

63-летнего мужчину доставили в больницу с жалобами на сильные боли в животе, запор и рвоту. По его мнению, причина плохого самочувствия заключалась в пробке от бутылки, которую он проглотил после ссоры с женой.

Однако в ходе трехчасовой операции помимо пробки врачи изъяли более ценный груз — 12 слитков золота по 400 граммов каждый.

По данным британской газеты The Daily Mirror, сразу после операции сотрудники полиции и таможенной службы допросили пациента и изъяли необычную находку.

Контрабанда в Индии — явление распространенное, которое достигло рекордных размеров после того, как власти повысили пошлину на импорт золота и золотых изделий. Индийские нелегальные торговцы золотом осваивают методы наркокурьеров, пытаясь обойти правительственные ограничения на ввоз золота: прячут слитки в машинах и скармливают их мулам, чтобы пройти таможню.

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ



"Баевікі" з Майдана былі ўзброены вось так.




"Мірныя пратэстоўцы" на ўсходзе Украіны выглядаюць так. Параўнаем?

ЧТО ТАМ, В УКРАИНЕ?

## Вице-президент США Джо Байден в Киеве

Политологи уверены, что Белый дом направил Байдена в Украину для укрепления связей между Киевом и Вашингтоном.

Визит заместителя американского президента в Украину проходит второй день. Байден встречается с руководством Украины, депутатами Верховной Рады. Никаких публичных мероприятий в Украине с участием Байдена, как сообщается на сайте Белого дома, не планируется.

## Социологи опровергают российских пропагандистов

Социологический опрос, проведенный Киевским международным институтом социологии в Донецкой области, показывает, что большинство жителей этого региона настроены против присоединения к России. Более 52 процентов опрошенных — против перехода под юрисдикцию России, около 28 процентов — за то, чтобы их область управлялась из Кремля.

На вопрос о федерализации страны положительно ответили 38 процентов жителей Донецкой области, при этом 41 процент опрошенных высказались за децентрализацию власти. На вопрос о возможном ущемлении их прав 57 процентов ответили, что не испытывают такого ущемления.

Таким образом, украинские социологи опровергают российских пропагандистов, которые вешают людям лапшу на уши, говоря о повальном стремлении жителей Донецкой области присоединиться к России.

МНЕНИЕ

## Радослав СИКОРСКИЙ: Беларуси надо опасаться агрессии со стороны России




Об этом он заявил в интервью американской "The Washington Post".

По мнению Сикорского, Россия объявила себя *"ревизионистской державой, готовой нарушить политический и правовой консенсус, установившийся после Второй мировой и холодной войн"*.

Именно поэтому мировое сообщество испытывает такое беспокойство.

Однако, считает Радослав Сикорский, наибольшие опасения в связи с заявлениями Кремля должны испытывать те страны, в которых проживают многочисленные русские сообщества. Это Казахстан, Беларусь и, разумеется, Латвия.

*"Первое, что мы сейчас должны сделать, это критически пересмотреть ситуацию с безопасностью в Европе и отказаться от постмодернистской иллюзии о невозможности любых конфликтов"*, — подчеркнул глава внешнеполитического ведомства Польши.

## Все хотели пожать президенту руку

*Президент США Барак Обама, возможно, ожидал, что проведет Пасхальное воскресенье тихо в кругу семьи. Однако его присутствие в одной из церквей взбудоражило прихожан, которые столпились, чтобы поприветствовать президентскую семью.*

Барак Обама с женой и дочерями во время службы сидели во втором ряду Баптистской церкви на 19-й улице в Вашингтоне.

Прихожане церкви стоя овациями приветствовали президентскую чету. Собравшись вокруг второго ряда, все хотели пожать президенту руку и сфотографироваться с ним.

Священник Деррик Харкинс пошутил, что поначалу он и не заметил, что так много людей сидело на передних рядах. Чтобы прихожане вернулись на свои места, ему пришлось несколько раз повторить "Аминь".

СЛУЧАЙ

## Автоледи тронулась с места, забыв младенца на крыше машины

19-летняя американка **Каталина Клоузер** умудрилась проехать 24 километра на своей машине и только потом понять, что детского кресла, в котором находился ее двухмесячный ребенок, нет в салоне. Оказалось, женщина забыла малыша на крыше автомобиля. Ребенка обнаружили посреди шоссе.

К счастью, малыш не пострадал. Мотоциклист, нашедший кресло с плачущим младенцем посреди автострады, вызвал полицию. Выяснилось, что перед тем, как сесть за руль, мать ребенка выкурила несколько сигарет с марихуаной.

Этот инцидент произошел еще в 2012 году, однако следствие по столь вопиющему делу завершилось только сейчас. Безрассудной матери чудом удалось избежать тюрьмы после полного признания своей вины. Суд приговорил ее к 16 годам условного заключения. "Я не знаю, что сказать. Я понимаю и признаю, что совершила ужасную вещь", — заявила Каталина Клоузер в суде.

## Адчаканілі манеты з выявай... Уладзіміра Пуціна

Яшчэ не астылі жарсці па факце анексіі Крыма, не сціхаюць спрэчкі на міжнародным узроўні, а ў самой Расіі ўжо адчаканены манеты ў гонар далучэння Крыма з выявай Пуціна. Манеты адчаканілі ў збросвай майстэрні "Арт-Грані" ў Залатавусце. У калекцыю "Крым-2014" увойдуць 25 сярэбраных і пазалочаных манет вагой 1 кілаграм і памерам з далонь. Першую з іх прадставяць 23 красавіка. На адваротным баку манеты будзе намаляваны контур Крымскага паўвострава з назвамі 28 мясцовых гарадоў, а на аверсе — барэльеф прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.




Трэба адзначыць, што за ўсю гісторыю пасля 1917 года гэта першы выпадак, калі на манеце з'явілася выява лідара дзяржавы. Раней чаканілі толькі выяву правадыра сусветнага пралетарыяту Уладзіміра Леніна. Першы раз гэта адбылося ў 1967 годзе, у гонар 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады былі выпушчаны манеты наміналам 50 капеек і 1 рубель з Леніным у поўны рост з выцягнутай правай рукой. Потым манеты з выявай Леніна рознага наміналу выпускаліся ў 1970, 1977, 1982, 1985 і 1987 гадах.

**Дар'я СОЛТАН**

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# Аншлюсы Гітлера

Летась споўнілася 75 год, як Гітлер ажыццявіў аншлюс (далучэнне, саюз) Аўстрыі. Гэта быў рэванш за няўдалы дзяржаўны пераварот у Аўстрыі 1934 года. Далучыўшы Аўстрыю, фюрэр атрымаў стратэгічны плацдарм для захопу Чэхаславакіі.

Згодна з артыкулам Версальскай дамовы, падпісанай 28 чэрвеня 1919 года Германіяй, што капітулявала ў Першай сусветнай вайне, яна згубіла чатыры памежныя рэгіёны, якія адышлі Даніі, Польшчы, Літве, Чэхаславакіі, Францыі, Бельгіі. Саарская вобласць аказалася пад кіраваннем Лігі Нацый.

Натуральна, перш чым напасці на іншыя краіны, Гітлер вырашыў вярнуць нямецкія тэрыторыі, якія Германія згубіла пасля вайны. Хачу падкрэсліць: **нямецкамоўныя** тэрыторыі. Прычыны ў Гітлера на гэта былі. З аднаго боку, Германія лічыла, што Версальская дамова несправядлівая юрыдычна і эканамічна, яе нельга было выканаць: сумы рэпарацый не былі папярэдне ўзгоднены і двойчы павялічваліся. З другога боку, немцы на акупаваных краінамі-пераможцамі тэрыторыях лічыліся нацыянальнымі меншасцямі. Што такое нацыянальныя меншасці сярод пануючай нацыі, тлумачыць не трэба. Гэта і беспрацоўе, і забарона роднай мовы, і скарачэнне школ на роднай мове, абмежаванне ў правах і г.д. Напрыклад, французскія ўлады пераводзілі школьнае навучанне ў Эльзасе на французскую мову, і гэта выклікала ў немцаў пратэсты. З 1925 года ў Эльзасе ўзнік моцны рух на карысць культурнай аўтаноміі. Асабліва сурова ставіліся да судзецкіх немцаў у Чэхаславакіі, а таксама да мясцовых немцаў у Польшчы і Югаславіі. Таму яны на гэтых тэрыторыях супраціўляліся і не хацелі, як цяпер кажуць, інтэгравацца ў тое грамадства, сярод якога апынуліся. (Мы цяпер ведаем, як цяжка інтэгруюцца так званыя "рускамоўныя" ў Латвіі, Украіне, "добра" яны інтэгруюцца толькі ў Беларусі.) Таму зразумела, што немцы, адарваныя ад сваёй метраполіі — Германіі — уяўлялі сабой так званую пятую калону і ўсяляк садзейнічалі палітыцы Гітлера. У Саары нямецкі фронт выставіў лозунг "Назад, у Германію!"; у Рэйнскай вобласці нямецкія рабочыя часта баставалі; у Аўстрыі існавала аўстрыйская нацысцкая партыя, ва ўсе дзяржаўныя структуры ўкаранялася агентура нацысцкага рэжыму, непасрэдна перад аншлюсам ва ўсіх гарадах віселі плакаты з такім тэкстам: "Аўстрыйцы — браты немцам".

Большасць немцы складалі ў Саарскай вобласці, Данцыгу і Аўстрыі. Менавіта таму, магчыма, Гітлер і пачаў з Саара, тым больш што вугаль з гэтага басейна цалкам адпраўляўся ў Францыю ў лік рэпарацый на працягу 15 год. 13 студзеня 1935 года на рэферэндуме 90,3% жыхароў Саара прагаласавалі за злучэнне з Германіяй. З 1 сакавіка Саар зноў стаў германскім, 11 сакавіка ён быў перайменаваны ў Вестмарк (Заходняя мяжа). Гэта была адзіная законная акцыя Гітлера, пасля якой рукі ў яго былі развязаны для далейшых аншлюсаў.

Паводле Версальскай дамовы, прамыслова развітая Рэйнская вобласць была акупавана войскамі краін Антанты з 1921 года. Пераможцы няшмат мелі з гэтай вобласці, бо нямецкія рабочыя там часта баставалі. 7 сакавіка 1936 года германскія войскі на веласіпедах (плюс крыху самалёты і пехота) уехалі ў Рэйнскую вобласць і без адзінага стрэлу дэмілітарызаваная зона перастала існаваць.

Да аншлюсу Аўстрыі Германіяй там было, як кажуць, "усё схоплена": існавала нацысцкая партыя, да зімы 1938 года нацысцкая прапаганда дасягнула вялізных памераў, у лютым аўстрыйцы ўключылі нацыстаў ва ўрад, яшчэ ў сакавіку 1931 года ўрад Германіі і Аўстрыі выступілі з прапановай аб мытным саюзе (як гэта ўсё знаёма!), аднак краіны-пераможцы не дазволілі яго ствараць. 11 сакавіка 1938 года нямецкія войскі без бою ўвайшлі на тэрыторыю Аўстрыі, іх сустрэлі як братоў (мова ж адна — нямецкая!). 13 сакавіка жыхары Вены сустракаюць Гімлера ў суправаджэнні Шэленберга і Геса. У 19 гадзін уязджае сам Гітлер у суправаджэнні Кейтэля. У гэты ж дзень надрукаваны закон "Аб злучэнні Аўстрыі з Германскай імперыяй", згодна з якім краіна "нямецкіх братоў" аб'яўлялася "адной з земляў Германскай імперыі" і стала называцца Остмарк (Усходняя мяжа). 10 красавіка 1938 года адбыўся плебісцыт аб аншлюсе. За аншлюс (саюз) прагаласавала 99,08% у Германіі і 99,75% у Аўстрыі. (Колькі ў Беларусі прагаласавала за аншлюс з Расіяй?) У выніку аншлюсу землі Рэйха павялічыліся на 17%, насельніцтва — на 10%, узброеныя сілы — на 6 дывізій (72 тыс. чалавек). У гонар саюза і саюзнікаў былі створаны песні "Прачніся, нямецкі Вахаў!" ("вахаў", напэўна, — вахтавы, вартавы, дазорны), "75 мільёнаў" і іншыя. У Германіі 1 мая 1938 года быў выпушчаны медаль "У памяць 13 сакавіка 1938 г.", якім узнагароджваліся салдаты і афіцэры вермахта і войск СС, аўстрыйскія ваеннаслужачыя і функцыянеры арганізацый, якія бралі ўдзел у далучэнні Аўстрыі да Германіі. Узнагароджана было 318.689 чалавек. Чытачу гэта нічога не нагадвае?

Пасля саюза з Аўстрыяй у нямецкай прэсе пачалася кампанія за далучэнне Судзецкай вобласці, дзе этнічныя немцы складалі 90% насельніцтва. У Чэхаславакіі немцам прыходзілася нясоладка. З 1920-га па 1924 год падчас зямельнай рэформы нямецкім сялянам не прадалі ніводнага ўчастка зямлі. Супраць нямецкай мовы разгарнулася сапраўдная вайна, падобная на вайну супраць беларускай мовы ў сучаснай Беларусі. Да сярэдзіны 1920-х гадоў у Чэхаславакіі закрылі каля 4 тысяч нямецкіх класаў, а да 1929 года было ліквідавана больш за 300 нямецкіх школ. Існаваў і закон аб мове, з-за якога немцы, якія не ведалі чэшскай мовы, не маглі прэтэндаваць на працу ў дзяржустановах. Толькі ў 1937 годзе пад ціскам нямецкіх партый сітуацыя для немцаў крыху змянілася ў лепшы бок.

Выразнікам жаданняў немцаў, якія хацелі злучэння з Германіяй, стала нацыянал-сепаратысцкая Судзецка-нямецкая партыя, якую ўзначальваў К.Генлейн. Сярод немцаў існавала думка, што яны знаходзяцца пад прыгнётам славянскага насельніцтва Чэхаславакіі. Каб зняць напружанасць у грамадстве, урад Чэхаславакіі забяспечыў прадстаўніцтва судзецкіх немцаў у Нацыянальным сходзе, мясцовым самакіраванні, вырашалася моўнае пытанне. Аднак напружанасць у грамадстве зняць не ўдалося. У лютым 1938 года Гітлер звярнуўся да рэйхстага з заклікам "звярнуць увагу на дрэнныя ўмовы жыцця нямецкіх братоў у Чэхаславакіі". (Гісторыя паўтараецца: Масква крычыць аб прыцясненні рускамоўных у Прыбалтыцы.) Крыніцы інфармацыі кажуць, што ў канцы сакавіка 1938 года Гітлер і Генлейн распрацавалі праграму стварэння Судзецкай аўтаноміі, але, ведаючы, што чэхі добраахвотна на гэта не пойдуць, інсцэніравалі буйныя беспарадкі ў памежных абласцях Чэхаславакіі. Пасля гэтага газеты Германіі паднялі гвалт аб прыцясненні судзецкіх немцаў і аб неабходнасці іх вызваліць. У кастрычніку 1938 года ў выніку Мюнхенскай змовы Германія анексуе Судзецкую вобласць, якая належыць Чэхаславакіі. Такім чынам, Гітлер выглядаў не як агрэсар, а як абаронца нацменшасці — "адзінакроўнай" нямецкай ад прыцяснення чэшскіх "прыгнятальнікаў". 15 сакавіка 1939 года Германія акупіруе Чэхію і на яе тэрыторыі стварае нямецкі пратэктарат Багеміі і Маравіі.

Калі казаць пра прычыны Першай і Другой сусветных войнаў, дык яны заключаліся ў чалавечым эгаізме, празе да ўлады, сквапнасці, бездухоўнасці кіраўнікоў дзяржаў, якія ваявалі ў гэтых войнах. Ахвярамі тых войн сталі мільёны простых людзей.

Нам, беларусам, трэба ведаць гэтыя факты гісторыі. І не толькі ведаць, а рабіць усё, каб нас абмінулі падобныя аншлюсы.

**Алесь РАШЧЫНСКІ.**

СОБЫТИЯ

## В Нью-Йорке открылся один из крупнейших автосалонов мира

*Он открылся уже в 114-й раз. Это традиционно самое посещаемое автошоу в мире. По некоторым оценкам, за десять дней работы выставки здесь побывает более миллиона человек.*

Главный тренд в этом году — сочетание казалось бы несочетаемого — приятного с полезным, а именно роскоши и мощи машин с экономичностью в плане расхода топлива. Всего ожидается около тысячи автопремьер. Некоторые даже с участием кинозвезд.

Эксперты считают, что автошоу в Нью-Йорке в этом году может стать одним из самых успешных за всю его историю, и все благодаря большому количеству дебютов. Это и новые модели, и машины будущего от ведущих автопроизводителей. Сюрпризом стал внедорожник Discovery Vision от британской компании Land Rover с революционной концепцией прозрачного капота. Система упрощает маневрирование в сложных дорожных условиях на спусках и подъемах по крутым склонам, позволяя объезжать препятствия.

Изобилие машин класса "люкс" на этом автосалоне подчеркивает статус Нью-Йорка как финансовой столицы мира.



Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 КРАСАВІКА 2014 г.

Віктар КАЗЬКО

*Апавяданне*

# Літары на мармуры

## I

У горад яны прыспелі надвячоркам. Доўга хадзілі па вуліцах, выпілі па шклянцы газіроўкі, па пляшцы піва, з’елі па порцыі марожанага, але нарэшце знайшлі, што шукалі — камбінат бытавога абслугоўвання. За варотамі яго ім адразу ж кінулася ў вочы запусценне, брудны, закіданы пілавіннем і гнілымі дошкамі двор. Толькі што прайшоў вясёлы летні, як кажуць, сляпы дождж. І зноў прыпарвала. Ад ракі несла прахалодай і водарам скошаных траў, а двор біў у твар смуткам і жалем загубленага ў неахайнасці дрэва, цяжкім пахам мазуту і перагорклага машыннага масла. Ахутаныя гэтым смуткам і пахам, у канцы двара стылі мармуровыя белыя, нібыта крыло лебедзя, помнікі. Помнікі стаялі на ўзгорку, шэрагам, адзін за другім, нібыта збіраліся ўзляцець.

Бацька і два яго сыны прыпынілі крок і змоўклі ў разгубленасці. Сэрца кожнага з іх уздрыгнула і напоўнілася тым чалавечым адчаем і крыху страхам, якія заўсёды прыходзяць да нас, калі мы сутыкаемся са смерцю. А вакол ішла звычайная работа. І рытм яе быў упэўнены, выверааны не адзіным днём. Натужна варочалі тоўстымі бакамі бетонамяшалкі, у паветры мільгацелі рыдлёўкі. У гэтай працы была, напэўна, і радасць, таму што праз расчыненыя дзверы бліжэйшага да трох мужчын доміка даносілася песня. Спявалі жанчыны, нябачныя знадворку, схаваныя паўзмрокам памяшкання. З таго месца, дзе стаялі мужчыны, відаць былі толькі жаночыя рукі, выразна белыя сярод рознакаляровай, хутчэй за ўсё прапарафіненай паперы, што ляжала па стале ля хваёвага зялёнага вецця. Жаночыя рукі плялі вянкі. Здалёк здавалася, што гэта матылькі кружаць, там, над каляровай квеценню вясновага лугу, — такімі спрытнымі былі гэтыя рукі, няўлоўна паслухмянымі пальцы, так біла ў вочы з прыцемку іх бялюткая чысціня.

Стары патупаў на месцы. Сыны глядзелі на яго, але ён так і не адважыўся кудысьці рушыць, панурыўся і як бы паменшаў. А да трох постацей, што застылі ў варотах, ужо шыбаваў маленькі жвавы чалавек, адна рука карацей за другую і нерухомая, нерухомая і шыя, галава ўсё роўна як прыварана электразваркай да тулава. Але чалавечак лагодна ўсміхаўся і весела яшчэ здалёку загукаў:

— Дзень добры, вечар добры! Каго вам трэба?

Стары штосьці буркнуў і пайшоў насустрач чалавечку.

— Нам патрэбен Баглай Іван Ахрэмавіч.

— Цю, Іван Ахрэмавіч, ды гэта ж я. — І падаў старому кароценькую, з усохлымі бліскучымі пальцамі руку: — Іван Ахрэмавіч Баглай, халера ясная!

— Помнік мы тут у вас заказвалі, пісалі вам, — пачаў стары. — Вы адказвалі нам. Жонка ў мяне загінула, жонка і маленькі хлопчык, у сорак чацвёртым. Вось сын ад яе жыве... Ён жывы, а брат яго...

— Памятаю, як жа, памятаю, — перабіў Іван Ахрэмавіч. — Вечка Лукер’я...

— Во-во, Лукер’я і Міхась Вечкі...

— Гатоў помнік. Добры помнік. Ой помнік! Першы такі на Палессі, і ваш. Эксперыментальны, халера ясная. Пашэнціла вам, пашэнціла. Во ён, халера ясная.

І Баглай радасна кінуўся да высокай, яшчэ не зманціраванай пліты, шурпатай пасярэдзіне, дзе павінна была стаць мармуровая дошка з надпісам.

— Дошка яшчэ не гатова... Праўдзівей, дошка гатова, ды надпісу няма... А яшчэ праўдзівей, дык і надпіс ёсць, высечаны і літары, толькі іх фарбай, золатам, пакрыць трэба... Мастак наш будуецца і на работу не кожны дзень выходзіць. Але прымусім, прымусім. Будзе, золатам будзе: Вечка Лукер’я Авяр’янаўна, 1918—1944, Вечка Міхась Рыгоравіч, 1942—1944, — амаль з любоўю прапеў Баглай. — А помнік які, вы толькі пагляздіце на гэты помнік. Карцінка. Першы на Палессі, эксперыментальны...

І Баглай зноў кінуўся абмацваць і гладзіць помнік, песціць, як гаспадар кабанчыка перад пакупніком на базары. І яго сухая, маленькая рука з пакурчанымі бліскучымі пальцамі набыла спрытнасць, як бы ажыла, і амаль лётала па камені. І камень пад яго рукой таксама ажываў.

— Ды паглядзіце вы, толькі паглядзіце. Нідзе вам лепей не зробяць. Лепіць зараз помнікі той-сёй сам. Але што ў яго за работа. Душы няма, абы грошы. Халтура, адным словам. А тут... Вам дык наогул пашэнціла: хутка зрабілі, ані хвілінкі не марудзілі. Эксперыментальны помнік, эксперыментальны...

Баглаю, пэўна, падабалася гэтае “эксперыментальны”, і ён усё імкнуўся зазірнуць Вечкам у вочы, убачыць там водгук на гэтае слова, хацелася, каб і Вечкі адчувалі тое ж, што адчувае ён. Але тыя стаялі моўчкі, быццам у рот вады набралі, і позірк іх быў няўлоўны яму, яны не падпускалі яго да сябе...

Стары Вечка толькі палажыў, бы чорны хваёвы асмалак, руку на мармуровую пліту і адхіснуўся назад, нібыта дакрануўся да голых электрычных правадоў. Адхіснуўся, але рукі не адняў. Вялізная, нязграбная, яна ляжала на высечаных у мармуры літарах і амаль непрыкметна ўздрыгвала. Гэта бачыў, нават не бачыў, адчуваў яго старэйшы сын Антон, таму што сам хацеў пакласці на гэтыя літары руку, ды бацька апярэдзіў яго. І цяпер у бацькі непрыкметна ўздрыгвала рука, а ў сына ў лад ёй білася павека.

Антону на якуюсьці хвіліну здалося, што яго рука ўвайшла ў мармур. І праз камень ён зноў адчуў цяпло рукі маці і не ўстояў на месцы, як толькі што бацька. Целу стала горача, у вочы ўсё роўна як сыпнулі дробненькага пяску, той самай белай каменнай мукі, у якую перапэцкаліся бацькавы пальцы. І неба адразу зацягнула хмарамі, на ім засталося толькі адно акенца, праз якое свяціла сонца. І здавалася, што сонца ўсё сваё цяпло, увесь свой жар накіравала на яго, Антона.

На сэрцы стала прыкра і горка. “Ты падманваеш сябе, — падумаў ён, — падманваеш. І ведаеш гэта. Ты не памятаеш цяпла рук маці, ты не ведаеш, што гэта такое. Камень мёртвы. І маці памятаеш ты толькі мёртвую...” Але ён быў удзячны каменю, які даў адчуць яму тое, чаго ён быў пазбаўлены, які захаваў і праз гады данёс да яго тое, чаго не змагла захаваць памяць, і ненавідзеў гэты камень. Да самага апошняга часу ў ім не-не дый успыхвала дзіцячая вера, абуджалася дзіцячае жаданне цуду: не можа быць ён так абдзелены ў жыцці. Ёсць у яго маці, будзе. Яна толькі забавілася дзесьці і зараз прыйдзе да яго. Так, ён верыў гэтаму. З гэтай верай у яго звязаны самыя лепшыя ранкі, самыя лепшыя сны, сны ў сне і наяву. Усё ў яго будзе, як у людзей. Ішоў час. Усё ў яго было, як у людзей, і толькі не было маці. А ён усё верыў, што будзе. Будзе! І вось... веры гэтай прыйшоў канец. Мёртвы камень паўстаў паміж ім і маці. І ніякая сіла не магла скрануць яго, што-небудзь перамяніць. Гэта Антон зразумеў толькі цяпер, на гэтым двары, дзе рабіліся помнікі і абуджалася неіснуючая памяць: няма маці. Няма і ніколі ўжо не будзе. Калі з таго свету не вяртаюцца, то і з-пад каменя не ўстаюць. І Антон адчуў, што з гэтага дня жыць яму будзе цяжэй, пашкадаваў бацьку.

А бацька стаяў каля пліты сам як помнік. І меншы яго сын, Алесь, таксама быў нерухомы. Жанчына і хлопчык, аб якіх сумавалі яго бацька і брат, былі невядомы яму. У яго была маці, і яшчэ адзін брат быў у яго. Але і ён зведаў гора, таму што жыў і рос на такой вуліцы, дзе ўсе зведалі гора, дзе ў кожнага хтосьці загінуў у вайну. Але гэта было так даўно, калі яшчэ яго на свеце не было. Яму было шкада бацьку, і брата, і жанчыну, і хлопчыка, асабліва хлопчыка. Ён пражыў толькі два гады. А жанчына магла быць яго, Алесева, маці, яна таксама з васемнаццатага года. З другога ж боку, застанься жывой гэтая забітая жанчына, не было б на свеце яго. Быў бы хтосьці зусім іншы. А добра гэта было б ці не? Хто яго ведае. Але яго не было б, ясна. А ў клубе сёння танцы. І ў кішэні Алеся ляжыць асвятляльная ракета, якую так зручна запускаць з танцавальнай пляцоўкі. Сёння ракеце, напэўна, не ўзняцца. Мо гэта і лепш, а мо і не... Дзяўчаты так хораша палохаюцца ракет, так скрозь страх імкнуцца разгледзець, хто гэта там “адмочвае” такое... Было Алесю крыху не па сабе яшчэ і ад таго, што мёртвая, помнік па якой ён прыехаў забіраць, так кранае яго бацьку, такая дарагая яму. Было сорамна за бацьку, нібыта ён, Алесь, падгледзеў штосьці ў шчылінку, недазволенае, нядобрае. І мёртвая жанчына паўставала паміж ім і бацькам. Таму маці сёння так і сцяла губы, калі бацька наладзіўся ехаць па помнік той, першай жонцы... Шкада бацьку, шкада маці, шкада тую жанчыну з хлопчыкам і сорамна. Сорамна, што ўсё так недарэчна складваецца на белым свеце. Чаго толькі гэтым людзям не хапае. Жылі б сабе ды жылі, дык не... І вось таму Міхасю было толькі два гады... І колькі часу прайшло, а бацька толькі зірнуў на пліту — счарнеў за хвіліну. І сум, сум у вачах, як па нябожчыку.

А Рыгор Вечка, бацька, у гэты час ужо не сумаваў. Сум-то быў у ім, і сляза, пякучая, горкая, мучылася і не магла прабіцца на волю. Але гэта былі прыемная сляза і прыемны сум. Рыгор быў зноў малады. І маладая яго рука абдымала не камень, а, здаецца, пяшчотна трымала другую такую ж маладую руку. І пяшчота ўваходзіла ў яго, і разам з ёю ўзнімалася на неба сонца. Надыходзіў час развітання. Рыгор не мог зразумець, навошта гэтае сонца, як пераждаць гэты доўгі, доўгі дзень, як год, да новай сустрэчы. А трэба было яшчэ бегчы дванаццаць кіламетраў да сваёй вёскі і брацца за касу...

— Ну дык што будзем рабіць? — пачуўся голас Баглая.

— Забіраем мы помнік, — сказаў стары Вечка.

— Не, — сказаў Баглай, — не аддам я сёння табе помнік. Машыны няма, ды і мастака няма, ды і рабочы дзень заканчваецца... Зранку заўтра, зранку. — І Баглай зноў паспрабаваў заглянуць у вочы Вечку, але той зноў не даўся. Тады Баглай павярнуўся да Антона.

— Час у вас зараз ёсць? — спытаў яго Антон.

— Час-то ёсць, — зразумеў Баглай. — Але машыны ўсё роўна няма. І без мастака дошку я вам не магу аддаць, сумленне не дазволіць. Ды і верыш, хлопча, ці не, а шкада мне сёння аддаваць вам гэты помнік. Разумею, нядобра гэта, а шкада. Я яго амаль адзін, сам, адной сваёй рукой рабіў... А час ёсць, ёсць...

— Збегай, — падаў Антон пяцёрку Алесю.

— Гэта добра. Гэта трэба, каб пухам ім была зямля! — адобрыў Баглай.

І пакуль Алесь хадзіў у магазін, Баглай прынёс шклянку і напалову ўжо з’едзены гурок.

— Пойдзем вось туды, уніз, за гару. Мы заўсёды туды ходзім, каб вока лішняга не было. І рабочыя, і я. Зараз там нікога няма... Такая ўжо наша работа, мо крыху і зацягнулі, але не думайце, не крыўдуйце, помнік мы вам зрабілі добры... — Пад гэтую яго гамонку яны спусціліся ў роў, уладкаваліся пад кустом вербалозу. Баглай завалодаў пляшкай і спрытна адкаркаваў яе пакалечанай рукой.

— Толькі на гэта і прыгодна, — сказаў Баглай, прыкмеціўшы позірк Рыгора Вечкі. — Мне б абедзве рукі, дык ці сядзеў бы я тут, хоць і справа наша, скажу я вам, ой як патрэбна людзям... Але робім...

— Дзе? — спытаў Рыгор, нібы і не слухаў Баглая.

— Што дзе? — сумеўся той.

— Руку дзе пакінуў?

— У Югаславіі.

— А я два рабры ў Аўстрыі... А жонка з дзіцем вось тут, дома... І хадзіць далёка не прыйшлося...

— А ў мяне бацька... Помнік яму толькі ніяк не збяруся паставіць, хоць і ўсе ў маёй руцэ. — І ён патрос перад Вечкам сваёй пакалечанай рукой. — Рабіў вось гэты, эксперыментальны, думаў: вазьму яго сабе. Але не выходзіць сабе паспрыяць, некалі ўсё...

— Памаўчым, — сказаў Рыгор Вечка. — Памаўчым. І ім успамінак будзе, і мы адзін другому не схлусім... А помнік не я стаўлю, а сын. І табе, чалавек, як сыну павінна сорамна быць... І мне сорамна. Увесь свой век з мазаля жыву. Мінуткі не маю вольнай, каб азірнуцца. Колькі перароблена гэтымі вось рукамі на гэтай вось зямлі. І ўсё на радасць, на радасць, на радасць, на шчасце, здавалася. А зараз чую: штосьці я прагледзеў за гэтай работай, аслеп і нічога не бачу, акрамя работы. Усё ў мяне ёсць, толькі радасці няма.

— Гэта так, — сказаў Баглай, — гэта бывае, калі на могілкі прыйдзеш. І ў мяне было, ды звыкся ўжо... Не ведаю, не ведаю... Колькі ўжо мы за гэтыя помнікі бяром, а грошы ўсё роўна браць не пасляваем. І часу колькі мінула з той вайны, а ўсё роўна... Раней — труна, ды крыж, ды слёз літра. А зараз і не плачуць нібыта, а як бы ў сабе ўсё тояць, зірнеш на яго, а ён як у агні гарыць. Адкуль той агонь? А ці не ўсё роўна — пад помнікам ці пад крыжам ляжаць тым небаракам?.. Так я мяркую... Ці то зноўку якаясьці навала набліжаецца? Дык не сказаў бы... Вось ты, стары чалавек, чаму помнік сёння ўздумаўся ставіць?

— Не чаму, а каму, — сказаў Рыгор. — І не жонцы, і не дзіцяці, а сабе! Таму што жыў такі чалавек на свеце. Рыгор Вечка. І была ў яго жонка Лукер’я. Не з паноў, гарапашнікі. Каб ведалі гэта людзі, шчасцю іх мінуламу і пакутам маім без яе зайздрасцілі, я і стаўлю помнік.

— Не-не, не тое ты гаворыш. Шчасце і няшчасце раней на Палессі людзі ў сабе хавалі, на свет не паказвалі. Палешукі — народ сціплы. А ты выхваляешся шчадротай і заможнасцю.

— Не выхваляюся я, а гора сваё над светам узнімаю, хай усе бачаць і пужаюцца. Вось цябе ўжо напалохаў і гэтым рад. Хоць і не разумееш ты яшчэ нічога, а ўжо баішся, то і добра.

Бутэлька апусцела. Па гары ўсе чацвёра, як гусі, нізка прысядаючы і перавальваючыся, палезлі наверх.

— Дык заўтра ў восем раніцы, — сказаў ім на развітанне Баглай. — Глядзіце, чакаць буду. Рабочага, вунь таго, нямога, возьмеце, калі яму што трэба сказаць, пісаць будзеце, ён па пісанаму разумее ўсё. Чарку яму паднесяце, калі скончыце, — добра, не — таксама добра. Як сумленне вам падкажа. Да заўтрага...

І доўга, пакуль не зніклі за горкай, глядзеў ім услед, памахваў рукой.

## II

Ноччу была поўня. Змянялася надвор’е. І стары Вечка, як ні імкнуўся, ніяк не мог заснуць. Усё штосьці муляла над бокам, і рукі, такія патрэбныя раней, былі лішнія, не маглі знайсці сабе месца. Ён клаў іх і за галаву, і пад галаву, і спускаў на падлогу, і ўкрываў коўдрай, але нідзе не было ім месца. “Ды пааадрывала б лепей вас”, — разлаваўся Вечка і не вытрываў, устаў, падышоў да акна, несучы перад сабой свае рукі, нібыта вёслы якія, ці то ноч несучы перад сабой на выцягнутых сваіх руках, выставіў іх месяцу і са здзіўленнем пачаў разглядваць, як усё роўна першы раз убачыў. Нічога цікавага, здаецца. Як шапкі перастаялых грыбоў — мазалі; мазалі — грыбы, выпхнутыя карэннем жыл, даўно загоеныя рубцы ад сякеры, касы, бярвення і куль, свежыя парэзы, у якіх шчыміць і бруіцца яшчэ боль... Усё зведалі гэтыя рукі, што даведзена зведаць рукам чалавечым — і гора, і радасць, — яны ўмелі любіць і ненавідзець, умелі прыласкаць жанчыну і забіць ворага. Цёплыя, нават гарачыя, і не такія ўжо вялізныя, як здавалася раней. Набрынялыя стомай, работай і сілай рукі. Не, дарэмна ён гэта на іх. Што ён без іх. Але чаго яны ўсхадзіліся сёння — ці то прагультаявалі дзень, ці то адпачынку раней часу запрасілі. Не, не разумеў Вечка сёння сваіх рук.

— Што вам трэба? — сярдзіта спытаў ён у іх. — Будзе раніца, і будзе работа. А зараз адпачывайце. Хутка, хутка вам будзе доўгі-доўгі адпачынак.

Дзіўна, але рукі адазваліся на гэтыя яго словы болем у плячах.

— Глядзіце вы: і яны не без паняцця, — прамармытаў месяцу Вечка і прыпаў да акна, разглядаў прыціхлыя ўначы, абстаўленыя, як вартай, сумным сонечнікам хаты. І зноў паглядзеў на свае рукі, не верачы, што гэтыя хаты зроблены імі.

— А вы памятаеце іх? — спытаў ён у сваіх рук. — Я вось не памятаю ўжо... — Замоўк, прыслухаўся. Рукі лёгка ўзняліся да грудзей, і не было ўжо ў іх ні тугі, ні болю, як бы зусім не было ў яго рук. Рыгор Вечка засмяяўся, ціхенька так, сам сабе, быццам баяўся напалохаць сябе гучным смехам. Дакрануўся далонню да фарбаванага падаконніка. Праз фарбу дзе-нідзе прабівалася хваёвая смала — Вечка нядаўна перасыпаў хату, ставіў новыя падаконнікі, — і гэтая смала як бы звязала, з’яднала яго руку з дрэвам, і ў дрэве, і ў яго руцэ, здавалася яму, журчыць-струменіць адзіная кроў. Ён асцярожна адняў руку, пазногцем адкалупнуў кавалачак смалы, расцёр яе на далоні і адчуў радасць далоні, якая пахне смалой, здаецца, убачыў дрэва, з якога зрабілі падаконнік, адчуў яго пругкую моц, звонкі смех сякеры і нецярплівы грукат свайго сэрца.

І ўсе зробленыя Рыгорам па свеце хаты паўсталі перад ім. Цэлы горад ці вялікая-вялікая вёска. І ўсе яны ўсміхаліся яму вокнамі, ён бачыў іх усмешку, чуў, як тонка пастрэльвае, сохне ад сонца бярвенне, адчуваў, як прагна п’е цяпло, месячнае і сонечнае святло мох, і цяпло струменіць, струменіць па бярвенні, ахутвае радасцю сэрца. Ён глядзеў і не мог наглядзецца на свае хаты. Яны стаялі, як намаляваныя, перад ім, ладныя, жоўта-звонкія, і ішоў з комінаў іх дым... І раптам усё знікла. Месяц закрыўся хмарай, і з гэтай хмары адбілася на зямлю ценем маленькая хатка-сцёбачка і паўстала перад акном нядаўна перасыпанага Рыгоравага пяцісценка.

Ён пазнаваў і не пазнаваў гэтую сцёбачку. Яна была як сапраўдная, толькі ад гэтай сапраўднасці не пахла жыллём, чалавекам. Зноў выйшаў месяц, зноў быў перад ім пабудаваны яго рукамі горад ці вялікая-вялікая вёска, але Рыгор глядзеў толькі на сцёбачку, маленькую-маленькую хатку, з якой усё і пачалося, з якой пачаўся і ён сам. І так шкада было яму яе, так хацелася ўвайсці туды, схавацца і не выходзіць, што Рыгор застагнаў і кінуўся прэч ад акна, захутаўся коўдрай і прыціснуўся да жончынага мяккага пляча.

— Чаго? Чаго табе? — мармытнула тая спрасонку і працягвала спаць.

Рыгор адхіснуўся ад яе цёплага цела і зашаптаў:

— Ты прабач, прабач мне, Лукер’я...

А сцёбачка стаяла ўвачку, хоць ты вочы выдзірай. Ён успомніў, як ставіў гэтую сцёбачку. Употайкі ад усяго свету браў на станцыі шпалы, цягаў аполкі. І ў сцёбачцы заўсёды, колькі жыў ён у ёй, як ні мазаў сцены глінай, пахла крэазотам. Рыгор уздыхнуў, і здалося яму, што хапіў не паветра, а крэазоту, крэазотам дыхнула ў яго новай хаце. Рыгор усхапіўся, прыгледзеўся і толькі цяпер пачуў, як цяжка дыхае жонка.

— Ты не спіш? — ціха спытаў ён яе, больш за ўсё жадаючы, молячы яе, каб яна не адазвалася, нават калі і не спіць.

І яна не адазвалася, мо і сапраўды спала, а мо разумела яго, не хацела падаваць голасу. І Рыгор тую ж хвіліну забыў аб ёй, быццам ніколі яе і не было, загаварыў з той, мёртвай, для каго мёртвай, а для яго заўсёды жывой:

— Нічога, нічога, Лукер’я, спі, спі, нічога мне не трэба... — І, як бы баючыся парушыць яе сон, сам сабе: “Ты прабач мне, Лукер’я. Лепшай, чым ты, мне жонкі і не трэба было. Але што рабіць... Мо я і вінаваты перад табой, але што рабіць, калі тыдня, тыдня ты не дажыла да вызвалення, і за гэты тыдзень я пакутую ўсё жыццё... Перш думаў, што так адзін ужо і дажыву свой век, але што рабіць, што рабіць. Яна была такая ж, як і я, беспрытульная, знявечаная вайной. Я страціў цябе, яна страціла мужыка. І што нам было рабіць? Мо гэта і лепей, што мы сышліся і я на якісьці час забыў цябе... А я імкнуўся і ў чужой душы знайсці, адкрыць хоць часцінку цябе. А з гэтай жанчынай мы былі роўныя: у яе ад першага мужыка засталася дачка, у мяне — ад нас з табой — сын, я страціў цябе, яна страціла мужа. І абое мы былі страчаныя. А зараз у нас дзеці...”

Рыгор сціх і зноў прыслухаўся да дыхання жонкі. Яно было такім жа цяжкім, і няроўным, і чужым. Чужым, чужым. Такім, што ён адразу і не зразумеў, хто гэта ляжыць побач з ім, адкуль узялася гэтая жанчына. Яму стала сорамна і горача, нібыта ён ляжаў з ёю на вачах у Лукер’і. Рыгор ненавідзеў гэтую жанчыну, узненавідзеў за якуюсьці адну хвіліну. Яшчэ крыху — і ён скінуў бы яе з ложка. Ён ненавідзеў яе сапенне, яе цяжкае дыханне, яе любоў да яго і пакуты за яго. Нічога-нічога яму не трэба было ад гэтай жанчыны, абы знікла яна, толькі ніколі не было б яе ў яго жыцці. І ён быў бы шчаслівы. Гэта яна, тая, што ляжыць разам з ім, цяпер вінавата ва ўсім.

Рыгор адчуў, што несправядлівы да сваёй жонкі, да сваёй другой жонкі, але з прабачэннем ён зноў звярнуўся да Лукер’і: “Дзе той справядлівасці назапасішся, Лукер’ечка...” Яму захацелася згінуць і ніколі-ніколі не бачыць вачэй жанчыны, з якой ён пражыў амаль трыццаць год. Трыццаць год прайшло, а Лукер’я, як жывая, перад вачыма, усё — як сёння... І Рыгор зноў уголас застагнаў ад пякучага болю.

Другая жонка, якая нарадзіла яму траіх дзяцей, якая была яму цяпер зусім чужая, пачала клапатліва падхінаць пад яго збітую коўдру. А яму ад гэтай яе соннай клапатлівасці і пяшчоты было яшчэ ніякавацей, яшчэ цяжэй. Не мог ён у гэтую хвіліну нічога прыняць ад яе, нават такой дробязі, як коўдра, не хапала і сілы, каб адштурхнуць яе руку.

Ён пражыў з ёй каля трыццаці гадоў, але так і не ведаў: кахае яна яго ці не, не ведаў, ці кахае ён яе. Раней Рыгор баяўся такога пытання, а пазней яно стала лішнім. Жылі сабе, ды і ўсё. І яна, напэўна, маўчала аб гэтым, таму што берагла памяць аб сваім першым мужу і ўсё жыццё саромелася яго, Рыгора, а ён саромеўся яе. Жылі — як быццам укралі шчасце. А разабрацца, дык ці вінаватыя яны ў чым, ці вінаватыя ў тым, што былі шчаслівыя? І колькі такіх, як яны, на свеце?

“Ці гэта ва ўсіх так? — падумаў Рыгор. — Бедныя-бедныя людзі, за што вам такія пакуты? І ці ёсць вінаватыя? Прабач, прабач, Лукер’я, табе там не лягчэй, чым нам тут. І не зайздросць, не зайздросць мне, як не зайздрошчу я табе. Я ехаў дамоў з Германіі і вёз табе падушку з пер’я, добрую падушку. Я вёз яе, хаця ўжо і здагадваўся, што не трэба табе падушка, там, дзе ты, ужо спяць без падушак, але спадзяваўся... вёз. Падушку і стары веласіпед. Веласіпед разбілі браты мужа маёй будучай другой жонкі, напэўна, каб я ніколі больш не прыязджаў да яе.

Я бачыў, як яны ламалі яго. Разганялі і на ўсім хаду білі ў калоды, якія ляжалі пасярод вуліцы. Да крыві паразбіваліся самі, веласіпед хоць і старэнькі, але ўсё ж быў моцны. Я стаяў каля акна і пазіраў, як яны яго даводзілі да ручкі, і мне было зусім не шкада яго. Мне здавалася, што гэта разбіваецца мой успамін, мая памяць аб вайне. Хлопцы былі дужыя і злосныя, яны любілі свайго брата і разбілі мой веласіпед ушчэнт... А я любіў цябе, Лукер’я, я радаваўся, што яны любяць свайго брата, мо мы з ім дзе і сустракаліся на вайне, мо ён мне і выратаваў жыццё ў Аўстрыі... Мо ты там, на тым свеце, сустрэла яго і вы разгаварыліся адно аднаму, успомнілі тых, каго пакінулі, і зрабілі ўсё, каб мы сустрэліся з гэтай жанчынай, яго жонкай, бо трэба ж было гадаваць сірот, трэба ж было камусьці ставіць іх на ногі.

Я выйшаў на ганак, хлопцы ўжо чакалі мяне, яны паднеслі мне на руках тое, што засталося ад веласіпеда.

— Гэта мой вам падарунак, мае даражэнькія, — сказаў я ім. — Больш у мяне нічога няма.

А яны, дурні, нічога не зразумелі. Маладыя. Глядзелі на мяне і радасна, здзекліва пасміхаліся... Калі мне паднеслі веласіпед, я ўжо ведаў, што назаўсёды застануся ў гэтым доме. Калі браты мужа берагуць так нявестку, то яна павінна быць добрым чалавекам. А я шукаў не так жонку, як добрага чалавека, маці нашаму сыну.

Прабач, Лукер’я, што я не спытаў у той час дазволу ў цябе. Але я пытаў яго ў неба і ў ночы. З маёй будучай жонкай мы крыху пазней пайшлі на вечарынку ў пустую хату на ўскрайку сяла. Тады яшчэ былі пустыя хаты, хаты, у якіх баяліся жыць, якія чакалі сваіх гаспадароў. У той пустой хаце я разам з іншымі па чарзе крычаў у даўно непрапалены комін і слухаў рэха. Гэта так удовы і ўдаўцы пыталі лёс, што ён ім наканue, каго пашле, чым імем адзавуцца ноч, комін, хата. Гэта была мая не першая вечарынка. І не першы крык у апаленую цемру. Але да гэтага разу я не чуў, каб мне хто адказаў. Акрамя цябе, Лукер’я, акрамя цябе, мне заўсёды выпадаў твой голас... А тады... Я крыкнуў, кінуў голас у неба і ноч і замёр. І ты, гэта быў твой голас, Лукер’я, ты азвалася ў тую ноч імем маёй будучай жонкі. І па дарозе дамоў я сказаў ёй:

— У мяне ёсць сын.

Яна адказала:

— А ў мяне расце без бацькі дачка.

Больш мы ні аб чым не гаварылі. Ды і аб чым было гаварыць? Хіба гэтага мала? Усё астатняе за нас сказалі стрэлы. Адзін па табе, Лукер’я, другі — па яе мужу. Што мы маглі дадаць да гэтых стрэлаў, ці маглі мы іх заглушыць, ці маглі мы адвесці кулі?.. Мы збудавалі новую сям’ю.

Вось і ўсё, Лукер’я, цяпер судзі мяне... Далей была работа, да сённяшняга дня я не разгінаўся. І зараз яе дачка і наш з табой, Лукер’я, сын выйшлі ў людзі, яны пажаніліся — жонка і муж. Жывуць спраўна... Спраўна жыву і я. У мяне ладны дом, карова, парсюк, але... лепей бы я жыў у нашай крэазотавай сцёбачцы... Прабач мне, што я даўно не праведваў цябе. Перш заходзіў часцяком, але потым якосьці стала не па дарозе... Ну, ды нічога, нічога, сёння ўжо сустрэнемся. Дзякуй сыну, што падрыхтаваў гэтую сустрэчу”.

Рыгор падняўся і падышоў да сыноў. Тыя спалі на адным ложку, па-дзіцячы абняўшы адзін аднаго. Рыгор пастаяў над імі, хацеў паправіць ім падушку, але перадумаў, пагладзіў па галаве аднаго і другога і пайшоў да свайго ложка. Ужо развіднела, шэры золак ліўся ў акно. І можна было разгледзець твар жонкі, якая ляжала галавой к акенцу. Гэта быў змучаны твар, ля вуснаў, паміж броваў і па скронях стаіўся боль, ён маршчынкамі, як промнямі, рэзаў твар, перакошваў яго і збіваў дыханне і торкаў жанчыне ў павекі. Але зусім іншага шукаў у гэтым твары Рыгор, а чаго — і сам не ведаў. Ведаў толькі, што болю яе палегчыць сёння не зможа. Сёння ён быў жорсткі, як бывае жорсткім чалавек, які парывае са сваім каханнем. А гэты сонны і не сонны твар на світанні быў незнаёмы яму, зусім-зусім чужы. Рыгор разлаваўся на яго і абурыўся на сябе за гэтую сваю злосць. І яму стала горка, што каля трыццаці гадоў пражыў з жанчынай, выгадаваў траіх дзяцей і не ведае яе, не можа вось цяпер палажыць ёй руку на плячо і расказаць усё-ўсё, мо і паплакаць...

Ад усёй жыткі з ёю толькі таго і ўспаміну: ноч, у якую крычаў у комін.

А што на сэрцы ў гэтай жанчыны, ці ляжыць яе сэрца да яго, ці ляжыць яго сэрца да яе... Горнецца, горнецца яна да яго часам, а ён... І ў яго штосьці адрывалася ад сэрца, калі чуў, як плакала яна іншы раз ноччу. Дык любіць ён яе ці не? Прабач, прабач, Лукер’я... а як бы ты хацела, а чаму ты больш радавалася б... Так вось, Лукер’я, няхай сёння маладыя разбіраюцца: любіць — не любіць. А яму і ёй трэба глядзець адно аднаго, колькі той жыткі засталося...

Вечка яшчэ крыху пастаяў, пастаяў і лёг ціхенька, каб не патрывожыць жонкі. І сэрца яго напоўнілася радасцю, той самай радасцю, якая больш за трыццаць год прыходзіць да яго кожны дзень, калі прыгадае, як вечарам бег дванаццаць кіламетраў ад сваёй вёскі да вёскі Лукер’інай.

У вокны ружова струменілася сонца.

Толькі закрыў вочы, здаецца, і не засынаў, а перад ім Лукер’я маладая, у вясельным адзенні і нейкая зусім засмучаная.

— А навошта ж ты мне, Рыгор, гэты камень ды на грудзі? Цяжка мне, цяжка, Рыгорка...

— Аб чым ты, Лукер’ечка, які камень? Вяселле, вяселле, коні вунь пад дугамі, у стужках, цуглі грызуць, бачыш?

Усхапіліся коні. Панеслі коні маладую ад жаніха.

— Стой, пачакай, Лукер’я, як жа я без цябе?

Куды там! Толькі конскі храп ды смех маладой і голас яе:

— Ра-а-на, рана табе яшчэ, Рыгорка, да мяне. Жыві, жыві, Рыгорка...

— Го-о-о-р-ка...

Рыгор падскочыў ад гэтага воклічу...

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 КРАСАВІКА 2014 г.

# III

Яшчэ не было і васьмі гадзін, калі яны зноў прыйшлі на камбінат. У варотах іх стрэў Баглай, падхапіў старога Вечку пад руку і павёў за сабой у хатку, у якой учора спявалі жанчыны, што плялі вянкі, зацягнуў у куток, адгароджаны фанерай, і заўвіхаўся каля стала, хаваючы ад Рыгора вочы. Той не ведаў, што і падумаць.

— Ну, дык падабаецца табе помнік? — спытаў нарэшце Баглай Рыгора.

— Помнік як помнік...

— Эксперыментальны, эксперыментальны, — падхапіўся Баглай. — А што ты мне параіш ставіць? Эксперыментальны ці лепш той стары, дзешавейшы?

— Стаў эксперыментальны.

— Во і я так думаю, — з палёгкай уздыхнуў Баглай. — Ну, давай тады вып'ем са мной, добры чалавек, каб зямля была там пухам. Прымі чарку за яго і мой спакой.

Баглай разліў гарэлку па шклянках, і яны выпілі. Памаўчалі.

— Ну як, яшчэ па адной? — спытаў Баглай, гледзячы не на Вечку, а на бутэльку.

— Не, хопіць...

— І я думаю, што зранку хопіць. А зараз я табе пачну мастака даставаць. Зноў не выйшаў на работу, халера ясная. — І ўзяўся за тэлефон. — Не, не магу я цябе за вароты выпусціць з дошкай без надпісу, сумленне не дазваляе. Не... надпіс — гэта ўсё...

— Калі ты такі сумленны, дай мне лепей машыну, з'езджу да швагра па жалеза пад пліту.

— От і добра, от і добра, і табе дзела, і мне справа. Жалеза трэба, трэба, — Баглай з радасцю шпурнуў на апарат маўклівую трубку і выбег на вуліцу.

Наконт жалеза Вечка дамовіўся са шваграм ужо даўно, толькі не выпадаў час забраць гэтае жалеза. А цяпер яму было крыху ніякавата ехаць да швагра, па-першае, таму, што выпіў, па-другое... тое ж, што і па-першае. Швагер пачуе гарэлку і ўвяжацца за ім. А старому Вечку не хацелася, каб нехта са знаёмых ці то родных, акрамя кроўных, ехаў з ім сёння на могілкі.

Але нічога не зробіш. Пад ніз помніка трэба было тоўстае жалеза, на камбінаце такога не было. Швагер паабяцаў нарэзаць на будоўлі, дзе рабіў зваршчыкам.

У швагра быў выхадны, і ён якраз збіраўся ў грыбы. Узрадаваўся Вечку:

— Добра, што ты пад'ехаў, а то і не ведаў, як дзень пражыць. Акурат паспеў, я з хаты яшчэ не сышоў. Праедуся па ветрыку з табой... — І скочыў да Рыгора ў кузаў.

— Зноў учора піў, — зірнуў на яго чырвоныя вочы Рыгор і не вытрываў, упікнуў: — Ох, Адаме, Адаме, нічога цябе не бярэ.

— А што мяне возьме? — узбуджана рагатнуў Адам, прынюхаўся да Рыгора. — Хіцёр Зміцёр, а з Івана дурня робіш. Сам ужо ўрэзаў зранку... Ці не маладую прадаўшчыцу завёў, што да дзесяці табе прадае?

— Ну, брат, не, нічога цябе не бярэ...

— А што мяне возьме? Сам Герынг па маю душу прылятаў і не змог яе ў мяне ўзяць. А гарэлка мне толькі на карысць ды на радасць. Вось мо і ты паднясеш чарку.

— Ды куды ад цябе дзенешся... Хату хоць дарабіў?

— Дарабіў... На які толькі ляд яна мне здалася. Васямнаццаць гадоў будаваўся і збудаваўся. А ў хаце пуста. Сын з'ехаў, дачка замуж выйшла. Я ды жонка засталіся, як сабака з кошкай... Ці то дзіця яшчэ на смех завесці, ці кабанчыка прыдбаць, каб весялей было? — І загрукаў па кабіне, калі машына параўнялася з разбітай, з чырвонай цэглы сцяной. — Стой тут, — загадаў шафёру, а сам саскочыў на зямлю, агледзеўся і знік у дзірцы ў сцяне. Адзін за адным прасунуў Рыгору праз гэтую дзірку чатыры жалезныя абрэзкі і вылез сам.

— Вось такія мне на грудзі, — пагладзіў бэлькі, — і ўжо ніколі галава з пахмелля балець не будзе. Так ці не?

Рыгор не адазваўся. І ўсю дарогу назад маўчаў. Ля помніка яшчэ здалёк ён прыкмеціў Баглая і двух сваіх сыноў...

— Няма мастака, — сказаў Баглай. — Халера ясная, няма, і ўсё. Як скрозь зямлю праваліўся. Усюды абзваніў... Ніхто не ведае, куды чалавек дзеўся...

— Трэба ехаць. Адклад не ў лад.

— Але ж... сумленне не дазваляе. Без подпісу дошка, халера ясная.

— Ідзі ты са сваім сумленнем,— з крыўдай і жалем у голасе сказаў Вечка.

— Як такіх толькі на рабоце трымаюць, — абурыўся і Адам. Але Вечка не падтрымаў яго. Не хацеў ён гэты дзень пачынаць са сваркі, дый шкада яму было Баглая.

— Ды я ж як лепей хачу, — разводзіў той рукамі. — Прыдумаў. Налью вам у шклянку лаку, ваткі дам, на могілках літары самі і пафарбуеце. Мастака цяпер тыдзень не будзе. Такі ўжо гэта чалавек, халера ясная...

Яны ўжо выехалі са двара, як раптам Вечка схамянуўся:

— Дошак, дошак не ўзялі. Стой...

— Абыдземся, — паспрабаваў угаварыць яго Адам. — Нельга вяртацца, няшчасце будзе.

— Адчапіся, што мы без дошак...

— Будзе няшчасце, — гаварыў Адам. — Будзе няшчасце, будзе...

І сапраўды. Толькі павярнулі на мост праз раку — з завулка выскачыў на добрай хуткасці нагружаны МАЗ. Якраз нацэліўся бокам у борт, дзе сядзелі стары Вечка і Адам. І здавалася, ужо ўсё, нідзе няма ратунку. Адама з Рыгорам асляпіў белы твар шафёра МАЗа, нібыта яго абсыпалі мукой, яны ўчапіліся адзін за аднаго і прыліплі да абабітага жалезам борта машыны.

"За што, Лукер'я?" — толькі і паспеў прамовіць сам сабе Рыгор, а МАЗ, якімсьці цудам не крануўшы іх машыны, прамільгнуў перад вачыма, ахінуў іх густым воблакам дыму і лёгка так пакаціўся з гары.

— Няўжо пранесла? — імкнучыся збіць з сябе страх, пачаў атрасацца Адам.

Рыгор паглядзеў на сыноў, тыя нічога і не зразумелі, напэўна. Сядзелі сабе і глядзелі на раку.

"Сыноў пашкадавала. Адвяла бяду ад сыноў, — падумаў Вечка. — Вось аб чым ты сёння ў сне папярэджвала мяне. Гэта добра, Лукер'я, і за гэта дзякуй табе. Не хочаш ты мяне бачыць. А што я магу зрабіць? Не толькі дзеля сябе жыву на гэтым свеце. Во як стрэнемся, тады іншая справа. Пачакай ужо, Лукер'я, пачакай. Толькі вось пастаўлю хатку апошняму сыну і тады свабодны я, можаш забіраць мяне да сябе... А цяпер не пужай мяне, не пужай, таму што дарэмна гэта. Усё роўна я сёння буду з табою. Калі я табе такі нямілы, прывязу да цябе тваю маці. Толькі ты прабач: я не ведаю, ці жывая яна, ці ўжо даўно з табой. Разышліся нашы дарогі. Страшна і падумаць, як раз'ядноўваюць людзей ці то жыццё, ці то смерць, чаго сцерагчыся на гэтым свеце трэба. Мо ты мне што-небудзь падказала б? Цяжка мне ехаць да цябе, каб ты толькі ведала, як цяжка. Чаму — і галавы не прыкладу. Не ведаю, дзе, калі і як правініўся я перад табой. Мо тым, што застаўся жыць? Дык ты павінна знаць, што я не бярог сябе, шукаў смерці, а смерць мяне не брала. І з гэтым МАЗам ты добра прыдумала, добра. Толькі пачакай ужо трошкі. Больш як чвэрць веку чакала, ну і яшчэ крышачку, я ад цябе нікуды не дзенуся. Я хачу пабачыць цябе, пакуль яшчэ жывы, пасядзець каля цябе, убачыць цябе маладой, успомніць, як добра ў нас з табой усё пачыналася".

А машына тым часам вырвалася з гарадскога асфальту і затраслася па бруку. Па дне кузава пачалі раз'язджацца жалеза, мармур, пясок. Антон учапіўся за пліту. За яе баяўся найбольш. Яму здавалася, што, калі трэсне пліта, будзе тое ж самае, як маці загіне яшчэ раз. Яму здавалася, што вось у гэтую хвіліну ён ратуе не пліту, а маці. Пліта, каменьператварыліся для яго ў маці. І ад таго, што гэта быў маўклівы камень, мёртвы камень, пры кожным падкідзе машыны яму было больш балюча, чым тады, калі б замест пліты быў жывы чалавек. Антон амаль прасіў пліту вытрываць, не разбіцца, і, калі б можна было, ён лёг бы сам пад яе, толькі было б ёй мякка. А дарога была няўмольная. Яна кідала людзей і камень на адзін, на другі бок, то гнала наперад, то адсоўвала назад, то нібыта імкнулася пазбавіцца ад іх зусім, падкідвала іх высока ўгору. Была здзіўлена, што такія ўчэпістыя гэтыя людзі. Кончыўся брук, і стала яшчэ горш. Хвойнік і бярэзнік абапал дарогі парадзелі, пайшлі выжары, балоты, а потым замільгацелі белыя выспы пяску. Набліжалася вёска. Непрыкметна да самай дарогі падбегла бульбяное поле. Захутаныя пад самы падбародак хусткамі, па полі хадзілі жанчыны з бляшанкамі ў руках і раз-пораз нахіляліся і штосьці абіралі з бульбоўніку, напэўна, каларадскіх жукоў.

— Спыні! Спыні! — раптоўна ўгледзеўся ў гэтых жанчын і поле Адам, крычаў і махаў рукамі.

Машына стала. Ён лёгка скочыў на зямлю і накіраваўся да ўзгорка, да адзінокай, са ссечанай, высахлай вершалінкай бярозкі на ўзгорку. Параўняўся з бярозкай, спыніўся, пакруціўся вакол яе і бягом, з усіх ног, кінуўся назад.

— Вось тут за мной і ганяўся той самы падлюка Герынг, — сказаў Адам Рыгору, калі яны ўжо кранулі далей.

Рыгор не першы раз чуў ад Адама пра Герынга і змоўчаў: цішыні, роздуму прасіла яго душа. І Адам, як зразумеў гэта, павярнуўся да хлопцаў, закрычаў на іх:

— Вы чаго тут сядзіце, як ёлупні, чаго? Трымайце помнік, такая дарога паб'е, патрушчыць усё. Не давезямо, добра трымайце. — І ўчапіўся ў абрэзкі стальных двухтаўровых бэлек, нібыта тыя маглі разбіцца. Алесь па яго прыкладу ўзяўся падтрымліваць дошкі. Яму ўжо даўно было крыху не па сабе. Маўклівасць бацькі, брата і гэтых мармуровых пліт ужо даўно гняла яго, быццам ён сапраўды ехаў у машыне разам з нябожчыкам, сядзеў каля труны. І ён баяўся дакрануцца да каменя, дошак, жалеза.

Алесь папракаў сябе за такія думкі, але і інакш думаць не мог. Да таго ж ён баяўся, што гэтая мёртвая жанчына можа ўпікнуць яго за такія думкі, ён ніяк не мог пазбавіцца ад адчування, што жанчына тая знаходзіцца побач з ім, стаіць за яго спіной, і абрадаваўся выбуху энергіі Адама... А сам Адам ужо забыў пра свой загад, устаў, абхапіў пліту і ехаў стоячы, не зважаючы на бясконцыя штуршкі. Рот яго быў скрыўлены ў нямым безгалосым крыку. Ён сапраўды крычаў, але ніхто не мог яго чуць, як ніхто не чуў і тады, каля трыццаці гадоў назад, калі па яго душу прылятаў той самы падлюка Герынг. Тады на гэтым полі не было яшчэ бульбы, нічога не было. Адам толькі араў яго, каб засяваць, рыхтаваў і сам не ведаў, пад што, бо не было чым засяваць поле ў тую далёкую вясну. Пара старых валоў рухалася паволі, Адам сцябаў іх і ўгаворваў і плакаў у разоры. А валы сабе хоць бы што, нават не аглядваліся на яго біццё і слязу, зрэдку пакручвалі абрэзанымі хвастамі і ішлі марудна.

Раптам яны ўзнялі галовы, навастрылі вушы і пайшлі самі па сабе спорным, добрым крокам. Адаму нават ужо прыходзілася бегчы за імі. А з-за лесу, з-за хмар выплывалі на поле, накіроўваліся да чыгункі чатыры нямецкія самалёты. Яны нізка праляцелі над Адамам з яго валамі. Адзін, а мо і два з іх сыпанулі па аратым з кулямётаў. І на чыгунцы загрымелі выбухі. Валы пайшлі яшчэ шпарчэй, і хлопчык ледзь паспяваў кіраваць імі, ледзь паспяваў выцягваць з зямлі цяжкі плуг і зноў заганяць яго ў зямлю. Тлустая зямля, даўно не араная, нібыта счарсцвелая луста хлеба, развальвалася пад плугам.

Выбухі сціхлі, самалёты адбамбіліся і вярталіся назад. Яны зноў былі над Адамам з валамі. Дзіўна, але яму ў той час і ў галаву не прыйшло схавацца. Ды і дзе схаваешся — вакол голае поле, адзіная толькі бярозка пасярод узгорка. Самому яшчэ так-сяк, ці то пад бярозку, ці то сунуў галаву пад скібу зямлі, а валы? Куды дзяваць валоў? Гэтая лядашчая пара была амаль адзінай жывёлай у калгасе. Загінуць валы, то што ён мусіць сказаць старшыні, чым апраўдаецца. Не, лепш ужо што будзе, тое будзе.

І Адам ішоў па полі пад далёкія выбухі бомб, а потым і пад блізкія, прызначаныя яму кулямётныя чэргі. Лётчыкі, усе чацвёра, далі па чарзе па ім і па валах, але кулі мінулі іх. Тры самалёты паляцелі сваёй дарогай, зніклі ў небе, а чацвёрты развярнуўся і пайшоў на Адама. Ён быў адкрыты самалёту з усіх бакоў і бездапаможны. І нямецкі лётчык сekануў вясновую зямлю кулямётнай чаргой перад самымі мордамі валоў. Тыя спыніліся, Адам штомоцы ўрэзаў іх пугай і, захлынаючыся слязьмі, прыпаў да плуга:

— Пайшлі, ваўкарэзіны.

І валы пайшлі. А самалёт рабіў новы заход на яго. Адам ужо азіраўся, куды знікнуць, а знікаць не было куды, толькі ў зямлю, стаць самому насеннем, зернем. Голая, неўзараная зямля ляжала перад ім. На ёй ужо тры гады нічога не расло, акрамя пустазелля. І неба над яго галавой было чысцюткае, ні адзінай хмаркі, ні адзінай плямінкі. Сонца ды нямецкі самалёт — больш там нічога не было. І самалёт зноў густа сеяў па полі кулі, курэла толькі ўсохлая зверху зямля. І кожная з куль, здавалася Адаму, праходзіла праз яго цела. У яго ўжо не было сілы і баяцца. А нямецкі лётчык, напэўна, паставіў сабе за мэту знішчыць гэтага аратага. Спачатку ён думаў толькі напалохаць яго, пасмяяцца, як пойдуць наўскач валы, як зайцам заскача па полі гэты хлопчык. А яны, можа, здавалася яму зверху, не звярталі на яго ўвагі. А ён, відаць, быў майстрам сваёй справы, гэты лётчык, добрым майстрам.

Самалёт, здавалася аратаму, пайшоў прама на яго. Пайшоў без стрэлаў, убіваючы яго гукам у зямлю. І пад гэтым нясцерпным гукам валы спыніліся, павярнулі адзін да аднаго морды. А Адам падняў галаву. Ён разгледзеў чорныя крыжы па баках самалёта, срабрыста-белы, як у шчупака, жывот яго. Разгледзеў схаваны пад цэлулоідам кабіны ў ахоўных вялізных акулярах твар лётчыка. Выскачыў з разоры і замахнуўся на самалёт пугай. Самалёт узмыў, ірвануўся ў неба, быццам гэтай дзіцячай пугай можна было збіць яго. А лётчык як ашалеў, ён кідаў і кідаў самалёт на аратага. Сек зямлю кулямі. Араты і валы рабілі сваю справу. І спыніліся толькі тады, калі самалёт, завываючы, знік у небе. Адам кінуў плуг і валоў і, размахваючы пугай, секучы ёю паветра, пабег, пабег у той бок, куды паляцеў самалёт. Бег, падаў, ускокваў, зноў бег, згубіў пугу і не стаў яе шукаць. Выставіў у неба сціснутую ў кулак правую руку, прыціснуў яе ў локці левай і памахаў услед самалёту:

— Вось што табе, падлюга Герынг... а не маю душу...

Вярнуўся, падняў пугу і пачаў аглядацца. Перад ім было ўсё тое ж, знаёмае яму да апошняга каменя поле. Знаёма дыміла наводдаль комінамі вёска, і непаслухмяныя валы стаялі мёртва на ўзгорку, хоць ты іх забі. І ён біў іх пугай, і кулакамі, і адсечанай кулямі вершалінкай бярозы. Валы ні з месца. Тады ён заплакаў апошні раз у жыцці, упаў грудзьмі на зямлю, прыпаў да яе зарумзаным тварам, забіў зямлёю нос, рот, біў зямлю кулакамі. А назаўтра пакінуў вёску, з'ехаў у горад. І вось перад ім была зноў яго родная вёска. Ён уязджаў у яе, прыціснуўшыся грудзьмі да мармуровага помніка, па ўсё такой жа дарозе.

# IV

Рыгор з болем і з радасцю ўглядаўся ў блізкую вясковую вуліцу. Ён пазнаваў яе і не пазнаваў і не мог зразумець, што здарылася ці то з ім, ці то з вуліцай. На ранейшых месцах стаялі калодзежы. Мо іх было крыху больш, але яны былі амаль такія ж і не такія, да якіх ён прывык. На імгненне ён убачыў адбітак свайго твару ў зялёным кабінным лаку машыны і адразу супакоіўся. Толькі зашчымела-зашчымела сэрца: гэта змяніўся ён, Рыгор Вечка, а вёска засталася нязменнай. Ён старэў, старэла ў яго памяці вёска, а яна амаладжалася. Усхапіліся зелянінай вакол хат сады. І цешчына хата таксама памаладзела. Ён расчыніў веснічкі і амаль сутыкнуўся са старой. Разгубіўся і не знайшоў нічога лепшага, як толькі спытаць:

— А ці нельга ў вас тут вады папіць? — словы гэтыя вырваліся ў яго самі сабой, і ён тут жа пашкадаваў аб іх. Перахапіла дых, быццам ён бразнуўся вобземлю з каня. А старая нічога не разумела і не пазнавала яго. "Забыла, напэўна, — з ціхім смуткам падумаў Рыгор. — Колькі ўжо год прайшло, колькі год ужо ёй? Бог яго ведае, тут свае гады няма калі лічыць".

Следам за Рыгорам у двор забег Антон. Убачыў старую, стаў паблізу бацькі.

— А дзетка ты мая, і крошачкі матчыныя сабраў, — кінулася да яго бабуля, заабдымала, загладзіла. — Міхаська, Міхаська, родненькі...

— Антон я, Антон, бабуля! — Антон прыпаў да яе высахлага, лёгкага цела.

— Не, не, блытаеш ты, Міхаська, Міхаська — ты. Антон загінуў... Загінула дзіцятка...

Антон не пярэчыў ёй, і не таму, што не хацеў хваляваць старую, не таму, што перахапіла дыханне, а таму, што ён сапраўды не ведаў, як яго завуць. І ніхто гэтага не ведаў... Міхась і Антон — два браты-блізняты. Адзін з іх загінуў, ледзь навучыўшыся хадзіць. Хто? Хто? Бабуля гаворыць: Міхась, а ўсе астатнія — Антон. А ён сам, той, каго клічуць сёння Антонам?

— Ці ты не пазнала мяне, мама? — пытае ў старой Рыгор.

— Як жа, Рыгорка, цябе не пазнаць...

Выйшла на ганак на галасы старэйшая Лукер'іна сястра, амаль такая ж старая і без узросту, як і маці.

— Дзе тут у вас магазін? — спытаў у яе Рыгор, калі ўжо крыху нагаварыліся і паплакалі.

— Ды ты што, — абурылася дачка. — Ды ці я для сваёй сястры пашкадую чаго... Дзякуй Богу, пакуль што ёсць свая, як ведала, прыдбала. Сын жэніцца, выгнала трохі... Прабачце, з вамі не паеду. Няхай там сястра не крыўдуе ўжо на мяне, картоплю абганяла, ухадзілася, ног няма. А гарэлкі знойдзем, пасядзіце там, усё каб як у людзей было... А ты, мама, паедзеш?

Старая паглядзела на яе з папрокам і пачала збірацца. Яна доўга, вельмі доўга ішла па двары якіхсьці дваццаць крокаў. Рыгор з Антонам потым доўга падсаджвалі яе ў кабіну. А Алесь кідаў у кузаў цэбрыкі, рыдлёўкі, насіў ваду. Нарэшце крануліся. Шафёр ехаў цяпер асцярожна, ціха, бярог старую. І Рыгор быў удзячны яму, бо ўсё імкнуўся аддаліць тую неймаверна страшную гадзіну сустрэчы. І вось могілкі. Старыя, лясныя, неабгароджаныя, зарослыя ціпчаком і верасам. Машына спынілася. Пакуль у кузаве раздумвалі, прыходзілі ў сябе, старая хуценька расчыніла дзверцы і была ўжо на зямлі. Заламала рукі і загаласіла, залямантавала:

— Ох, донька, донька, ды хто ж гэта да цябе прыехаў? Ды адкрый ты вочы, ды паглядзі толькі. Хто ж топча цяпер твае сцежкі, хто па іх ходзіць, доню ты мая, доню... — І пайшла, як сляпая, натыкаючыся на крыжы і прыпадаючы да кожнага з іх.— Ды чаго ж табе, маладой, не жыць было, ды навошта ты маю кулю прыняла. Заступіла я твой век, заступіла, жыць бы табе ды жыць ды не бачыць бы і не чуць бы маіх слёз...

— Дзе? — не вытрываў Адам.

— Здаецца, вось гэта. — адказаў Рыгор. — Крайняя была. Як бег на паяздок колісь, дык заўсёды заглядваў.

— Ох не, Рыгорка, ох не. І магілку ўжо забыў. Ты чуеш, Лукер'я, ці ж ты чуеш?

Антону стала страшна: а што, калі не знойдуць магілы маці, што рабіць будуць?

Ён, Антон, ішоў па свеце, будаваў дамы і новыя гарады, не раз сядзеў у прэзідыумах і ўгінаўся ад радасці апладысментаў, а ў далёкім Палессі сярод хвой стаялі пры дарозе запушчаныя лясныя могілкі, неабгароджаныя. І ён, Антон, за ўсё сваё жыццё так і не зведаў, што ён у вечным абавязку перад маленькай вёсачкай, перад маленькай хаткай і яе магілкамі.

— Забыў, забыў, Лукер'я, — стагнаў сярод крыжоў бацька.

Адам глядзеў на яго з жалем і абурэннем.

— Старая знойдзе, — гаварыў ён, — старая знойдзе, маці не забудзе...

— Вось ляжыць мая матка, — падбег Рыгор да адзінокага крыжа на ўскрайку. — Вось тут бацькава магіла. А дзе ж ты, Лукер'я? Вось, мама, вось тут павінна яна быць.

Старая моўчкі амаль паўзла паміж крыжоў, не зважаючы ні на зяця, ні на ўнука. Кранала крыжы кончыкамі пальцаў, як сляпыя людзі кранаюць галовы дзяцей. На некаторых крыжах былі падвязаны скаравелыя ўжо ручнікі, і старая падоўгу ўглядвалася ў кожны з іх.

— Маці па ручніках знойдзе, па матузках прызнае... — між тым гаварыў Адам. А Вечка і два яго сыны маўчалі. І нямы, дадзены Баглаем рабочы стаяў каля машыны побач з шафёрам і таксама маўчаў.

— Вось тут... Вось ты дзе схавалася, донейка мая, — прамовіла нарэшце бабуля, зняла з крыжа і паднесла да кофты выцвілы, выбелены сонцам матузок.

— Аднаго ўзору! — пацвердзіў Адам. — Маці заўсёды знойдзе.

А старая ўжо ляжала на магілцы. Бачком нязграбна асунулася на зямлю і цяпер нібыта прыслухоўвалася да дыхання дачкі.

— Ой, чула ж маё сэрца, чула, што не на жытку нараджала цябе. За што яму такія пакуты, Лукер'ечка...

"А-аа-ааа" — падхапілі сосны і панеслі, панеслі па лесе.

— А ці ж яна была табе нядобрай жонкай, Рыгорка, што ты так забыў пра яе? Гора мне, гора.

Усё вакол ажыло, прыйшло ў рух, загаманіла, зашаргацеў камень, забілася ў цэбрыках вада, глуха пляскаліся на лясную дарогу сталёвыя бэлькі. А людзі замоўклі, нібыта саромеліся адзін аднаго, і кожны з іх хаваў вочы. Адышоўся ўбок і сціх Алесь. Гора, жывым увасабленнем якога была гэтая ціхая старая жанчына, увайшло і ў яго сэрца. Ён зразумеў, дзеля чаго яго брат і бацька ўзяліся ставіць помнік. Яны абуджалі сваю памяць, узрывалі яе гэтым белым мармурам. Узрывалі свой і яго спакой. Ужо ўсё было падрыхтавана, і можна было брацца за абмуроўку помніка, але ніхто не адважыўся выцягнуць з магілы стары, спарахнелы крыж. Першы да яго кінуўся Адам, але толькі працягнуў руку і адышоў убок. І нямы, інтэлігентна апрануты, у белай кашулі, пры гальштуку і ў моднай сінтэтычнай куртачцы, сярэдніх год мужчына паглядзеў на Рыгора.

— А чаму толькі адзін крыж? — спытаў у Рыгора Адам. — Тут жа ў цябе жонка і сын Міхась.

— Адзіны крыж, — сказаў Рыгор, — адзіны. Так ужо выйшла. Я быў далёка, калі ставілі яго. А таму, хто ставіў, не было часу... ужо ішоў яго час паміраць... Брацeнік яе ж, як людзі мне гаварылі, і хаваў.

— Ох, колькі іх тут ляжыць, — недачула, схапілася зноў за галаву, загаласіла бабуля. — Сынкі мае, сынкі. Ды прыгожыя ўсе такія, ды маладзенькія. — Яна паказала рукой на срабрысты помнік, дзе на бетонным пастаменце, схіліўшы галаву, стаяў каменны чырвонаармеец з аўтаматам. — А аднаго ж, маладзенькага... Ой, як уздумаеш, дык месца няма табе... І абапал дарогі вакол яго такія ж маладыя... Кругом, кругом сынкі, як грыбы падрэзаныя, на дарозе няма дзе нагу паставіць. Ой, людцы, жытку пражыла, а такога не бачыла.

— Гэ-эх, — разнеслася за спінай Алеся. Ён павярнуўся і ўбачыў, што бацька трымае на выцягнутых руках перад сабой крыж. Крыж быў двух колераў, палова, якая была ў зямлі, амаль чорная, другая палова — зялёная. Бацька глядзеў на гэты крыж і хістаўся, быццам ад непамернага цяжару.

— Спаліць трэба, спаліць, — раіў Адам.

Але бацька, не слухаючы яго, панёс крыж у лес. А нямы ўжо завіхаўся з рыдлёўкай каля машыны. Дзе толькі што стаяў крыж, ужо была раскідана сухая, як прысак, белая зямля. І Алесю, які не ведаў вайны, і тым, хто яе ведаў, здалося, што стаіць не летні мірны і цёплы дзень, а зноў студзень, той далёкі студзень 1944 года. І не помнік ставяць яны на даўняй магілцы, а толькі што выкапалі гэтую магілку, толькі што спусцілі ў яе труну. І надышла апошняя хвіліна развітання. Тая самая хвіліна, калі няўмольна прыходзіць адчуванне непазбежнасці таго, што здарылася, адчуванне, што асірацеў не толькі ты — на аднаго чалавека асірацеў і свет. І хочацца да болю біць кулакамі зямлю, да болю, да крыві кусаць сабе рукі.

— Вось тут, бачыце, сыны, вось тут пакладзяце — прыйдзе час — і мяне, — паказваў і паказваў сынам Вечка. — Тут мая зямля і маё месца.

— Ох і цяжка вам будзе пад гэтым мармурам, — як у забыцці, а можа, і сапраўды адчула ўвесь цяжар каменнага помніка, прагаварыла старая. — Цяжка, Лукер'я, цяжка, Антон.

І Антон адчуў, што цяжка, цяжка жыць на свеце і не ведаць, хто ты: ці то Антон, ці то Міхась.

Стагнаў растрывожаны ветрам стары хваёвы лес.

## ВІНШУЕМ!

Заўтра ў знакамітага пісьменніка **Віктара Апанасавіча Казько** дзень нараджэння. "Народная Воля" віншуе свайго даўнішняга аўтара і жадае яму моцнага здароўя, творчага плёну, радасці ў жыцці.

В.А.Казько нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах Гомельскай вобласці. Выхоўваўся ў Вільчанскім і Хойніцкім дзіцячых дамах. Пасля заканчэння васьмі класаў (1956 г.) паехаў у Кузбас, дзе паступіў вучыцца ў горнапрамысловае вучылішча. Скончыў Кемераўскі індустрыяльны горны тэхнікум (1962 г.). Працаваў на шахце, у геолагаразведцы праходчыкам.

Першыя літаратурныя творы з'явіліся ў 1962 годзе. З гэтага часу В.А.Казько — на журналісцкай рабоце. У 1970 годзе скончыў завочна Літаратурны інстытут у Маскве.

З 1971 года жыве ў Мінску. Працаваў у газетах, часопісе "Нёман". У 1986—1988 гг. — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў. Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа і іншых.

Аўтар такіх твораў, як "Высакосны год", "Цёмны лес — тайга густая", "Дзень добры і бывай", "Суд у Слабадзе", "Цвіце на Палессі груша", "Хроніка дзетдомаўскага саду", "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", "Бунт незапатрабаванага праху" і іншых.

## ФАКТ

# Пуцін не ажэніцца, пакуль не выдасць замуж былую жонку

*Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін, адказваючы падчас нядаўняй "прамой лініі" на пытанне, калі краіна ўбачыць першую лэдзі, заявіў, што яму спачатку трэба выдаць замуж сваю былую жонку.*

*"Вы ведаеце што? Мне спачатку сваю былую жонку Людмілу Аляксандраўну замуж трэба выдаць, а потым ужо і пра сябе падумаць", — сказаў Пуцін.*



## КАМЕНТАРЫЙ

## «Народная Воля» пацікавілася, як адрэагавалі на адказ Пуціна прадстаўнікі жаночых арганізацый.

**Ірына СІДОРСКАЯ, член савета ГА "Жаночы незалежны дэмакратычны рух", загадчык кафедры тэхналогій камунікацыі БДУ:**

— Хацелася б думаць, што гэта не сексізм, а проста не вельмі разумны жарт. Людміла і Уладзімір Пуціны развяліся, у кожнага з іх свой шлях, і цяпер кожны сам будуе сваё асабістае жыццё...

**Наталля ХАЗЯЕВА, кіраўнік інтэрнэт-праекта "Беларуская жаночая сетка", дырэктар ГА "Супрацоўніцтва дзелавых і творчых жанчын":**

— Атрымліваецца, такі пан-гаспадар: захоча — аддасць замуж, захоча — не? Вядома, гэтая фраза нявартая кіраўніка дзяржавы. Што значыць — выдаць замуж? А Людміла Пуціна без яго не можа выйсці? Я, напрыклад, на яе месцы пакрыўдзілася б. Таму што пасля разводу — гэта ўжо мая асабістая справа, калі выходзіць замуж і ці выходзіць наогул. Да яе цяперашняга жыцця ён зараз не мае ніякага дачынення.

**Вольга ЯНЧУК, старшыня ГА "Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын":**

— Гэта прыклад таго, што былыя мужы нават пасля разводу спрабуюць захаваць кантроль над жаночымі паводзінамі. Вельмі часта мужчына не можа супакоіцца, пакуль не ўладкуе жыццё сваёй былой жонкі і не перадасць яе, так бы мовіць, з адных рук у іншыя. Для мяне гэта тыповы прыклад праявы патрыярхальнай мадэлі ўзаемаадносін. На постсавецкай прасторы, дарэчы, гэта даволі распаўсюджаная сітуацыя. Думаю, што многія людзі, якія жывуць у гэтай мадэлі і падзяляюць яе, ўхваляць такія паводзіны Пуціна. Гэта з'яўляецца нормай для патрыярхальнай культуры.

**Ірына САЛАМАЦІНА, кіраўнік феміністычнай ініцыятывы "Гендарны маршрут":**

— Тут усё проста: вялікі мужчына спрабуе адказваць за вялікую краіну, у тым ліку і за былую жонку. Ён паказвае, што як свядомы мужчына спрабуе прыстроіць былую жонку. Вядома, падобныя публічныя паводзіны для палітыка цалкам недапушчальныя! Не трэба блытаць асабістую і публічную прасторы. Ён сказаў гэта не ў прыватнай гутарцы, а як прэзідэнт краіны. Гэта пра многае гаворыць. Людміла Пуціна што, такая бездапаможная, што без яго замуж выйсці не можа, і ён нясе за яе адказнасць? На якой падставе?

Напэўна, сёння Пуцін можа сказаць, што гэта быў жарт, што яго няправільна зразумелі. Але да такіх жартаў трэба ставіцца сур'ёзна. І калі б падобную фразу вымавіў лідар заходняй краіны, на наступны дзень яму давялося б падаць у адстаўку. Таму што гэта цалкам некарэктнае выказванне, і прэса, і жаночыя арганізацыі маментальна на такое адрэагавалі б! У Амерыцы ці Еўропе ў парадку рэчаў, што побач з буйным палітычным лідарам заўсёды знаходзіцца жанчына, якая таксама прысутнічае ў публічнай сферы. І яе ролю ніколі не зводзяць да функцыі жонкі! А калі людзі разышліся і чалавек такое заяўляе... Гэта поўнае нівеліраванне месца жанчыны ў грамадстве! І пры гэтым усё роўна, былая яна ці цяперашняя жонка...

**Алена ЯСЬКОВА, былы кіраўнік ліквідаванай жаночай партыі "Надзея", юрыст:**

— Думаю, Пуцін спрабаваў пажартаваць, але жарт атрымаўся вельмі бестактоўным. Мужчыны і жанчыны карыстаюцца роўнымі правамі, праўда, у Беларусі і ў Расіі, у адрозненне ад многіх еўрапейскіх краін, закон аб роўных магчымасцях не прыняты. Як сказала б вядомая беларуская феміністка Людміла Пеціна, Пуцін у гэтым выпадку паказаў сябе чалавекам недэмакратычным і гендарна неадчувальным...

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ, старшыня "Беларускай жаночай лігі":**

— Гэта праява мужчынскага шавінізму. У гэтай фразе столькі нядбайнасці, я нават вушам не паверыла, калі пачула! Ну развяліся і развяліся, з многімі бывае. І цяпер Людміла Пуціна сама ў стане разабрацца са сваім жыццём!

Зададзенае пытанне, дарэчы, тычылася самога Пуціна, вось і распавёў бы лепш што-небудзь аб сваім жыцці, а не прыкрываўся былой жонкай. У вузкім мужчынскім коле, за бутэлькай піва, магчыма, такое і дапушчальна, а калі прэзідэнт такое заяўляе на ўсю краіну... Гэта проста непрыгожа. Па гэтым выказванні можна меркаваць аб узроўні гендарнай культуры і месцы жанчыны ў расійскім грамадстве...

**Марына КОКТЫШ.**

***

*Нагадаем, пра развод Людміла і Уладзімір Пуціны абвясцілі ў чэрвені мінулага года. Яны пражылі ў шлюбе амаль 30 гадоў. У іх дзве дачкі — Марыя і Кацярына. Уладзімір і Людміла Пуціны заявілі, што хочуць застацца блізкімі людзьмі. Паводле іх прызнання, яны разам не жывуць ужо некаторы час, падтрымліваючы сяброўскія адносіны.*

*— Гэта сапраўды было нашым агульным рашэннем, — каментавала Людміла Пуціна. — Наш шлюб завершаны ў сувязі з тым, што мы амаль не бачымся. Уладзімір Уладзіміравіч паглыблены ў працу, нашы дзеці выраслі. У кожнага сваё жыццё. Я не люблю публічнасць, пералёты для мяне складаныя...*

## ВЕРНІСАЖ

# Партрэт Мулявіна пусцяць з малатка

*Буйны аўкцыён па продажы карцін расійскага мастака Нікаса Сафронава пройдзе ў Мінску 5 мая. Пра гэта паведаміў дырэктар аўкцыённага дома "Парагіс" **Андрэй Бярэзін**.*

Асабістыя запрашэнні на распродаж карцін ужо атрымалі вядомыя калекцыянеры з краін СНД. *"Гэта будзе міжнароднае мерапрыемства, якое дазволіць павысіць узровень беларускага арт-рынку"*, — адзначыў Андрэй Бярэзін.

На аўкцыён выставяць больш за 20 карцін расійскага мастака. У тым ліку і партрэт "Песняра" Уладзіміра Мулявіна, які памёр у 2003 годзе.

*"Карціна напісана мастаком у 2014 годзе і ўяўляе каштоўнасць як успамін пра таленавітага беларускага музыканта,* — гаворыць Бярэзін. — *З малатка таксама сыдуць некалькі сюррэалістычных палотнаў".*

Выбарам карцін для аўкцыёну Сафронаў займаўся самастойна.

*"Па вопыце я прыкладна ўяўляю, якія менавіта палотны могуць быць запатрабаваны на такіх мерапрыемствах*, — гаворыць Сафронаў. — *Часам, скончыўшы палатно, я бачу, што яно можа быць удала прададзена, хоць задумвалася як эксперымент ці як забаўка. Падчас становіцца цікава, як адрэагуе публіка на нешта новае, ці захоча купіць раптоўную і нестандартную рэч".*

Выстаўленыя на аўкцыён карціны зараз экспануюцца ў мінскай Галерэі Савіцкага, дзе да 4 мая праходзіць выстава мастака.

Улічваючы немаленькія кошты на карціны Сафронава, можна смела прагназаваць, што кошты на многія аўкцыённыя творы будуць проста шалёныя.

**Вера ВІР.**

## ГАСТРОЛЬ

# «Ляпис Трубецкой» объявил Happy End Tour

*В связи с прекращением творческой деятельности группа "Ляпис Трубецкой" даст три прощальных концерта.*

Концерты со специальной программой "Клоуна нет" в Москве, Киеве и Санкт-Петербурге будут объединены в самый короткий в истории "Ляписов" Happy End Tour.

В Санкт-Петербурге концерт состоится 28 августа в клубе А2; билеты уже поступили в продажу. Даты концертов в Москве и Киеве пока не определены, но выступления состоятся до 1 сентября — именно после этой даты, по словам Сергея Михалка, "Ляпис Трубецкой" прекратит свое существование.

МОЗАИКА

## Будущее белорусского хоккея

*Юношеская (U-18) сборная Беларуси по хоккею в очередной раз пролетела мимо элитного дивизиона.*

Чемпионат столкнул между собой три постсоветские команды — Беларусь, Казахстан и Латвию.

Латвийцы в итоге стали победителями турнира, завоевав единственную путевку в элиту, казахстанцы — дебютанты дивизиона I — заняли 3-е место, а белорусы второй год подряд не попали даже в тройку призеров (4-е место).

Последний раз в элитном дивизионе юношеская сборная Беларуси играла в 2010 году, когда на чемпионате мира, проходившем в Бобруйске, заняла последнее, 10-е, место и опустилась в дивизион I. Лучшим достижением команды в компании сильнейших является 5-е место на ЧМ-2002 в Словакии.

## Трехкратные!

*В минувшие выходные в брестском спорткомплексе "Виктория" завершился четвертый матч финальной серии первенства Беларуси по волейболу среди женских команд, который и определил чемпиона страны.*



Местное "Прибужье" праздновало победу над "Минчанкой" со счетом 3:0. Брестская команда завоевала звание чемпиона Беларуси.

До этого "Прибужье" ("Ковровщик") побеждал в 2002-м и 2003 годах, так что сейчас брестчанки стали уже трехкратными чемпионками.

Обладателями бронзовых медалей стали волейболистки барановичского "Атланта", которые одолели "Жемчужину Полесья".

## Минское "Динамо" вышло в лидеры

*Минское "Динамо" возглавило турнирную таблицу чемпионата Беларуси по футболу в высшей лиге по результатам 4-го тура.*



19 апреля столичное "Динамо" обыграло "Минск" со счетом 2:0. Лидировавшие до этого "Нафтан" (Новополоцк) и "Шахтер" (Солигорск) разошлись с миром — 1:1.

На второе место поднялся борисовский БАТЭ, победивший дома бобруйскую "Белшину" — 5:2.

Остальные результаты тура: "Гомель" — "Слуцк" — 1:0, "Днепр" (Могилев) — "Неман" (Гродно) — 2:3.

Накануне "Торпедо-БелАЗ" (Жодино) взяло дома верх над брестским "Динамо" — 2:0, сообщает БелаПАН.

Положение команд: "Динамо" (Мн) — 10 очков, БАТЭ — 9, "Нафтан" — 8, "Шахтер" — 8, "Минск" — 6, "Гомель" — 6, "Торпедо-БелАЗ" — 5, "Белшина" — 4, "Слуцк" — 3, "Неман" — 3, "Динамо" (Бр) — 3, "Днепр" — 2.

**P.S.** *Следующий тур пройдет 26—27 апреля: "Гомель" — "Динамо" (Мн), "Шахтер" — "Днепр", "Неман" — "Торпедо-БелАЗ", "Динамо" (Бр) — БАТЭ, "Минск" — "Нафтан", "Белшина" — "Слуцк".*

## Калюжный остается в Минске

*Форвард национальной сборной Беларуси, капитан минского "Динамо" Алексей Калюжный продлил соглашение с клубом еще на два года.*




36-летний Алексей Калюжный перешел в минское "Динамо" в прошлом году и в завершившемся сезоне провел в регулярном чемпионате и Кубке надежды 63 матча, в которых набрал 36 голевых баллов.

Фактически всю профессиональную карьеру Калюжный провел в российских клубах — московском "Динамо", нижнекамском "Нефтехимике", магнитогорском "Металлурге", череповецкой "Северстали", омском "Авангарде" и ярославском "Локомотиве". Кроме того, в сезоне 2003—2004 Калюжный сыграл шесть матчей плей-офф открытого чемпионата Беларуси в составе минской "Юности".

В составе сборной Беларуси Алексей Калюжный принял участие в 12 чемпионатах мира и трех Олимпиадах.

**Подготовил Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Андрэй АРАМНАЎ: «Калі я перамог, дачка нават абняла тэлевізар»

*Алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы Андрэй Арамнаў пасля шасцігадовага перапынку зноў на п'едэстале. На чэмпіянаце Еўропы ў Тэль-Авіве беларус заваяваў бронзавы медаль. Чаго гэта яму каштавала? Аб гэтым спартсмен расказаў "Народнай Волі".*

— Вельмі цяжка мне даўся гэты медаль, бо я на яго наогул не разлічваў, — шчыра прызнаецца спартсмен. — Апошні месяц перад чэмпіянатам Еўропы я прысвяціў лячэнню. Траўма загаілася, але сіла сышла. Так што падняў столькі, колькі змог. Дарэчы, да спаборніцтваў такую вагу я нават не спрабаваў падымаць, бо баяўся, каб не траўміравацца зноў. Так што задаволены...

**— З траўмамі ў вас пайшла нейкая чорная паласа...**

— А яна і зараз працягваецца, так што трэба рабіць высновы. Мне ўжо шмат парад даюць.

**— Вынік, які паказалі на чэмпіянаце Еўропы, — не мяжа?**

— Безумоўна. Паўтаруся: бронзу еўрапейскага першынства я заваяваў, не трэніруючыся сур'ёзна месяц! Але рашэнне прыняў адназначнае — у любым выпадку выступаць на спаборніцтвах. А з медалём мне зараз будзе лягчэй. І псіхалагічна, і ў матэрыяльным плане.

**— Вы шмат выступалі за тое, каб з пасады галоўнага трэнера зборнай сышоў Аляксандр Ганчароў, што ў рэшце рэшт і адбылося. Зараз вам больш камфортна трэніравацца ў камандзе?**

— Адназначна. З трэнерамі няма ніякіх пытанняў, усе працуюць на вынік.

**— Да Алімпіяды рыхтуецеся?**

— Гэта мая чарговая мэта, таму ад штангі не буду адыходзіць аж да Гульняў. За два гады трэба толькі здароўе ў парадак прывесці.

**— На сям'ю шмат часу застаецца?**

— Не столькі, колькі хацелася б.

**— Дачка ўжо разумее, што тата заваяваў медаль?**

— А як жа! Дачка глядзела па тэлевізары маё выступленне, нават абдымала яго, калі перамог.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Редфу не хочет жениться на Азаренко

*В эфире радиостанции "2Day" американский исполнитель Редфу рассказал, когда он собирается жениться на белорусской теннисистке Виктории Азаренко.*



— В нашей личной жизни все отлично, — поведал Редфу. — Вы знаете, мы с Викой сейчас в Сиднее, она постоянно дает мне советы: "Ты должен сделать так..." , "Ты должен сделать перерыв..." И это круто!

**— Когда свадьба?**

— Это очень важный день в жизни мужчины. Жизнь холостяка заканчивается навсегда.

**— Так скоро вы поженитесь?**

— Нет, пока нет! Это очень серьезный шаг.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

## Пра хакейны байкот

Тэма байкоту сёлетняга мінскага чэмпіянату свету па хакеі з'явілася ў беларускіх і замежных СМІ адразу пасля брутальнага разгону мірнай дэманстрацыі ў Мінску 19 снежня 2010 года і, так або інакш, прысутнічала ў нашай інфармацыйнай прасторы ўвесь гэты час. Адразу было, аднак, зразумела, што фармальнага байкоту міжнароднага спартыўнага спаборніцтва яго прыхільнікам чакаць не даводзіцца. Сённяшнія міжнародныя федэрацыі па ўсіх больш-менш папулярных відах спорту звязаны доўгатэрміновымі дамовамі і кантрактамі з транснацыянальнымі фірмамі-спонсарамі, маюць абавязкі перад буйнымі тэлекампаніямі, і адмена таго або іншага такога спаборніцтва можа прывесці да банкруцтва такой федэрацыі. А там, дзе "ў гульні" велізарныя грошы, у сённяшнім прагматычным свеце на маральныя чыннікі прынята заплюшчваць калі не два, дык хоць адно вока...

Выдаецца, аднак, што набліжэнне дня адкрыцця мінскага хакейнага чэмпіянату, якое мае адбыцца 9 мая, у Дзень Перамогі, наймацней хвалюе ў Беларусі не столькі хакейных заўзятараў, колькі хакейных і нехакейных чыноўнікаў. Днямі ў афіцыйных СМІ з'явілася інфармацыя, паводле якой на нарадзе самага высокага ўзроўню кіраўнік беларускага ўрада **Міхаіл Мясніковіч** спецыяльна дакладаў пра становішча з продажам білетаў на матчы чэмпіянату. Дакладаў нібыта аптымістычна, хоць, безумоўна, асноўны кантынгент пакупнікоў тых білетаў ствараць, відаць, расіяне, у якіх цяпер надзвычай папулярным зрабіўся турызм — і не толькі спартыўны...

Але ж любая падзея, якая носіць гучную назву "чэмпіянат свету", прыцягвае ўвагу найперш тым, што гэтую падзею ствараюць зоркі дадзенага віду спорту. Падобна, аднак, што наплыву хакейных зорак у майскі Мінск не прадбачыцца. Толькі што афіцыйна апублікаваны склады каманд Канады і ЗША, што маюць прыехаць да нас. Кідаецца ў вочы, што гэта не другія, не трэція і нават не чацвёртыя камплекты моцных хакеістаў гэтых краін. Можна яшчэ неяк зразумець, што ў гэтых камандах няма ніводнага ўдзельніка апошніх сочынскіх алімпійскіх гульняў — паўсотні найлепшых хакеістаў Паўночнай Амерыкі. Але ў камандах Канады і ЗША няма таксама і ніводнага хакеіста, які лічыўся кандыдатам на паездку ў Сочы. Абодва названыя ў складзе канадцаў галкіперы, **Бен Скрайвенс** і **Джэймс Раймер**, не ўваходзяць нават у дзясятку найлепшых канадскіх варатароў, а сярод форвардаў у апошнім рэгулярным чэмпіянаце нацыянальнай хакейнай лігі самыя высокія паказчыкі выніковасці — ажно 51-ы і 54-ы — маюць адпаведна форварды **Кайл Тэрыс** з "Атава Сэнатарс" і **Назем Кадры** з "Таронта Мэйпл Ліўз". Астатнія нападаючыя займаюць у адпаведнай табліцы выніковасці месцы ніжэй за 82-е. Сітуацыя са складам амерыканскай зборнай яшчэ цікавейшая: галкіпер **Конар Хелебік** гуляе за Масачусецкі ўніверсітэт, форвард **Кевін Хэйс** рэпрэзентуе Бостанскі каледж, а самы выніковы НХЛавец з абвешчанага складу каманды, **Крэйг Сміт,** заняў у адпаведнай табліцы 70-е месца.

Дзеля параўнання можна ўзгадаць чэмпіянат свету 2010 года, які таксама адбываўся ў алімпійскі год і які тады прымала Германія. У складзе канадскай каманды на тым турніры гулялі новаспечаны алімпійскі чэмпіён **Коры Перы**, маладыя хакейныя зоркі **Джон Таварэс, Сціўен Стэмкас, Мэт Дзюшэн;** гонар каманды ЗША баранілі **Кіт Яндл, Джэк Джонсан**, **Ці Джэй О'Шы, Раян Картэр, Бен Бішап, Брэндан Дубінскі...**

Таму не толькі любы эксперт, а і аматары хакея скажуць, што склады каманд Канады і ЗША (дый большасці іншых вядучых хакейных дзяржаў) сёлета маюць быць найслабейшымі за апошнія 10—15 гадоў. Сёння абсалютна неверагодным выглядае, што на мінскім лёдзе з'явяцца такія сапраўдныя зоркі хакея, як **Сідні Кросбі, Ярамір Ягр, Раян Гецлаф, Шы Уэбер, Хенрык Лундквіст, Данкан Кіт, Здэна Хара, Тука Раск, Філ Кесел** або "хоць бы" названыя вышэй удзельнікі нямецкага чэмпіянату свету 2010 года.

Шэраг спартыўных выданняў паспеў абвясціць, што ў складзе расійскай зборнай павінен выступіць "найлепшы бамбардзір" сёлетняга чэмпіянату НХЛ, удзельнік Алімпіяды **Аляксандр Авечкін**. Яго, безумоўна, можна аднесці да хакейных зорак, бо Авечкін сапраўды ўвайшоў у васьмёрку самых выніковых форвардаў НХЛ гэтага рэгулярнага сезона. Заўважу, тым не менш, што пры ўсім тым гэты нападаючы ўмудрыўся стаць і... самым неэфектыўным хакеістам усёй лігі па агульнапрынятай сістэме "плюс-мінус" з паказчыкам мінус 35.

Вядома ж, у кіраўнікоў, напрыклад, расійскай спартыўнай дэлегацыі на мінскі чэмпіянат свету слова "байкот" у лексіконе няма. Але, як ні назаві факт непрыезду на гэты турнір практычна ўсіх сапраўдных зорак хакея — "байкотам" ці "адсутнасцю па розных прычынах", сутнасць справы ад гэтага не зменіцца: заўзятары хакея будуць назіраць на мінскіх хакейных пляцоўках дуэлі неблагіх, але далёка не самых лепшых хакеістаў свету.

Відаць, разумеюць гэта і высокія дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі. Яны, відавочна, не настроены зрабіць хоць сімвалічныя крокі па яднанні беларусаў, па адмене несправядлівых прысудаў у дачыненні да **Алеся Бяляцкага, Міколы Статкевіча,** іншых вязняў сумлення, па зніжэнні ціску на няўрадавыя арганізацыі і незалежныя СМІ. Так сказаць, на байкот адказваюць байкотам. А шкада...

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ШЧЫРА

## Надзея АСТАПЧУК: «Трэнера ўгаварылі ўзяць на сябе віну»

*Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі прыняла рашэнне аб чатырохгадовай дыскваліфікацыі штурхальніцы ядра **Надзеі АСТАПЧУК**, хоць фармальна кропка ў доўгім разглядзе яшчэ не пастаўлена — канчатковае слова застаецца за Міжнароднай федэрацыяй.*

*Ці ўбачым мы Надзею на Алімпіядзе-2016 у Бразіліі? Чым зараз яна займаецца і ці не збіраецца з'ехаць на працу за мяжу? Ці насамрэч допінг у каву ёй падсыпаў трэнер? Аб гэтым спартсменка шчыра распавяла "Народнай Волі".*

Вердыкт антыдопінгавай камісіі, агучаны адносна не так даўно ў Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі, абвяшчае: *"У дачыненні да Надзеі Астапчук было прынята рашэнне аб чатырохгадовай дыскваліфікацыі".*

Больш за тое, станоўчай аказалася і пераправеранная проба Астапчук, здадзеная на чэмпіянаце свету 2005 года, што паставіла крыж на надзеях беларускага боку.

Тэрмін дыскваліфікацыі Астапчук (і, дарэчы, яе трэнера Аляксандра Яфімава) пачаў адлік з 8 жніўня 2012 года. У гэты ж дзень у 2016 годзе Надзея зможа зноў выйсці ў сектар і нават тэарэтычна ўзяць удзел у Гульнях у Бразіліі. Але...

— Сёння жыву звычайным жыццём, — распавядае Надзея. — Чалавечым, а не спартыўным.

**— Трэніруецеся?**

— Тры разы на тыдзень бегаю, хаджу ў трэнажорную залу. Адным словам, запісалася ў групу здароўя.

**— Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі вам прысуд яшчэ не вынесла?**

— Пакуль нічога не чуваць, але ж наша — Беларуская федэрацыя — без суда і следства мяне ўжо дыскваліфікавала. "Увалілі" 4 гады — і задаволены. І авечкі цэлыя, і ваўкі сытыя. Міжнародная федэрацыя маўчыць, бо яе, напэўна, задавальняе такое рашэнне. А так аспрэчвалі б. А нашы што агню баяцца судовых разборак, бо плаціць жа прыйдзецца. Трасуцца за свой няшчасны рубель. Вось і далі мне па максімуме, а зараз ціхенька працягваюць сядзець і заробак атрымліваць.

**— Тэрмін дыскваліфікацыі заканчваецца 8 жніўня 2016 года, значыць, тэарэтычна браць удзел у Гульнях вы можаце...**

— Не магу, бо, каб трапіць на Алімпіяду, мне неабходна будзе выканаць нарматыў, але спаборніцтваў ужо ніякіх не будзе.

**— Адным словам, можна сказаць, што на вашай спартыўнай кар'еры пастаўлены крыж?**

— Хутчэй за ўсё — так.

**— З трэнерам Аляксандрам Яфімавым, які заявіў, што гэта ён падсыпаў вам допінг-прэпарат у каву, адносіны падтрымліваеце?**

— Так, у нас нармальныя адносіны, ніякай крыўды на яго словы няма. Чалавек хацеў выратаваць мяне, узяў усю віну на сябе... Як можна на яго крыўдаваць? Ён павёў сябе як сапраўдны мужчына, як трэнер і родны чалавек. Ведаеце, 90 працэнтаў трэнераў у такой сітуацыі, падціснуўшы хвост, проста адышлі б убок. А Яфімаў са мной усё страціў: і заробак, і работу...

**— А якія гучныя заявы рабіў кіраўнік Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Ванхадла падчас прэс-канферэнцыі па вашай справе! Маўляў, расследаванне паказала, што Яфімаў падсыпаў допінг, сам прызнаўся, без аніякага ціску...**

— Я вам шчыра скажу: яго ўгаварылі ўзяць на сябе віну. А цяпер кажуць, што ён тады зманіў. Дык навошта вы яго дыскваліфікавалі, калі Яфімаў зманіў? Малайцы! Я, дарэчы, тады была супраць, каб Аляксандр Мікалаевіч браў на сябе віну. Але ён прыняў сваё рашэнне...

**— Зараз у вас шмат вольнага часу. Як яго бавіце?**

— Англійскую мову вывучаю.

**— Ёсць нейкія прапановы за мяжой?**

— Хапае прапаноў па трэнерскай рабоце, але яны мне не вельмі падабаюцца. Далёка ад дома, так што будзе цяжкавата... Да восені, магчыма, вызначуся.

**— Але жыць за нешта трэба...**

— У свой час я ўклала грошы ў бізнес сяброў — на жыццё мне хапае. Але ў будучым трэба займацца нечым іншым. Няма, як кажуць, у мяне прадпрымальніцкай жылкі.

**— Не сумна без трэніровак, спаборніцтваў?**

— Наадварот — зараз больш зносін з людзьмі, нейкія новыя знаёмствы. А што было раней? Дом — трэніроўка — дом... Так што ва ўсім можна знайсці нейкія



свае плюсы. Тыя сябры, якіх я добра ведала, і цяпер са мной. Уласна кажучы, дзякуючы ім і перажыла самыя цяжкія моманты.

**— Спартыўныя чыноўнікі, якіх вы ў свой час, можна сказаць, таксама праслаўлялі, тэлефануюць, цікавяцца вашым становішчам?**

— Тэлефануюць толькі з "Дынама". Там на самай справе хвалююцца, на кожнае свята віншуюць. А астатнія сядзяць як мышы пад венікам — не дай Божа цень на іх упадзе! Калі павітаюцца на вуліцы — ужо добра.

**— Надзея, ваша сямейнае становішча пакуль не змянілася?**

— Не змянілася — я па-ранейшаму халасцячка...

**Алесь СІВЫ.**

ШАХМАТЫ



## Из творчества читателей В.Жукович

**Белые:** Kpe1, Фb4, Лh4, Kc3, Ke3 (5).

**Черные:** Kpd3, пп. d4, g4 (3).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу, которую составил и прислал в редакцию наш постоянный автор, белорусский поэт и шахматист первого разряда Василий Алексеевич Жукович. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: 220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".

## О книге В.Сычова

Мы сообщали о книге известного белорусского мастера шахматной композиции Владимира Сычова "250 избранных композиций". Любители шахмат обращаются с вопросом, где можно ее приобрести. Дело в том, что в магазинах ее в продаже нет. Сообщаем, что по вопросу приобретения книги Сычова следует звонить по минскому телефону 245-19-90.

## Мемориал Д.Бронштейна

В феврале исполнилось 90 лет со дня рождения выдающегося шахматиста, неоднократного чемпиона СССР и победителя международных турниров Давида Ионовича Бронштейна. В 1951 году после победы в турнире претендентов, Бронштейн встретился в матче за звание чемпиона мира с обладателем шахматной короны Михаилом Ботвинником. Поединок завершился вничью — 12:12. Бронштейн несколько раз становился олимпийским чемпионом в составе сборной команды СССР.

Мемориал Бронштейна в Минске проводится уже много лет. Но раньше это был двухдневный турнир по быстрым шахматам. На этот раз благодаря спонсору — Московскому банку инвестиционных технологий — турнир проводился по классическим шахматам с рекордным призовым фондом. Так, первый приз составил 10.000 долларов, всего же было 16 призов плюс специальные призы. Это привлекло в белорусскую столицу 62 гроссмейстера из 20 стран! Всего же в главном турнире приняли участие 139 шахматистов. Соревнования проводились по швейцарской системе в девять туров. В острейшей борьбе победителем стал грузинский гроссмейстер Баадур Джобава, набравший 7 очков. Такой же итог у украинских гроссмейстеров Сергея Федорчука и Михаила Олексеенко, разделивших 2—3-е места. Лучший белорусский участник гроссмейстер Сергей Жигалко набрал 6,5 очка и завоевал четвертый приз. По 6,5 очка набрали также гроссмейстеры Александр Шиманов (Россия), Елтай Сафарли (Азербайджан), Габриел Саргиссян (Армения), Ильдар Хайруллин (Россия) и Ренат Юмабаев (Казахстан). Лучший результат среди женщин показала Гунай Мамадзаде (Азербайджан) — 5 очков. Такой же итог у саратовского гроссмейстера Геннадия Туника, ставшего лучшим среди ветеранов. Следует отметить успех 13-летнего минчанина Михаила Никитенко. Он финишировал с результатом 4,5 очка из 9 и повысил свой рейтинг на 52 (!) пункта.

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286609,3286904,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14031

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.04.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26530 экз. Заказ №1376.**